Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 8 жніўня 1986 г. № 32 (3338) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

# М. С. ГАРБАЧОЎ: «НАШЫ ПЕРАЎТВАРЭННІ...— ГЭТА САПРАЎДНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ»

Перабудова і паскарэнне. Гэтыя два словы, два паняцці ўладараць сёння ў краіне, матэрыялізуючыся ў тысячы розных спраў. Шлях гэты нялёгкі і складаны.

«На XXVII з'ездзе КПСС, — сказаў у сваёй прамове на ўрачыстым сходзе, прысвечаным уручэнню Уладзівастоку ордэна Леніна, тав. М. С. Гарбачоў, — справядліва падкрэслівалася: мы пачынаем няпростую справу, ставім сабе рэалістычныя, але цяжкія мэты, дасягненне якіх магчыма пры ўмове няспыннай вучобы ў жыцця, пастаяннага асэнсавання яе вопыту, урокаў, новых момантаў».

Знаходжанне Генеральнага сакратара ЦК КПСС на Далёкім Усходзе яшчэ раз прадэманстравала непарыўную сувязь партыі з народам. Перачытайце нанава рэпартажы аб шматлікіх сустрэчах Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова з рабочымі, сельскімі працаўнікамі, партыйнымі і савецкімі работнікамі, і вы яшчэ раз пераканаецеся, што адбывалася гранічна шчырая гаворка пра ўсё, што тычыцца жыцця народа, краіны, гаворка, дзе не было «забароненых» тэм, «дробязных» пытанняў, гаворка пра набалелае, пра тое, што трывожыць зараз кожнага чалавека. І вы з усёй вастрынёй адчуеце — ідэі апошняга партыйнага з'езда авалодалі самымі шырокімі масамі.

У выступленнях Генеральнага сакратара ЦК КПСС, у імправізаваных гутарках з працоўнымі надавалася вялікая ўвага хутчэйшаму пераадоленню негатыўных з'яў у нашым жыцці. «Калі мы палітыку правільна прапанавалі і народ яе разумее,—адзначыў на сустрэчы з працаўнікамі Хабараўскага краю М. С. Гарбачоў, — то трэба, каб актыўна дзейнічалі ўсе — кожны калектыў, кожны на сваёй пасадзе, на сваім рабочым месцы».

Задумаемся над гэтымі словамі. Сапраўды, хіба не ад кожнага з нас, не ад нашай працы, ад нашага сумлення, нашай свядомасці, нашай грамадзянскай смеласці залежыць — быць ці не быць паспяховым здзейсненымі планам, якія вызначаны XXVII з'ездам КПСС?

Не выпадкова сёння на парадку дня стаіць ёмістае паняцце — перабудова. «У апошні час мне часта даводзіцца гаварыць пра перабудову, — падкрэсліў у сваёй прамове на нарадзе актыву Хабараўскай краявой партыйнай арганізацыі Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў. — І тут, на Уладзівастоку, у Камсамольску-на-Амуры, амаль у кожнай гутарцы я закранаў гэта. Можа быць, у таго-сяго ўзнікне пытанне: ці не пачынаем мы патаратацца... Не, таварышы, і яшчэ раз — не. Робім мы гэта не выпадкова. Такая пастаноўка дыктуецца самой логікай нашага развіцця, жыццёвай неабходнасцю. Гаворка ж ідзе пра выключна сур'ёзныя і важныя для краіны працэсы. Вельмі многае залежыць ад поспеху перабудовы, каб дапусціць хоць бы малейшае аслабленне ўвагі да яе...»

Адным словам, гаворка ідзе не толькі пра маштабныя пераўтварэнні ў галіне эканомікі, але і пра ўсе бакі грамадскага жыцця — сацыяльныя адносіны, палітычную сістэму, духоўна- ідэалагічную сферу. Так, перабудову трэба кожнаму пачынаць з сябе, каб пазбавіцца састарэлых звычак, традыцый.

Праўда павінна сёння ўсталёўвацца паўсюдна. Працэс гэты складаны і не адназначны. Поспех яго залежыць ад нашай гатоўнасці быць непрымірымымі да зла, да ўсяго, што цягне нас назад.

«І не саромейцеся гаварыць праўду, — сказаў на сустрэчы з рабочымі авіяцыйнага завода імя Ю. А. Гагарына ў Камсамольску-на-Амуры Генеральны сакратар ЦК КПСС. — Не трэба ўступаць хамам, хапугам, тым, хто спрабуе зняважыць, пакрыўдзіць чалавека. Не ўступайце ім, іх час адыходзіць...»

Знаходжанне тав. М. С. Гарбачова на Далёкім Усходзе стала яшчэ адным яркім пацвярджэннем непахіснага курсу партыі, выпрацаванага XXVII партыйным з'ездам, курсу на глыбокія пераўтварэнні ва ўсіх сферах жыцця савецкага грамадства.

Мінулы тыдзень быў азнаменаваны і падзеяй, якая тычылася непасрэдна жыцця нашай рэспублікі. Адбыўся III пленум Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі, на якім з дакладам «Задачы партыйных арганізацый рэспублікі па выкананні рашэнняў чэрвеньскага (1986 г.) Пленума ЦК КПСС, Дзяржаўнага плана эканамічнага і сацыяльнага развіцця Беларускай ССР на 1986 — 1990 гады» выступіў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі тав. М. М. Слюнькоў. У дакладзе быў дадзены глыбокі аналіз эканамічнага становішча рэспублікі, яе сацыяльнай сферы. Было падкрэслена, што, нягледзячы на пэўныя станоўчыя зрухі ў выкананні планаў першага года пяцігодкі, устойлівага прагрэсу ў якасным развіцці эканомікі не адбылося. Тав. М. М. Слюнькоў прывёў шматлікія факты, што сведчаць пра недахопы ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, капітальным будаўніцтве, укараненні ў народную гаспадарку навуковых распрацовак, ідэалагічнай рабоце, якая адстае ад патрабаванняў сённяшняга дня.

«Наша важнейшая палітычная справа — умелая работа з кадрамі, пошук здольных таленавітых людзей, іх выхаванне, — падкрэсліў таварыш М. М. Слюнькоў. — ...Рашучы бой неабходна даць фактам валакіты, фанабэрыстасці, бюракратычных і няўважлівых адносін да чалавека».

Так, перабудова, якой жыве сёння наша краіна, трымаецца на чалавеку-працаўніку. Чулыя, клапатлівыя адносіны да яго — гэта адно з самых галоўных патрабаванняў нашай партыі, гэта адна з рашаючых умоў нашага паскоранага руху наперад.



Слава шчодрым рукам хлебароба. Фотаэцюд А. КЛЕШЧУКА.

## У НУМАРЫ:

# ТВОРЧЫЯ БРЫГАДЫ—У РАЁН ЧАРНОБЫЛЯ

**Зона Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, з якой былі эвакуіраваны жыхары, стала і зонай павышанай увагі камсамоліі рэспублікі. Па пуцёўках ЦК ЛКСМБ у воінскія падраздзяленні, якія займаюцца ліквідацыяй вынікаў аварыі, на будаўнічыя пляцоўкі выязджаюць спецыяльныя творчыя брыгады. Адна з іх нядаўна наведала паўднёвыя раёны Гомельскай вобласці.**

**У месцах, дзе праводзіцца дэзактывацыя заражанай мясцовасці, пабывалі кампазітар П. Альхімовіч, акцёр Тэатра студыі кінаакцёра А. Мірошнікаў, спявак У. Правалінскі, саліст ДАВТа БССР В. Стральчэня. Адбылося сем канцэртаў, у якіх гучалі песні беларускіх кампазітараў, у тым ліку І. Лучанка, выконваліся іншыя нумары.**

**Гэта ўжо другая творчая брыгада, што наведала раён Чарнобыльскай АЭС па пуцёўцы ЦК ЛКСМБ. Цяпер фарміруюцца яшчэ дзве.**

**Ю. СМОЛІЧ.**

## «ЛіМ» ВЫСТУПІЎ. ЯКІ ВЫНІК!

# «РАЎНАДУШША»

**Пад такім загалоўкам у «Літаратуры і мастацтве» за 30 мая 1986 года быў надрукаваны артыкул Уладзіслава Рубанава.**

**Як паведаміў рэдакцыі сакратар Магілёўскага абкома Кампартыі Беларусі В. Ганчарык, «факты, выкладзеныя ў артыкуле, мелі месца. Цяпер помнік воінам-землякам, што загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у вёсцы Аляксандраўка Слаўгарадскага раёна адрамантаваны. Тэрыторыя вакол яго добраўпарадкавана. Над помнікам устаноўлена шэфства мясцовай васьмігадовай школы.**

**Звернута ўвага Слаўгарадскага РК КПБ і райвыканкома на неабходнасць пастаяннага кантролю за падтрыманнем належнага парадку ў памятных мясцінах Слаўгарадчыны».**

## Нашы госці



**У складзе дэлегацыі Мангольскай Народнай Рэспублікі, якая прымала ўдзел у Днях культуры МНР у Савецкім Саюзе, былі член Сусветнага Савета Міру, Міжнароднай Асацыяцыі літаратурных крытыкаў, старшыня праўлення Саза пісьменнікаў Манголіі Дожаагійн Цэдэв і паэт Дунгуцыйн Цаадол. Літаратары з братняй краіны былі прыняты ў Саюзе пісьменнікаў БССР першым сакратаром праўлення Нілам Гілевічам і сакратаром Васілём Зуёнкам.**

**У ходзе гутаркі былі закрануты розныя аспекты творчых кантактаў паміж пісьменнікамі Савецкага Саюза і Манголіі і, у прыватнасці, паміж беларускімі і мангольскімі літаратарамі, гаварылася аб далейшым пашырэнні ўзаемасувязей, перакладчыцкай дзейнасці.**

**На здымку: злева направа — В. Зуёнак, Н. Гілевіч, Д. Цэдэв, Д. Цаадол.**

Фота А. КАЛЯДЫ.

## СЛОВА ПРА СЯБРА

Яго маладосць ад прыроджанага аптымізму і жыццялюбства. Ён сапраўды валодае шчаслівым, радасным талентам, а можа быць, і сакрэтам маладосці.

Асабіста я зазнаў яго маладым і такім ведаю на працягу ўжо некалькіх дзесяткаў. Як светла ўспамінаецца асабліва дарагая для нас пара стварэння нашай яшчэ зусім кволай «Вясёлкі», якая толькі-толькі вучылася хадзіць. У нашых размовах цяпер мы часта пытаемся адзін у другога: «А помніце?»

Помніце, як у красавіку 1957 года мы адзначалі дзень выхаду першага нумара нашага часопіса, шыкоўны з гэтай нагоды баль-маскарад і банкет у дзіцячым садзе № 2 па вуліцы Энгельса? Алесь Пальчэўскі, Сяргей Грахоўскі, Станіслаў Шушкевіч, Васіль Хомчанка, Эдзі Агняцвет, цёця Уладзя — жонка Янкі Купалы, Янка Маўр, мастак Валянцін Ціхановіч і мы з вамі былі гасцямі сваіх маленькіх чытачоў. Выдатны канцэрт, шчодры дзетсадаўскі абед і аж дзве шклянкі кампоту на кожнага тады ўпэўнілі нас цвёрда, што мы, дзіцячыя пісьменнікі, можам жыць прыпяваючы. Нас пракормяць нашы чытачы. Дзіцячых садоў і школ у рэспубліцы многа. І мы ахвотна выступалі ўсюды, куды запрашалі.

Са звароту: а помніце? мушу перайсці на апавядальную мову. Так лягчэй мне будзе болей падрабязна сказаць пра свайго таварыша, калегу па працы ў дзіцячай літаратуры Артура Вітальевіча Вольскаг

Тады ён кагадзе што напісаў свой славуты верш «Дзедаў госць». Гэта вясёлая і драматычная гісторыя аб тым, як унук абчыкрыжыў нажніцамі бараду свайму дзеду, бо не хацеў бачыць яго старым. Гэта было задоўга да моды на бароды. Цяпер жа першымі шчацінням зарастаюць не дзяды, а наадварот — унукі. Празаік Янка Брыль добра сказаў у рыфму: цяпер чым маладзей, тым барадзей.

А тады, калі мы пачыналі нашу «Вясёлку», далучаючы многіх сваіх таварышаў — і маладзейшых і старэйшых — да ўдзелу ў часопісе, тады яшчэ сапраўды дзіцячая літаратура магла сама сябе пракарміць, была не толькі, як кажуць, самаакупнай, але

**Як паведамляла ўжо газета, па запрашэнні Дзяржкамвыда СССР нашу краіну наведаў прагрэсіўны амерыканскі пісьменнік Джэй Хігінботам, аўтар апублікаванай нядаўна ў ЗША кнігі публіцыстыкі «Хуткі поезд «Расія». Збіраючы ў Савецкім Саюзе матэрыял для сваёй новай кнігі «Адкрыццё Расіі: людзі і гарады», пісьменнік выказаў жаданне наведаць Беларусь. За тыдзень, які Дж. Хігінботам правёў у нашай рэспубліцы, ён наведаў шэраг прамысловых прадпрыемстваў гарадоў Мінска і Брэста, саўгасы і калгасы Мінскай і Брэсцкай абласцей, быў госцем у сем'ях рабочых і калгаснікаў, наведаў мемарыяльныя комплексы «Хатынь» і «Брэсцкая крэпасць-герой», а перад ад'ездам у ЗША здаў як донар сваю кроў і пералічыў грошы ў фонд Чарнобыля.**

**Развітваючыся з нашай гасціннай Беларуссю, Дж. Хігінботам вырашыў падзяліцца сваімі думкамі з чытачамі штотыднёвіка, якому перадаў у рукапісе свой артыкул.**

Джэй ХІГІНБОТАМ

# Створым жывы помнік

Упершыню ступіўшы на беларускую зямлю, шчыра дзівішся тым вялікім зменам, што адбываюцца тут сёння.

Больш за сорак год назад старажытны Мінск у выніку аднаго з самых жорсткіх у гісторыі чалавецтва нашэсцяў быў цалкам разбураны. Але праз чатыры дзесяцігоддзі новы, малады Мінск паўстаў з попелу, як птушка Фенікс.

Хуткае аднаўленне і росквіт Мінска, спаленага і разрабаванага, патрабавалі напружання ўсіх сіл. Аптымізм ніколі не пакідаў беларускі народ. Дасягненні ў сельскай гаспадарцы і прамысловасці, ахове здароўя і народнай асвеце — відавочны для назіральнага турыста. Вядома, што Мінск (як і ўся Беларусь) займае ў краіне адно з вядучых месц як у развіцці навукі і тэхнікі, так і культуры. Сапраўды, сённяшні Мінск — адзін з гарадоў Савецкага Саюза, жыццё жыхароў якога надзейнае і трывалае. Калі глядзіш на гэты пабудаваны на руінах горад, у сэрцы расце ўпэўненасць і надзея на будучае.

Але не ўсё можа забыць савецкі народ. Праязджаючы па дарогах гэтай працавітай, добрай зямлі, я не мог не звярнуць увагу на шматлікія помнікі і манументы, збудаваныя ў гонар тых, хто аддаў сваё жыццё ў барацьбе за вызваленне Беларусі. Салдаты і партызаны не шкадавалі сябе, ішлі на смерць, калі гэта было неабходна Радзіме. Тыя, хто засталіся жывымі, і сёння— героі, тыя, каго няма з намі,—заўсёды ў сэрцы народным.

Але не толькі салдаты і партызаны гінулі на вайне. Стаяць помнікі і абеліскі бязвінным ахвярам, узвышаюцца абгарэлыя каміны над вёскамі, дзе некалі гулялі дзеці. Дзе ж яны? Згарэлі ў агні ці іх павезлі паміраць у германскіх канцлагерах ад непасільнай працы, голаду? Невядома. Але ж гэта жывыя стварэнні, яны заслужылі, каб іх помнілі: хай не героі, але ж бацькі, маткі, дзеці, звычайныя насельнікі Дражкоў, Ямішчаў, Зазер'я, тысячы іншых жыхароў ужо не існуючых вёсак.

Разважаючы пра лёс гэтых людзей, я не магу пазбавіцца думкі, што і я таксама чалавек таго ж пакалення беларускіх дзяцей — дзяцей вайны. Жыў бы я тут у саракавых гадах, мой лёс мог бы быць такім жа. І вось цяпер, як бацька сваіх дзяцей, схіляю галаву перад тымі бацькамі, што не змаглі выратаваць сваю сям'ю ад гэтай навалы, ад полымя, што жэрла ўсё жывое навокал. Хаця такі звычайны чалавек, як я, мала чаго можа зрабіць, каб прадухіліць сусветны пажар, але трэба нам усім рабіць усё магчымае і немагчымае.

Беларусь сённяшняя з яе старажытнай гісторыяй дае чалавецтву надзею і ўпэўненасць. Менавіта Мінск, адноўленая сталіца гэтай мірнай зямлі,— відавочны прыклад чалавечага прагрэсу і нямы дакор агрэсіі. Лёс Мінска — напамінак усяму чалавецтву: сумеснымі намаганнямі можна дабіцца поспеху, імперыялізм, расізм і жорсткасць павінны адысці ў вечнасць.

У памяць аб незлічоных ахвярах вайны давайце мы, жывыя, прысвяцім жыццё сваё барацьбе за мір і ўзаемаразуменне паміж усімі народамі і збудуем на зямлі беларускай помнік, які ніхто не разбурыць, жывы абеліск чалавеку — барацьбіту за мір ва ўсім свеце.

Пераклаў з англійскай В. ВАЛЫНСКІ.

## ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР

# МУЗЫКА І... ІНСТРУКЦЫЯ

**З дырэктарам Белдзяржфілармоніі У. П. Ратабыльскім гутарыць карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва»**

**К. — Будынак з калонамі на плошчы імя Якуба Коласа стаў адной з выдатнасцей сталіцы. Я сам бачыў, як экскурсавод тлумачыў чародцы замежных турыстаў аб прызначэнні будынка, дзе мы зараз з вамі, Уладзімір Пятровіч, гутарым. Філармонія. У тлумачальным слоўніку даецца наступнае вызначэнне гэтага паняцця: «Установа, занятая арганізацыяй канцэртаў і прапагандай музычнага мастацтва».**

**Якія яны, сённяшнія параметры Белдзяржфілармоніі?**

**У. Р.** — Па-першае, я хачу нагадаць, што мы закончылі свой 48 сезон. Што сёння ўяўляе сабой філармонія? Гэта — 600 творчых работнікаў, гэта — 14 тысяч канцэртаў у год, гэта — 4 мільёны гледачоў...

**К. — Лічбы ўражваюць, ды музыка бывае розная. Вакальна-інструментальныя ансамблі, ды яшчэ з «імем», амаль заўсёды збіраюць аншлаг, сімфанічная, камерная музыка, сур'ёзны вакал, на жаль, часта гучаць у паўпустых залах. Калі вы падводзіце вынікі, ці не атрымліваецца, як у тым вядомым анекдоце пра трусінае рагу, на прыгатаванне якога ішоў адзін конь і адзін трус. Калі гавораць пра сур'ёзнае музычнае выхаванне, маюць на ўвазе ўсё-такі, у першую чаргу, сур'ёзную музыку.**

**У. Р.** — Я вам назаву такія лічбы. За мінулую пяцігодку ўдзельная вага менавіта філарманічных канцэртаў вырасла на 7,4 працэнта і склала ў агульным аб'ёме 57,1 працэнта. Адбыліся змены ў структуры канцэртнага абслугоўвання і сельскай мясцовасці. Калі на пачатку мінулай пяцігодкі са ста канцэртаў шэсцьдзесят пяць тут былі эстраднымі, дык летась больш як пяцьдзесят працэнтаў ужо прыпадала на філарманічную музыку.

Штогадовыя фестывалі «Майстры мастацтваў — працаўнікам вёскі», стварэнне 83 тэатральна-канцэртных цэнтраў дазволілі за гады мінулай пяцігодкі павялічыць колькасць сельскіх слухачоў на 200 тысяч.

**К. — Некалькі гадоў назад мне давялося паездзіць з тагачаснымі кіраўнікамі філармоніі па раёнах Магілёўскай вобласці. Мэта паездкі была такая: паглядзець, да якой «глыбінкі» «даязджаюць» артысты. Вынікі былі несуцяшальныя. Як правіла, сталічныя артысты (ды і абласныя таксама) далей раённых цэнтраў ехаць не рызыкавалі. Вы сказалі, што колькасць сельскіх слухачоў павялічылася на 200 тысяч... Сельскіх — гэта вясковых? Ці жыхары раённых цэнтраў таксама ўваходзяць у гэтае паняцце?**

**У. Р.** — Не, толькі вясковых. У чэрвені, напрыклад, было арганізавана 70 канцэртаў для жыхароў паўднёвых раёнаў Гомельскай вобласці, блізкіх да Чарнобыльскай АЭС. На іх пабыло больш як 20 тысяч чалавек.

Увогуле, у нас неблагія паказчыкі. Мы ўзнагароджаны трыма пераходнымі сцягамі, у тым ліку Міністэрства культуры СССР. Асноўны напрамак дзейнасці філармоніі — прапаганда музычнага мастацтва ў самых шырокіх масах насельніцтва. У нас, напрыклад, ёсць дагаворы аб узаемнай шэфскай рабоце з Мінскім вытворчым аб'яднаннем імя У. І. Леніна, Мядзельскім раёнам Мінскай вобласці, Рэспубліканскім Палацам прафтэхадукацыі, воінамі Савецкай Арміі і г. д. На аснове гэтых дагавораў створаны лекторыі музычных ведаў, праводзяцца дні культуры, творчыя сустрэчы, шэфскія канцэрты. Для калектываў мастацкай самадзейнасці на базе філармоніі створаны кансультацыйны пункт.

Вялікую ролю ў прапагандзе музыкі адыгрываюць фестывалі «Мінская вясна» і «Мінская музычная восень». Значнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі сталі Дні літаратуры і мастацтва Беларусі ў Эстонскай ССР, у правядзенні якіх філармонія прыняла актыўны ўдзел.

Арганізацыя музычных фестываляў (сярод іх хацелася б адзначыць яшчэ такія, як «Майстры мастацтваў — працаўнікам Магілёўшчыны», «Полацкія музычныя досвіткі»), святаў песні стымулююць цікавасць гледачоў да розных жанраў музыкі, у тым ліку і да філарманічнай. Творчая сувязь з вядучымі калектывамі і салістамі краіны дала магчымасць правесці ў рамках гастроляў Маскоўскага камернага хору і аркестра «Віртуозы Масквы» фестываль «Маскоўскія зоркі».

Да канца XII пяцігодкі мы мяркуем стварыць 150 тэатральна-канцэртных цэнтраў, якія стануць апорнымі пунктамі ў прапагандзе музычнага мастацтва сярод сельскіх працаўнікоў.

Я быў бы няшчыры, калі б не сказаў і пра істотныя недахопы ў дзейнасці Белдзяржфілармоніі. Многія з іх — вынік заганнай структуры кіравання канцэртнай справай. Залішняя яе цэнтралізацыя (гастрольна-канцэртныя аддзяленні ў абласцях з'яўляюцца нашымі падраздзяленнямі) прывяла да таго, што на месцах гэты важны ўчастак ідэалагічнай работы амаль не кантралюецца. Даўно наспела стварэнне ў кожнай вобласці сваёй філармоніі. Мы з задавальненнем успрынялі пастанову аб стварэнні Брэсцкай філармоніі. Шкада толькі, што гэтай пастановай не прадугледжваецца таксама і будаўніцтва канцэртнай залы для гэтай філармоніі. (Наогул, па колькасці канцэртных памяшканняў мы займаем у краіне перадапошняе месца).

Існуе пэўная дыспрапорцыя паміж канцэртным абслугоўваннем насельніцтва рэспублікі сваімі сіламі і гастралёрамі. Каб ліквідаваць гэтую дыспрапорцыю, неабходна ў бліжэйшы час стварыць чатыры-пяць новых канцэртных фарміраванняў, ды толькі гэтую справу тармозяць ліміты заработнай аплаты, колькасць артыстаў, датацыі і г. д.

Чамусьці ва ўсім гэтым мы адстаём, напрыклад, ад нашых прыбалтыйскіх суседзяў. Гэта датычыць не толькі філарманічнай, але і эстраднай музыкі.

**К. — Я, вядома, не супраць эстрады, лёгкай музыкі. Але пагадзіцеся, апошнім часам ВІА, бывае, выхоўваюць у слухача не вельмі добры музычны густ. Дыктат гэтых ансамбляў тлумачыцца толькі попытам? Ці таксама фінансавымі меркаваннямі?**

**У. Р.** — Так. Нямала гадоў існуе інструкцыя, згодна з якой прыбытак плануецца асобна па эстраднай, асобна па філарманічнай музыцы. Аўтары інструкцыі тлумачылі яе клопатам аб развіцці прапаганды сур"ёзных музычных твораў. Маўляў, пры такім планаванні будзе навідавоку, якую ўвагу філармонія надае развіццю розных жанраў. У грашовым вызначэнні... Ды ёсць тут адно але — справа ў тым, што прыбытак ад

# СТАЛАСЦЬ ТАЛЕНТУ

нават давала выдавецтвам прыбытак, асабліва кнігі для дзяцей малодшага ўзросту.

Цяпер пасталеўшы і пабарадзеўшы, яна, дзіцячая літаратура, як гэта ні дзіўна і ні крыўдна, прыносіць выдаўцам толькі страты. І каб не нашыя дабрадзейныя мецэнаткі — багатая цёця Агата Крысці і яе вялікасць каралева Марго — прыйшлося б нам, дзіцячым аўтарам, жыць выключна на ясельных і дзетсадаўскіх харчах...

У чым сутнасць такога нечаканага парадокса?

Яшчэ да нядаўняга часу дзіцячая кніга тыражом 40—50 тысяч давала барыш, цяпер жа пры гэтых жа тыражах яна ˇбытачная. Усе мы ведаем прычыну: павялічыліся выдавецкія выдаткі, даражэйшай стала папера, і хоць тыражы засталіся тыя самыя, але ўжо тыраж 40 тысяч стаў найбольшым для нас. Ён — мяжа, Рубікон для дзіцячай кнігі, а для цёці Агаты або цёці Францувазы Саган тыраж не абмежаваны, ён можа быць бясконцы!

Артур Вольскі, дзіцячы пісьменнік, не горш за мяне ведае складанасць умоў, у якіх апынулася выданне беларускай дзіцячай літаратуры.

«Чалавек, якому баліць» — так называецца кніга яго выбраных твораў. І хоць яе назва непасрэднага дачынення да тэмы нашай размовы аб дзіцячай кнізе не мае, але чалавечы, грамадзянскі, пісьменніцкі, неспакой быў заўсёды ўласцівы яму. Ён не з тых літаратараў, каму як маслам па сэрцы ўцешна і прыемна было б чытаць, калі б я тут пачаў пералічаць усе яго паэмы, казкі, п'есы, сцэнарыі, ды ў дадатак да ўсяго пераказаў яго сапраўды слаўную біяграфію, паведаміўшы, калі і дзе ён нарадзіўся, якія пасады займаў, якія мае чыны і званні.

Звычайна пра пісьменніка мы чамусьці гаворым і пішам на мове рытуала. Артур Вольскі як літаратар імпануе мне прафесійнай культурай ва ўсіх жанрах, якімі ён найболей актыўна карыстаецца і ў дзіцячай і ў дарослай паэзіі, у драматургіі і ў распрацоўцы багацця фальклорнай творчасці. Не магу не адзначыць немалаважнай і цяпер не такой частай у нас аўтарскай якасці,як строгая патрабавальнасць і няўступчывасць да самога сябе.

Шмат спакус, ды што гаварыць — нават нейкага права (многія з нас ужо ў салідным узросце) выдацца як найпаўней — і вагой, і колькасцю: каму ў двух, каму ў трох, чатырох і г. д. тамах. Каму як удасца, як пашанцуе, у каго якая рука, якая пасада. Не адзін год працаваў у выдавецтве і Артур Вольскі, рэдагаваў многіх з нас, але, мабыць, нікога так прыдзірліва і строга, як самога сябе. Спамянёная кніжачка «Чалавек, якому баліць» пазначана падзагалоўкам: «выбранае». Выбранае аўтарам з усіх кніг да свайго шасцідзесяцігоддзя. З трох папярэдніх сваіх кніжак у выбранае ён уключыў толькі па 10—15 вершаў. Нельга не аддаць належнага такой патрабавальнасці.

Артур Вольскі, якога вайна ў 18-гадовым узросце прызвала ў Ваенна-Марскі Флот, старшына І стацці ўжо тады пісаў вершы, але не ўсе яны былі першаснацыйнымі. Гэта натуральна. Але ж нельга не адзначыць сам парыў юнака, яго імкненне ўбачыць родную зямлю, Радзіму і сваю Беларусь праз акіянскія далягляды. Зразумелая і ўласцівая гэтаму ўзросту і сама марская рамантыка. Пра гэта сведчылі нават назвы яго першых зборнікаў: «Водбліскі далёкага маякоў», «Далёкія і блізкія прычалы».

Далейшы кірунак паэтычных пошукаў у асэнсаванні жыцця у яго новых, пасляваенных творах ішоў ужо ад болей рэальных арыенціраў і крытэрыяў духоўнай значнасці і вартасці чалавека як асобы. Выпрабаванне на трываласць бачыцца яму ўжо не праз адну акіянскую стыхію. Ён спазнае, што ёсць выпрабаванні няменшыя — выпрабаванні душы. Верш, які называецца «Пакута», завяршаецца трывожным, але шчырым прызнаннем:

**А ноч, як чорная смала.**
**Заснуць не смею:**
**Што прысніцца?**
**Маланкі вострая ігла**
**Прашыла неба і ўвайшла**
**У грудзі. Будзе навальніца.**

Гэтым бязлітасным крытэрыем, калі ігла маланкі прабівае грудзі і навальніцай праходзіць праз паэтава сэрца, вызначаецца асабіста трагічны верш Артура Вольскага «Каменны ветразь», прысвечаны памяці сына. Мора, якое так рамантызаваў у юнацтве бацька, узяло ад яго невыказна цяжкую ахвяру — жыццё сына ў тым жа юнацкім узросце. Чытаць нялёгка гэтую бацькаву споведзь. Нялёгка чытаць і другі верш-рэквіем: «Плач па загінуўшым сыне».

Высокая сталасць думкі, адметнасць духоўна багатай асобы, грамадзянская мужнасць, напоўненасць жывым пульсам сучаснасці кожнага радка вылучаюць майстэрства Артура Вольскага асабліва ў дзвюх яго апошніх па часе кнігах: «Выратавальны круг» і «Строма», а такія яго рэчы, як «Памяці Куліны», як «Роздум над партбілетам», «Паміралі коні», «Пахаванне ветэрана», «Рубяжы», лірычная паэма «Берагі», па праву ўвайшлі ў творчы актыў паэта.

Асобна хачу спыніцца на вершах-прысвячэннях, адным з самых багатых і, напэўна, самым душэўна запаветным набытку лірыкі А. Вольскага. З іх у паэта магла б скласціся цэлая кніга, адметная нейкай незвычайна светлай і глыбіннай пранікнёнасцю ў душы людскія.

Гаворачы аб вершах-прысвячэннях, дарэчы заўважу, што яшчэ ніводзін з даследчыкаў не толькі ў нас, а і ўвогуле не ўзяўся прасачыць асаблівасці гэтага, назавём умоўна, віду творчасці. А гэта вельмі цікавая тэма для роздуму. Колькі паэты прысвячаюць адзін аднаму, дарагім, блізкім, сябрам сваіх радкоў, у многім нечым вельмі запаветных, шчырых, нават інтымных. Чаму адны з іх становяцца з'явай паэзіі, а другія — толькі сведчаннем факта, падзеі?

У А. Вольскага кожнае прысвячэнне — гэта своеасаблівая лірычная манаграфія аб чалавеку, яго адметнасці сярод іншых. На жаль, Вольскі амаль не піша эпіграм і пародый. Валодаючы трапнасцю і дакладнасцю бачання самых разнастайных характараў, ён, я ўпэўнены, мог бы ўзбагаціць гэты занядбаны ў нас жанр. На задворках нашых літаратурных выданняў вельмі ж па-залішвацку дзяруць лыка так званыя гумарысты, якія ў самой літаратуры лыка не вяжуць. Вольскі — вострa сучасны паэт, з жывой непасрэднасцю ўспрымання кожнай значнай падзеі і з'явы. Кагадзе толькі-толькі пачыналі абжываць мінчане такую раскошу, як метро. І вось яно ўжо ў радках паэта. Што гэта — рэпартаж, лірычны маналог, як яго называе сам аўтар? Усё гэта, урэшце, не мае істотнага значэння. Справа не ў форме і не ў жанры, а ў самім ракурсе ўспрымання і асэнсавання. Паэт убачыў падзею не ў знешніх, нейкіх трапных і яркіх дэталях і падрабязнасцях — няхай, і яны важныя, як сведчанне часу, але даражэй за ўсё для паэзіі самы далягляд і абсяг бачання. Лірычны рэпартаж Вольскага каштоўны ўжо тым, што магістраллю, пракладзенай будаўнікамі, аўтар арганічна звязвае наша мінулае з будучым, гісторыю шматпакутнага і гераічнага горада з яго слаўнай сучаснасцю.

Тунелі Мінскага метро, яго казачныя палацы ў радках паэта ажываюць і жывуць у трох вымярэннях часу: мінулым, сучасным і будучым, праходзячы праз гістарычны лёс цэлага народа і праз асабісты лёс паэта.

Мне вельмі дарагі гэты прыклад, які яшчэ раз пацвярджае думку, што якія б эксперыменты не вяліся ў паэзіі, як бы не здзіўлялі нас наватары пэўнымі фармальнымі адкрыццямі, а ўсё ж самае надзённае жывое слова гавораць паэты, на ўзбраенні якіх найболей выпрабаваная і дасканалая форма, што вызначаецца даступнасцю і выразнасцю.

Нашым чытачам і гледачам добра вядома плённая дынастыйная, сямейная традыцыя і вопыт Вольскіх па асваенні фальклорных скарбаў. Аддаўшы належны прыярытэт Вольскаму-старэйшаму, п'есы якога «Несцерка», «Цудоўная дудка» сталі ўжо нашай сцэнічнай класікай, мы ведаем набыткі ў гэтым жанры і Вольскага-малодшага, які шырока і паспяхова выкарыстоўвае фальклорныя багацці ў драматургіі для дзяцей.

У сузор'і беларускай літаратуры, дзе столькі выдатных майстроў слова, адметных яркасцю таленту, загарэцца новай зоркай неймаверна цяжка. Цяжка, але пачэсна. Пачэсна і радасна не толькі загарэцца, але доўга і шчыра свяціць людзям.

**Васіль ВІТКА.**

---

эстрады цалкам ішоў у мясцовы бюджэт. Сама філармонія практычна права на яго не мела. Пры такім парадку мы не маглі належным чынам стымуляваць развіццё іншых жанраў, скажам, той жа сімфанічнай музыкі. Не сакрэт, што сімфанічны аркестр патрабуе пэўнай фінансавай датацыі і працуе ў даволі жорсткіх фінансавых рамках (атрымліваецца, што чым радзей выступае аркестр, тым, як гэта ні парадаксальна, лацвей для філармоніі, бо менш выдаткаў).

Наогул, калі гаварыць пра фінансаванне філарманічнай дзейнасці, дык у гэтым, як я ўжо казаў, мы адстаём ад іншых рэспублік. Параўнайце: выдаткі на адзін філарманічны канцэрт у нас у 1984 годзе складалі 372 рублі, у Літве—800 рублёў, Эстоніі — 730 рублёў. Выдаткі на аднаго гледача —адпаведна 1, 2, 3 і 3,2 рубля.

Вас не шакіруюць гэтыя разлікі? Што зробіш — проза жыцця. Любая творчая арганізацыя — арганізацыя не толькі творчая. І тут ёсць бухгалтары, касіры, рахункаводы, павінен быць рахунак у банку. Адным словам, як і ўсюды ёсць фінансавы механізм. І вось тут узнікае шмат самых розных праблем. Я думаю, што ў іх аснове —састарэлыя правілы і інструкцыі. Пра іх не здагадваецца глядач, але для нас, арганізатараў канцэртнай дзейнасці, яны вельмі істотныя і часта перашкаджаюць у працы.

Узяць хоць бы палітыку цэнаўтварэння на канцэртныя білеты. Яна патрабуе цэнтралізацыі і ўдасканалення. Напрыклад, білет на канцэрт «Песняроў» у РСФСР каштуе 4 рублі, на Украіне—2 руб. 50 кап., у нас—3 руб. Розніца ў прыбытэтных долях прыбыткаў за канцэрты штурхае кіраўнікоў канцэртных арганізацый глядзець у першую чаргу на фінансавую выгаду канцэртаў, а не на неабходнасць і карысць культурнага абмену паміж рэспублікамі. Безнадзейна састарэлі інструкцыі, якія рэгламентуюць узаемныя разлікі за арэнду глядзельных залаў. Мы не можам зразумець, чаму арэнда мінскага Палаца спорту за адзін канцэрт складае 3,2 тысячы рублёў (самая высока аплата ў краіне). Такім чынам, Палац спорту атрымлівае за канцэрты ўдвая больш, чым сама канцэртная арганізацыя.

Мае патрэбу ў дапрацоўцы і сістэма аплаты артыстаў. Парадак тарыфікацыі канцэртных выканаўцаў, які існуе, не вырашае праблем іх матэрыяльнага стымулявання, творчага росту. Каб прайсці ўсе трохгадовыя цыклы тарыфікацыі і атрымаць самую высокую стаўку, вакалісту неабходна спяваць на прафесійнай сцэне 33 гады. Хіба гэта рэальна? Вельмі вялікая розніца ў аб'ёмах канцэртнай нагрузкі артыстаў розных жанраў — ад 8—9 да 21 выступлення.

**К.—Як я зразумеў, Уладзімір Пятровіч, галоўнымі паказчыкамі работы філармоніі з'яўляецца колькасць канцэртаў і колькасць гледачоў. Даруйце, але мне здаецца, што самае галоўнае — гэта ўзровень эстэтычнага выхавання гледачоў. Хіба ў нас мала выпадкаў продажу білетаў «у нагрузку»? А арганізацыя дзіцячай аўдыторыі? Мне неаднойчы даводзілася бачыць на канцэртах школьнікаў, многія з якіх апынуліся тут, адразу было відно, выпадкова, і тое, што адбываецца на сцэне, іх абсалютна не цікавіць. Школьны абанемент. Як быццам і ўражвае — цэлая школа прыйшла слухаць арган. Але ж, будзем шчырымі, «аддача» тут мізэрная. На маю думку, нічога нельга рабіць па прымусу, тым больш любіць музыку.**

**У. Р.** — Я з вамі тут не магу пагадзіцца. Дзіцячая душа вельмі ўспрымальная. Раз, другі, трэці прыйшоў падлетак на канцэрт, а там, глядзіш, і з'яўляецца ў яго цікаўнасць да музыкі, патрэба слухаць яе.

**К. — Колькасць перарастае ў якасць?**

**У. Р.** — Бывае, што перарастае. Хай гэта будзе ў дзесяці чалавек са ста,—лічу, мы сваю задачу выканалі.

Ведаеце, зараз у газетах часта кляць з людзей, якія збіраюць кнігі толькі для таго, каб упрыгожыць інтэр'ер. Людзі гэтыя, сапраўды, не заслугоўваюць асаблівай павагі. Але мы забываем, што ў многіх такіх сем'ях растуць дзеці, якія заўсёды вельмі цікаўныя. У тым ліку і да кніг. Не-не ды выцягне падлетак кнігу з шафы, перагарне яе, ці не тут можа зарадзіцца любоў да чытання?

Вядома, нам вельмі хацелася б, каб да нас ішоў слухач падрыхтаваны. Асабліва гэта тычыцца дзіцячай аўдыторыі. Ды што рабіць, калі ўзровень эстэтычнага выхавання ў многіх школах застаецца вельмі нізкі?

Думаю, мы зрабілі добрую справу, арганізаваўшы канцэртныя абанементы для школьнікаў усіх узростаў, студэнцкай моладзі.

**К. — Уладзімір Пятровіч, мне неаднойчы даводзілася бачыць, як працуюць распаўсюджвальнікі білетаў, у тым ліку і на канцэрты. Некаторыя з іх маглі цікава расказаць пра спектакль ці канцэртнага выканаўцу, былі людзі дасведчаныя, у пэўнай ступені эрудзіраваныя. Звычайна білеты ў іх раскупляліся імгненна. Але бачыў я і іх калег, якім было, відаць, усё роўна, што прадаваць білеты на канцэрт віяланчэліста ці селядцы ў магазіне. Мабыць, распаўсюджвальнікі білетаў павінны матэрыяльна добра заахвочвацца?**

**У. Р.** — Я зноў павінен спыніцца на інструкцыі, якая даўно састарэла і вельмі нам перашкаджае. Я маю на ўвазе менавіта распаўсюджвальнікаў білетаў на канцэрты. Праца ў іх здзельная, колькі прадаў — столькі атрымаў. Дык вось інструкцыя лімітуе іх заробак — не больш 200 рублёў у месяц. Вось і бывае, што чалавек «выпрацаваў» гэтую суму ў пачатку месяца, а потым сядзіць, склаўшы рукі, бо задарма працаваць не хоча. І гэта ў той час, калі падлічана, што 10 рублёў зарплаты распаўсюджвальніка даюць 180 рублёў прыбытку.

**К. — Сапраўды, Уладзімір Пятровіч, існуе нейкі феномен інструкцыі. Усе ведаюць, разумеюць, што яна састарэла, што, акрамя шкоды, нічога не дае, а ўсё-такі інструкцыя «жыве», яе трэба абавязкова выконваць. Я разумею, што лягчэй інструкцыю скласці, зацвердзіць, чым скасаваць... У чым тут справа? У сіле бюракратычных устанаўленняў?**

**У. Р.** — Скасаваць інструкцыю бывае проста немагчыма. Стукаешся ў розныя дзверы, даказваеш адказным асобам, што ад той інструкцыі адны страты дзяржаве. Усё роўна ў адказ чуеш, што інструкцыі, правілы, пастановы прымаюцца для таго, каб іх выконвалі, і калі, мауляў, кожны пачне разводзіць самадзейнасць, дык...

Справа, бывае, даходзіць да кур'ёзу. Некалі філармоніі выдавалі энную колькасць талонаў на таксі. Цяпер гэтае правіла скасавалі. І што адбываецца? Прыехаў, напрыклад, на гастролі ў Гродна вядомы выканаўца. Натуральна, яго трэба сустрэць на вакзале, адвезці ў гасцініцу, праз некалькі дзён зноў на вакзал і г. д. Дык вось мы для гэтай мэты наймаем машыну ў Мінску і адпраўляем яе за 300—400 кіламетраў у тое ж Гродна. Бо на месцы наймаць транспарт мы не маем права.

Абвешчанае апошнім партыйным з'ездам патрабаванне перабудоўвацца, мысліць іншымі катэгорыямі трэба ўсім нам успрымаць як працэс незваротны.

**Інтэрв'ю ўзяў М. ЗАМСКІ.**

**Пімен ПАНЧАНКА**



## *Паэма сораму і гневу*

Я рос бяздумным дурнем, як і ўсе,
І славіў росквіт,
Светлы век машынны.
Глядзеў з пагардай на каня ў аўсе,
На воз бацькоўскі свежай канюшыны.

Я цэрквы закрываў,
Я абразы паліў,
Сялянскую маёмасць перапісваў.
І нюхалі нішчымныя палі
Кароў галодных
Родныя мне пысы...

Вайна ўсім прачысціла мазгі:
Жыццё і смерць,
І праўда, і сумленне
Адкрыліся між гора і тугі
У першародным матчыным значэнні.

Сябры часоў вайны...
О, божа мой!
Стагналі,
Нібы пёк палын у роце.
Не бачылі ў агні перадавой.
(Я не пра тых,
Хто вёў баі на фронце).

Яны жылі ў маскоўскіх нумарах,
Пілі гарэлку, трэскалі тушонку.
Калі іх працінаў за блізкіх страх,
Дык прыязджалі суцяшаць іх жонкі.

Не страшны фашыстоўскі ім бандыт!
Пісалі ў цеплыні пра кроў народа,
Па Беларусі плакалі наўзрыд,
Вылізвалі сабе узнагароды.

Мы з перамогай ехалі дамоў
Край аднавіць разбіты і пануры:
Сумленнай праца будзе, без прамоў,
Навекі справядлівасць запануе...

Ды тыя,
Хто штодня крычаў «ура»,
Правадыровы помнікі драбілі.
Нам нахлусілі зноў:
«Прыйшла пара
Багацця, шчасця».
Стаў я зноў дэбілам.

Я ссек сады,
Прынёс бяду лясам,
Я сеяў кукурузу на балотах.
Абкрадзены народ
Пачаў цягнуць і сам,
І п'яніцы валяліся пад плотам.

Настала эра паразітаў і папер.
Зямлю я разлюбіў,
Уцёк з калгаса.
І працы мудры лад
Ледзь не пагаснуў.
А я пісаў пра дробязь
І... цярпеў.

То я ўзрасціў няўмек і гультаёў.
Застой. Крадзёж.
На складах — горы дрэні.
Зямлі і праўды,
Мовы і гаёў
Ірвалі мы спрадвечныя карэнні.

Я не збярог Купалу,
Мову не збярог.
Мне літасці няма і даравання.
Канчаецца апошняя з дарог,
Век ядзерны пачаў сваё рыканне.

«Ідзі хутчэй у свой любімы бор, —
Крычыць,— не ты ў бядзе той вінаваты».
Я сам сабе суддзя і пракурор, —
Ну хоць шукай стары трафейны
«вальтэр».

Убачыў я апошні свой раз'езд,
Апошнюю пляцоўку для адпраўкі...
Ды грымнуў тут
Выратавальны з'езд,
З'езд ачышчэння,
Абнаўлення, праўды.

Пра паскарэнне, якасць —
Шмат прамоў.
І пішуцца запозненыя п'есы.
Аматарам расправы —
Тысяча вымоў.
Зноў загучалі франтавыя песні.

Ды нехта ўсё ж
Баіцца злыдняў кратаць,
Гросмайстраў ашуканства, пахвальбы.
Сталы перастаўляюць хмурыя ілбы —
Чыноўніцкі прагрэс для бюракратаў.

З іх кожны дбае толькі пра сябе,
Па-новаму ўжо хлусіць —
Звыклая карціна.
Я радуюся нашай барацьбе,
Але баюся
Зноўку стаць крэтынам.

Жыццё — з любові, працы і пакут,
Адновім чалавечую іх вартасць!
А гнеў і сорам мне душу пякуць,
І гне маё сумленне вінаватасць.



Фотаэцюд М. БЯЛЬКОВІЧА.

Дык хто мы?
Песняры ці хлусняры?
Я добра жыў:
Пакутваў і спагадваў,
Я веру Леніну
З дзіцячае пары...
Няхай агнём бязлітасным гарыць
Свет бюракратаў, махляроў і гадаў.

## *Удовін гай*

А цяжар той вайны — шматпудовы...
Не журыся, не плач, не ўздыхай.
Пасярэдзіне Мінска удовы
Пасадзілі бярозавы гай.

Тут бярозы то стогнуць пад ветрам,
То маўкліва стаяць у цішы.
І жанчына ідзе ў Запаветны
Да роднай душы.

Тут з кожным лісточкам гавораць
І скардзяцца тут.
Засыпана чорнае гора,
А ў памяці — вечны статут.

Бярозы, як людзі, то плачуць,
То грозна гудуць.
Ці бацьку, ці дзеда пабачыць
І дзеці, і ўнукі ідуць.

Мой Мінск, беражы гэты гай,
Няхай жа радзее,
О, родны бярозавы край
Журбы і надзеі!

## *Паслядоўнік*

Вясною цвітуць крапіва і дзядоўнік,
Вы іх прыгажосць заўважаеце?
Я ў творчасці
Маці сваёй паслядоўнік,
Бо знаю сакрэт,
Чаму кнігаўкі жаляцца.

Яна прывучыла мяне спачуванню
І птушцы падбітай і дрэву зламанаму.
Яна навучала нас без павучання,
Заўжды засланяла ад слова падманнага.

Апроч майго старога буквара,
Вучоных кніг ніякіх не чытала.
Рабіць яна ўставала ледзь зара,
Наліснікі на скавародзе лістала.

З павагай да суседзяў мы раслі:
«Пабудзь адзін: бягу на дапамогу».
І маці, як матулі ўсёй зямлі,
Была маім найлепшым педагогам.

Нам завяшчала сумленныя сцежкі,
Бо справядлівых шануе зямля;
І не саромецца простай адзежкі,
І не саромецца мазаля.

Мо для таго і старасць нам даецца,
Каб матчыну навуку паўтарыць:
Някідкае — прывабным зноў здаецца,
Звычайнае — жывым агнём гарыць.

І цягнецца стамлёная душа
Да кожнага малога мураша.
Як хораша быць маці паслядоўнікам!
Цвітуць цудоўна крапіва з дзядоўнікам.

●

Гады наваліліся, нервы патрэпаны,
І нейчая злосць б'е балюча пад рэбры.
І будзеш ты думаць: каму ты патрэбны?
І будзеш ты думаць: ці ўсе нам
патрэбны?

Нідзе ні агню, ні зарніцы не бачу.
Відаць, цішыню я не перакрычу.
І што вам з таго, што я часам заплачу,
І што вам з таго, што я зарагачу.

А моладзь да нас, франтавых, не
падоб

А як ім духоўнасць уліць у душу?
А можа, я сам—дыназаўрдапатопны —
Не вартыя моладзі вершы пішу?

Ім пляваць на нашы званні
І нікчэмныя вянкі:
Па свайму ў іх распісанню
Адыходзяць цягнікі.

Яны не спазналі крывавасці лютай.
Што ўхопіш — тваё,
Што адрэжаш — з'ясі.
І бог — тэлевізар, касеты, камп'ютэр...
А можа, яны не такія зусім?

Хоць век спажывецкі,
Ды справа не ў часе:
Глынуць і яны чад інакшых баёў.
Каб мне загадалі:
Жыві, далучайся!
Жыццё зноў пражыў бы я толькі сваё.

## *Ля жыта*

Калі я ўспомню
Аб пражытым,
Жыцця гартаю
Спісаны сшытак,
Пачуць хачу я
Дыханне жыта.
Не скіба хлеба —
Душы патрэба.

Па радыё знарок
Крычаць штодня пра брак,
То аглушае рок,
То лекцыя пра рак,
То Дэбюсі,
То «Бі-бі-сі»...

І не заменіць
Радыё-няня
Ні калыханкі,
Ні калыхання,
Ні матчын голас,
Ні спелы колас.
Ні расшавеліць
І не спакусіць
Ні грошай шэлест,
Ні хітрасць хлусаў.
Мы адшумелі,
Маўчым, маўчым,
Нібы шумеры
Ці крывічы.

Стаю ля жыта,
Малюся жыту,
Пішу пра жыта,
І зноў пра жыта:
Умее жыта
Душу лячыць.
Пакінь, зязюля,
Гады лічыць!

Жаўранка песня
У небе дрыжыць...
О, божа мілы,
Як добра жыць!

# КНІГАПІС




А. ЗАРЫЦКІ. Вершы. Серыя «Бібліятэка савецкай паэзіі». Пераклад з беларускай. М., «Художественная литература», 1986.

**Прызначэнне серыі «Бібліятэка савецкай паэзіі» — прапагандаваць усё тое лепшае, што створана савецкімі паэтамі, прадстаўнікамі розных нацыянальных літаратур Савецкага Саюза. Некалькі гадоў у гэтай бібліятэчцы выйшла кніга А. Пысіна, і вось усесаюзны чытач атрымаў магчымасць пазнаёміцца з творчасцю яшчэ аднаго майстра беларускай паэзіі.**

**У раздзелах «Сонца скрозь лісце», «На сакавіцкіх дарогах Францыі», «Восенню сорак першага», «На ўстрывожанай зямлі» змешчаны лепшыя вершы, напісаныя А. Зарыцкім на працягу 1937—1982 гадоў. Творы пададзены ў перакладах А. Пракоф'ева, М. Рыленкава, Я. Хялемскага, Б. Кежуна, Л. Озерава, П. Кошаля, У. Гардзейчава, І. Бурсава і іншых, а таксама самога аўтара.**

**Ва ўступным артыкуле «Пра сябе» А. Зарыцкі згадвае свае шляхі-дарогі.**

**Г. МАРОЗАЎ.**




А. КАПУСЦІН. Радзіма — любоў наша вечная. З дарожнага дзённіка. На рускай мове. Мінск, «Беларусь», 1986.

**Серыя «СССР — братэрства народаў», у якой выйшла кніга нарысаў А. Капусціна «Радзіма — любоў наша вечная», міжвыдавецкая. Зборнікі, што выпускаюцца ў ёй, з'яўляюцца дакументальным летапісам сучаснасці, які калектыўна вядуць пісьменнікі і журналісты краіны, раскрываючы характары савецкіх людзей-інтэрнацыяналістаў, што ў адзінай сям'і народаў-братоў будуюць камуністычнае грамадства.**

**Нарысы, якія ўвайшлі ў кнігу «Радзіма — любоў наша вечная», часцінка гэтага летапісу. У апошні час А. Капусцін пабываў на Пскоўшчыне і Кольскім паўвостраве, у Татарскай АССР і на Далёкім Усходзе, наведаў Чувашыю, любаваўся прыгажосцю Байкала... Расказваючы пра гэтыя паездкі, ён не проста знаёміць чытача з тым, што найбольш запомнілася. Галоўнае для А. Капусціна — перадаць, як у чалавечых лёсах паўстае лёс самой Радзімы.**

**Інтэрнацыянальная тэма гучыць таксама ў нарысах «Пасадзілі ружы сталявары», «Бацькавай дарогай», героі якіх жыхары роднай пісьменніку Жлобіншчыны працуюць поплеч з прадстаўнікамі іншых народаў.**

**У нарысе ж «На палескай зямлі» гаворыцца пра братоў-літоўцаў Бружасаў, што знайшлі сваю другую радзіму ў Хойніцкім раёне.**

**С. ВАГАНЬКОЎ.**

## ЧЫТАЦКІ ДЗЁННІК ПІСЬМЕННІКА

**Алесь РАЗАНАЎ**

# ЗНАКІ ВЕРТЫКАЛЬНАГА ЧАСУ

### ЛІСТКІ ЗАПІСНЫХ КНІЖАК

Прырода бесперастанна паказвае і падказвае мастацтву мадэль творчасці: як з яйка прадзюбваецца птушаня, як з зерня вырастае парастак, таксама і твор узнікае са сферы закрытасці, з лона, у якім яго няма загадзя, навідавоку, наяве, але ў якім ён ёсць як магчымасць.

Твор — таксама нараджаецца, твор — таксама праходзіць свой інкубацыйны перыяд, увідавочніваючы сабой невідавочнае, тамтэйшае, захаванае. Без гэтага глыбокага шляху не можа адбыцца ні адкрыцця, ні палёту.

Разбі яйка — там птушаняці няма, раструшчы зерне — коласа там не знойдзеш, яны ў той якасці, якой вянчаецца ўвесь працэс.

Прырода мастацтва — што і «прырода» прыроды: яно адкрыццё закрытага, «откровение сокровенного».

З цягам часу, сталеючы і старэючы, чалавек як бы развучваецца рабіць тое, што ўмеў адмыслова рабіць раней, і ўсе яго намаганні вярнуць колішнія здольнасці аказваюцца няплённымі, марнымі.. Здольнасці — павадыры: яны існуюць адымаючыся, ведучы, запрашаючы за сабой. Адымаючы цябе самога з таго месца, дзе ты знаходзішся, выводзячы на сустрэчу з наступнасцю, з якой нельга «ўмець» абыходзіцца.

Лірычныя, публіцыстычныя ці метафарычныя, ямбічныя ці харэічныя, фальклярычныя ці урбаністычныя вершы... —яны, здавалася б, валодаюць усімі атрыбутамі паэзіі, аднак характар і сутнасць паэзіі вызначаюцца не гэтай, даволі вонкавай, атрыбутыкай, а нечым фундаментальнейшым, а менавіта канцэпцыяй і вобразам Чалавека, які, атаясамліваючыся з асобаю творцы, так ці інакш прысутнічае і аб'яўляе аб сабе ў творы.

Рэчаіснасць не толькі матэрыя, як мастак не толькі пэндзаль, рука і вока. Ён толькі тады і здолее адлюстраваць рэчаіснасць, калі яна сама захоча адлюстравацца ў ім, калі яна пазнае сябе ў ім і такім чынам пазнае — і прызнае — яго самога.

Пазнаём рэчаіснасць, пазнаючыся — і прызнаючыся — ёю. Без гэтай узаемнасці твор застаецца схемай твора, мастацтва — імітацыяй мастацтва.

С к р ы н к а. Калі яе адчыняюць, яна скардзіцца, яна скрыпае. У ёй захоўваецца скрытае — скарб. Ім яна поўная, ім змястоўная, ім ацэньваецца яе вартасць. Усе думаюць, што яна скнара, што яна «рынак», але сама скрынка ведае, што яна скрыпка, у якой няма струн.

Жыццё кожны раз падводзіць чалавека да краю жыцця, нагадваючы, што яно не самамэта, што жыць, каб адно толькі жыць, нельга. Чалавек «далейшы» за жыццё, і не можа ён сцвердзіцца ў ім інакш, як толькі пераадольваючы, пераўзыходзячы яго.

Які б ні быў глыбокі акіян— ён усё роўна мае паверхню, якая б ні была плыткая лужына — яна ўсё роўна мае паверхню.

Цела — таксама паверхня, «нулявы ўзровень» быцця, адваротнае дно, яно не можа «патануць» у быцці, але ў залежнасці ад таго, што там, за ім, лужына альбо акіян, мяняюцца яго паводзіны, яго аблічча, яго не месца-, а сэнсазнаходжанне.

Прыгожая мова — не ўся мова, гэта толькі адзін з яе пластоў, адзін з яе стыляў.

Чалавек мысліць не толькі роўна, але і шурпата, не толькі плаўна, але і абрывіста, не толькі лагічна, але і нелагічна, не толькі правільна, але і няправільна, і таму, габлюючы шурпатую мову, непазбежна ў нечым яе спрашчаем, схематызуем, не даём магчымасці прабіцца да святла парасткам нязвыклых думак.

Месца паэта не наперадзе прагрэсу, не ззаду, не пасярэдзіне, не збоку, яго месца там, дзе ён ужо ёсць, — н а  м е с ц ы. Ён — пункт адліку быцця, пункт супадзення скрыжавання і раздарожжа. У які бок ён ні пайшоў бы, ён траціць паўнату свайго прызначэння, свайго унікальнага становішча. Яго шлях не па паверхні зямлі, дзе буяюць хмызы і кветкі вонкавых уражанняў, не па гарызанталі, а па вертыкалі, — у вышыню сусвету, у глыбіню сваёй сутнасці.

Х л е б. У адрозненне ад рускага «хлеба» беларускі «хлеб» больш зямны, ён генетычна памятае свой радавод, сваю радзіму — глебу. Хлеб — лепшы: з усіх страў, з усіх харчункаў; ён аснова — глеба — надзённага чалавечага жыцця. На выгляд ён чорны, але па сваёй сутнасці белы.

Пытанне і адказ... Паміж імі існуе не інфармацыйная, а трансфармацыйная сувязь. Інакш аб'ём любога адказу не змог бы запоўніць аб'ёму пытання, яно ўсё роўна заставалася б як нешта, што мае свой аўтаномны змест і сваю аўтаномную форму.

Пытанне вычэрпваецца, перастае існаваць, трансфармуючыся, анігілюючыся, знікаючы разам з адказам і такім чынам становячыся новым станам свядомасці, чыстай і ад аб'ёму пытання, і ад аб'ёму адказу.

Цяжкасці дазваляюць ісці хутчэй. Кісцяпёрая рыба, выйшаўшы на сушу, «пайшла» хутчэй і «дайшла» ажно да чалавека.

Літаратура развіваецца не лінейна, а пасоўваючыся ў папярэдняе, у мінулае, ушчыльняючыся. Жывое шукае жывое, і новыя творцы знаходзяць пад напластаваннем дзесяцігоддзяў, а то і стагоддзяў, сваіх папярэднікаў, каб узаемадзейнічаць з імі і, працягваючы іх, расці далей. Адтуль расці.

Гэтак садоўнік, ходзячы па садзе, абразае на дрэвах засохлае голле, вяртаючы заўтрашнім атожылкам жывую аснову, вяртаючы сапраўднасць.

Паэзія нешта прынцыпова іншае, чым размова, чым аргумент у размове. Яе карані ў бязмоўі.

«Слова, народжанае маўчаннем і розумам, — адзінае выратаванне. Слова, народжанае словам, — згуба», — гаворыцца ў «Азначэннях» міфалагічнага Гермеса Трысмегіста.

На пытанне Пілата: «Што ёсць ісціна?», той, у каго ён пытаўся, адказаў. Адказаў вельмі своеасабліва — маўчаннем.

Размова — мова думак, маўчанне — мова ісціны.

Вершы, у якіх карані напаказ, могуць стаць вершамі-цытаванкамі, але не вершамі-адкрыццямі.

Як архітэктурнае збудаванне «абапіраецца» не на матэрыял — цэглу, дрэва, бетон, жалеза, шкло, — а на ідэю, увасобленую ў ім, так і паэзія «абапіраецца» на бязмоўе.

У глыбінях чалавечай існасці слоў няма.

Віртуозы слова, хутчэй арыгінальныя выканаўцы, чым арыгінальныя творцы.

Творчасць — індыкатар, своеасаблівы дарожны знак: кожны раз яна паказвае табе самому, дзе ты цяпер і які ты цяпер.

Л о в ы. Яны палавінныя, яны палююць: адна палова намагаецца дагнаць другую, левае — правае, свавольнае — вольнае. На шляху ловаў паўстаюць завалы. Паўтараючы гук «о», трубіць паляўнічы рог. У ловах кшталтуецца лоўкасць, але самі яны пахнуць воламі.

Тыя якасці, якія ў прыродзе збалансаваны і суразмераны, у мастацтве згушчаюцца, канцэнтруюцца. Яны, як знахарскія зёлкі, могуць быць лекамі, атрутай альбо бескарысным рэчывам. І гэта ў залежнасці ад таго, хто ён, мастак, што ён зычыць свету.

Душа, пра якую Янка Брыль сказаў, што яна не падарожніца, здаецца, наогул складаецца з адных суцэльных «не». Яе стыхія інтуіцыя, а не рацыё. Яна прынцыпова нічога не «ўмее» і найпаўней рэалізуецца тады, калі яна нязмушаная, незададзеная. Калі ж яна пачынае «ўмець», тады парушаюцца асновы культуры: творчасць пераўтвараецца ў рамяство, мастакі — у чаляднікаў, мастацтва — у службу.

У чалавечым жыцці ёсць шмат такога, што адбываецца толькі ў ім і што ў навакольным свеце не пакідае слядоў. Таму гісторыі дастаюцца падзеі, а мастацтву—людзі.

Усё ж такі прызначэнне паэзіі не метафарызаваць рэчаіснасць, а пераўтвараць яе ў з'яву наступнага парадку — у энергію, у сэнс, у святло, у будучыню; не ўзбуджаць, а будзіць.

Метафара не набліжаецца да рэчаіснасці, а — хутчэй наадварот — аддаляецца ад яе, не прасвятляе яе, а скажае. Гэта бачанне зрокам, які запалоньваюць «бярвёны і парушынкі», ілюзорнае бачанне, «цікавае», бачанне, якое грунтуецца на «так мне ўяўляецца» і прадметы ў якім двояцца, траяцца і не пазнаюць самі сябе.

Вышэйшая паэзія — не метафарычная паэзія, — сведчаць і паэты, і вершы.

Л ё д. Вада змяшчае ў сабе лёд, як сваю іпастась, як сваю патаемную патэнцыю. Лёд літы, чысты, празрысты; ён замкнёны палёт па гарызанталі, дол, пад якім зімуе казка. Лёд можна каштаваць, як мёд, яго смак — холад.

На адной лінгвістычнай карце ўбачыў свае мясціны, заштрыхаваныя ў касую лінейку: пераходна-мяшаная гаворка — значылася там. Куды пераходная, з чым мяшаная? Што яна, гурт кароў, які пераходзіць з месца на месца і, не ўпільнаваны пастухамі, можа змяшацца з іншымі гуртамі? Гэта і не дыялектычны, і не дыялекталагічны падыход. У кожнай гаворкі ёсць свой непаўторны воблік, свае непаўторныя рысы. Як не існуе «пераходна-мяшаных» людзей, так не існуе «пераходна-мяшаных» гаворак. Іх трэба акрэсліваць і азначаць, не папіхаючы ў той ці іншы бок, а пакідаючы на тым самым месцы, дзе яны ёсць, паводле іх саміх. А то такімі сляпымі-касымі штрыхамі можна закасаваць усе свае асаблівасці.

Заўважаем тое, што маем, разважаем пра тое, што маем, і кажам: багатыя тым, што маем.

Але азіраешся назад — і бачыш тое, што магло спраўдзіцца, але не спраўдзілася, магло адбыцца, але не адбылося, і шкада гэтага няспраўджанага і ў сабе, і ў іншых.

Урэшце, для чалавека плённыя толькі тыя ўзоры рэчаіснасці, якія знаходзяцца на шляху яго росту, яго чалавечай эвалюцыі. Усё тое мноства занятказ і спраў, якія, магчыма, некалі для чалавека ўяўлялі цікавасць і значнасць і браліся ў запас, але якія не адпавядалі характару ягонай сутнасці, усё роўна з цягам часу мусяць пакінуцца — як затрымка і перашкода.

У чалавеку, у яго адносінах да самога сябе супадае і праяўляецца трохмерная шкала самаўсведамлення, модусы якой: **я, ён, ты** — вядуць чалавека па жыцці. Гэтыя модусы з'яўляюцца і геніямі літаратурных жанраў: **я** — паэзіі, **ён** — прозы, **ты** — драматургіі.

З л о — зялёнае, як зелле. Яно, як змеі, мае схову ў зямлі. У ім тоіцца вастрыня лёзаў. Яно становіцца адкрытым і круглым, калі выспявае, калі пераўтвараецца ў дабро — у сваю дыялектычную процілегласць.

У рамане Сцівена Кінга «Мёртвая зона» галоўны герой рамана, экстрасенс, трымаючы ў руках пачок ад цыгарэт, намагаецца і нічога не можа сказаць пра яго ўладальніка: пачок маўчыць. Так і ў пісьменніцтве, так і ва ўсім: мы заўважаем і кажам тое, што адгукаецца нам, што само падае нам свой голас.

Адна немагчымасць — гэта толькі немагчымасць. Але сума немагчымасцей дазваляе ўзнікнуць новаму стану рэчаў — магчымасці.

«Палімпсест» — прыгадаў гэтае слова і гэты верш Уладзіміра Жылкі, калі пабачыў, як сям-там рэдагуецца спадчына: наклейка на наклейцы, купюра на купюры... Усё яшчэ недастаткова адкрытая, усё яшчэ не-

**(Заканчэнне на стар. 6).**

# ЗНАКІ ВЕРТЫКАЛЬНАГА ЧАСУ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

дастаткова вывучаная і ацэненая, яна не мае магчымасці выконваць у грамадстве сваю неабходную і адно толькі ёй уласцівую ролю. Неактывізаваная спадчына не проста прысутнічае ў пасіве, але бесперастанна траціцца, вычэрпваецца. Як энергія, якая не пераўтвараецца ў карыснае дзеянне. Як святло, якое затульваюць каптуры.

Традыцыйны — канвенцыйны — верш акцэнтуе ўвагу на сабе, верлібр — на іншасці. Яго фокус па-за ім.

Чаму паэту, які ўчора пісаў цікавыя глыбокія вершы, сёння гэта не ўдаецца? Хаця, здаецца, і вопыту ў яго больш, і жадання не менш...

Зразумела, паэт не валадар над вершамі і не іх вытворца («Паэт не той, хто піша вершы, не...» — паводле Уладзіміра Някляева). Але і не прылада, якой пішуцца вершы. Без яго добраахвотнай волі, без яго свядомай адносіны, без яго асабістага і асабовага ўдзелу немагчыма ніякая творчасць.

Паэт — не выключэнне сярод людзей, а, хутчэй, правіла, праява універсальнага сусветнага закону, які ён жа сам і фармулюе. І ад таго, як ён яго фармулюе, залежыць яго жыццё, яго творчы лёс.

Парог. Перад парогам— будучыня, ззаду — мінулае, але сам ён «парожні». Ён—рог, ён—злом, ён — тая мяжа, якая перагароджвае час і не належыць часу; ён нязменна цяперашні, нязменна сучасны. Парог — наш «рок»: мы стаім на парозе — на самым няўстойлівым, на самым цяжкім месцы, але на ім здабываецца перамога.

Калі доўга не бачышся з кімнебудзь са знаёмых, пры сустрэчы, бывае, не маеш яму што і паведаміць: мяняецца маштаб, якім вымяраецца твой час.

Мадэль часу нагадвае кола: у ім ёсць акружнасць і ёсць цэнтр, дынаміка і статыка, цэнтраімклівае і цэнтрабежнае...

Акружнасць множная, цэнтр цэласны, для акружнасці ўсё здараецца, для цэнтра — адбываецца, акружнасць мысліць лінейна, цэнтр — радыяльна, на акружнасці пануе выпадак, у цэнтры — заканамернасць, на акружнасці — «макра», у цэнтры — «мікра», на кожны мікрон якога прыпадаюць зорныя кіламетры макраадлегласці.

Чалавек пастаянна супрацоўнічае і з цэнтрам, і з акружнасцю, і, у залежнасці ад таго, у якіх стасунках знаходзіцца ён з імі, мяняецца маштаб — і якасць — яго жыцця і мыслення. Чым больш ён «акружлівы», тым больш ён асобны і асабовы, чым больш «цэнтральны», тым больш усіхні і ўсюдны.

Самая-самая сэрцавіна часу як бы іншародная самой прыродзе часу, яна нерухомая, але ў ёй змяшчаюцца ўся зямля і ўсё неба.

Літаратура пра вайну, пра вёску, пра настаўнікаў ці інжынераў... Усім «пра» ўласцівы модус мінуласці. І калі твор не пераадолеў тэмы, ён яшчэ нямы, нямоглы.

Усе значныя адкрыцці ўзнікалі на мяжы «не можа быць», на мяжы нонсенсу. Нонсенс — неабходны фактар жыцця, неабходны фактар творчасці. Смерць — нонсенс, але жыццё раіцца з ёю.

«Гучныя» паэты падобныя да купцоў, якія хваляць свой тавар, «ціхія» — на тавар, які чакае сваіх купцоў.

Прастата, якая не прайшла стадыі складанасці, — прымітыў.

Мастацтва мае на ўвазе звышзадачу. Вырашаючы проста задачу, яно не можа ў ёй ні праявіцца, ні расцвісці. Яго, як касмічны карабель, жывяць звышадлегласці. Разам са скарачэннем адлегласцей скарачаецца і яно самое.

Рэгламентаваныя пошукі — не пошукі: у іх адсутнічае самае асноўнае — фактар навізны, фактар невядомасці.

Зброя. Чалавека, які бярэцца за зброю, зброя таксама забірае. Яна забароненая, яна і абарона. І з таго, і з гэтага боку яна аб'ядноўвае ўсіх, як сяброў, як братоў, але паміж самімі гэтымі бакамі разворвае баразну барацьбы.

На зброі зазубрыны, але ў ёй вызвоньвае старадаўняе — «зубрынае» — высакародства бронзы.

Зброя: на полі бою разбураны бор целаў, над полем бою «абразовы» рой душаў.

Запаветнай мэтай мастацтва ва ўсе часы былі не новыя творы, а новы чалавек. Калі гэтая мэта гублялася, мастацтва драбнела, плытчэла, «залітаратурвалася», станавілася ўменнем — сумай прыёмаў і навыкаў.

Мастацтва Адраджэння таму і ўзвышаецца на цэлую галаву над іншымі эпохамі, бо гэтая галава належала новаму чалавеку.

Як шмат у літаратуры такой літаратуры, якая патурае чалавечым недахопам, слабасцям, заганам, жывіць і актывізуе іх.

Калі б раптам чалавецтва знайшло ў сабе сілу вызваліцца ад усіх гэтых сваіх немачаў і ўзнялося на прыступку вышэй у сваім станаўленні, што засталося б ад літаратуры?!

Літаратура, якая толькі тым і займаецца, што фіксуе, сцвярджае, услаўляе існуючае становішча рэчаў, кепская памочніца чалавеку.

Сцвярджаючы рэчаіснасць, зацвярджаем яе: робім занадта цвёрдай, занадта каменнай — нездатнай да развіцця, непранікальнай для зроку і думкі.

Вершы — своеасаблівыя клеткі, у якіх знаходзяцца незлічоныя паэтавы двайнікі. Яны любяць быць навідавоку, яны любяць быць надворнымі — каб іх разглядалі, каб іх слухалі, каб пра іх гаварылі. І свабоду яны апяваюць, не жадаючы пакідаць гэтае сваё жытло.

Апрача агульнага рытму-памеру, у вершы існуюць і надаюць яму адметны выгляд мікрарытмы — галасы слоў, якія яго «насяляюць».

Рытму, які не чуе гэтых галасоў, словы нічога не здолеюць сказаць.

Дабро і зло сумесныя, сумешчаныя — як скрыжаванне і раздарожжа. Калі чалавек кіруецца ў бок дабра, ён адначасова кіруецца і ў процілеглы бок: да аднаго — насустрач, да другога — насупраць.

Далонь. Падарунак, які даўся — у самую руку, у дзве рукі, каб усё жыццё меў яго з сабою, каб глядзеў у яго, нібы ў карту альбо люстэрка, каб разумеў, што бачу, — мой жыццяісны, мой «лонны» дол, на якім доля малюе свае адзнакі і рысы.

Узор рэлятыўнай прыроды часу: з пункту гледжання каменя ўсё, што ёсць, ужо было, з пункту гледжання промня ўсё, што ёсць, — будзе, з пункту гледжання чалавека ўсё, што ёсць, — ёсць.

Тыя падзеі і клопаты, якія выклікаюць так шмат спадзяванняў і пярэчанняў, з цягам часу аб'ектывізуюцца, становяцца своеасаблівымі археалагічнымі пластамі, у якіх усё «на месцы».

Мы ходзім па падзеях і лёсах, спрабуем іх разгадаць — уваскрасіць, яны для нас таямніца. Аднак, уваскрошаныя, вернутыя ў сучаснасць, у мову, яны забываюць сябе, не памятаюць сваёй таямніцы, не могуць растлумачыць, чаму тое, што ёсць, можа быць тым, чаго няма.

Таямніца — прысутнасць у адсутнасці. Падзеі і рэчы не валодаюць ёю, яна модус чалавечай свядомасці, якая ва ўсім бачыць свой след, сваё месцазнаходжанне, бачыць сабой, але не бачыць сябе.

Праз рознасць патэнцыялаў свядомасці звычайнай і надзвычайнай (прадбачання, інтуіцыі, натхнення) узнікае ток, што рухае думку, што жывіць творчасць

Будучыня належыць не часу, а чалавеку, яна чалавечая заваёва. І вымяраецца яна не часам, а чалавекам, «чалавечым фактарам» — ступенню тоеснасці быцця чалавека і яго свядомасці.

Будучыня не там і не тут. Будучыня — у нас.

Чытачы чакаюць ад паэта не новых вершаў, а новага слова. Вершаў шмат, не стае слова.

Брук — дарожны друк, вухналі, загнаныя ў хаду дарогі, каб не расслізгваўся рух. У ім часткі намагаюцца перайсці ў адзінства, у ім хвіліны намагаюцца сабрацца ў час. Брук выпаў з рук, выпаў пад ногі. Яго нораў і круглы, і круты. Брук барукаецца з бязладдзем, але бурчыць і на гладкапіс. Па бруку грукае воз. У возе бручка, морква і буракі.

Калі чалавек атаясамліваецца са званнем, пасадай, заняткам, функцыяй, тады ён самаабмяжоўваецца, застойваецца, бо ні званне, ні занятак не здольныя эвалюцыяніраваць. Яны заклапочаныя ў адным — у самазахаванні і самасцвярджэнні, у захаванні і сцвярджэнні існуючага парадку рэчаў.

Адзінай самай небяспечнай інстанцыяй для гэтага «рэчаўнага» парадку з'яўляецца чалавек: гэта ён адмаўляецца прызнаваць над сабою ўладу вонкавых абставін, гэта ў ім заключаюцца ўсе змены і прагрэсы, гэта яго натхняе свабода, і сам ён найбольш рэалізаваны, найбольш «чалавечы» тады, калі ён найбольш нічый і ніякі, калі, паводле слоў украінскага філосафа Рыгора Скаварады, свет яго ловіць, але не можа злавіць.

Крытыка — лоцман, і калі яна кампліментарная, то «карабель», які яе слухаецца, перастае арыентавацца ў прасторы, перастае разумець, хто ён і дзе ён.

## ДЗВЕ ДУМКІ

**У лімаўскай пошце з'явіліся дзве рэцэнзіі, у якіх па-рознаму ацэньваецца першы зборнік Галіны Булыкі «Сінтэз», які нядаўна выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Паколькі вершы Г. Булыкі вылучаюцца тэматычна і стылёва ў плыні маладой беларускай паэзіі, «ЛіМ» змяшчае на сваіх старонках гэтыя дзве думкі.**

**Запрашаем і чытачоў прыняць удзел у размове аб праблемах і тэндэнцыях сучаснай паэзіі.**

# Партрэт шкла

КАЛІ паспрабаваць у некалькіх словах адказаць на пытанне: адкуль пачынаецца паэзія аўтаркі «Сінтэза», адным з верагодных адказаў будзе наступны: ад здзіўлення са шкла. І калі б трэба было ахарактарызаваць усю кнігу толькі праз адзін вобраз — такім вобразам мог бы паспяхова стаць і вобраз шкла. У найбольш шырокім значэнні шкло ў вершах Галіны Булыкі — знак, сімвал усяго складанага і незвычайнага, што знаходзіцца з намі побач і не ўспрымаецца, не ўсведамляецца, зацьмененае нашай звыкласцю і абыякавасцю:

**Распаленае шкло, — агонь чырвоны,**<br>
**Бурштынны бляск, павольны і густы, —**<br>
**Гарачай кропляй падае без звону,**<br>
**Каб цудам стаць і ў цудзе тым застыць.**<br>
**(«Гартаванне шкла»)**

У найбольш вузкім, прыкладным значэнні шкло (мокрае шкло) — прасцейшая мадэль тэхнікі выяўлення ў жывапісе і ў паэзіі, калі ўсё: і рухі, і лініі, і час — мякка размытыя, але акрэсленыя, як бы пакрысе плывуць, сцякаюць, не губляючы рэальнай перспектывы:

**Цякла вада, струменьчыкі цягнуліся,**<br>
**І шэры цень ўстрывожана радзеў.**<br>
**Размытая па шкле, дрыжала вуліца,**<br>
**Нібы адлюстраванне на вадзе.**<br>
**(«Мыццё акна»)**

У маленстве, не пазбаўленыя яшчэ першабытнага паэтычнага ўспрымання, мы шчыра здзіўляемся той простай ісціне, што шкло зроблена з пяску, і ўпарта шукаем у яго празрыстасці хаця б слабы напамін пра ранейшую яго структуру. Потым не здзіўляемся нават таму, што аконнае шкло, аказваецца, цячэ, няхай сабе і незаўважна для чалавека. Цячэ шкло, цякуць па ім кроплі дажджу, цячэ жыццё. Цячэ час, чалавек падрастае і бачыць прыгажосць толькі за шклом: за аконным шклом, пад шклом, праз шкло акуляраў. Але чамусьці не бачыць яе ў самім шкле і проста побач з сабой, у звыклых, штодзённых з'явах, рэчах, не пад музейным шклом...

Аднак хаця шкло выконвае ў паэзіі Г. Булыкі функцыю уні-

# «Пішы святлом!»

Я ДОЎГА вагаўся, перш чым узяцца за пяро і напісаць гэтую рэцэнзію. Я думаў, што мой крытычны сверб пройдзе сам па сабе. Ён жа выдаўся нястрымным і неадольным.

Як і многія іншыя прыхільнікі беларускай паэзіі, я, канечне, таксама з нецярпеннем чакаў выхаду ў свет, па сутнасці, першага зборніка вершаў Галіны Булыкі. Да гэтага быў знаёмы з яе вершамі па публікацыях у рэспубліканскім перыядычным друку і нізцы вершаў у калектыўным зборніку «Сцяжына». Яе паэзія выклікала ўвагу да сябе не наватарскімі прыёмамі пісьма, а навізной тэматыкі і думкі. Самой паэтычнай рэалізацыяй думкі і слова.

І вось — кніжка... Паблажліва-стрыманая прадмова да яе паэта Рыгора Барадуліна. Вядомы майстра паэзіі піша: «Як бы наіўна-далекаватым гэта не здалося, думаю, што Галіна Булыка ў іншым часе і ў другой мове, мове беларускай, аглядваецца на Ламаносава з ягонымі натурфіласофскімі вершамі і роздумамі». Безумоўна, свежая думка! Бо дагэтуль нашы крытыкі і рэцэнзенты давалі шанц аглядвацца маладым паэтам толькі на Купалу, Багдановіча, Куляшова, Пысіна, Рубцова... Падсвядома паўстае пытанне: а чаму б маладым не ўглядвацца ў творчую лабараторыю жывых Танка, Панчанкі ці таго ж Барадуліна і не павучыцца рамяству ў іх без усялякай агляцкі, прымяраючыся да надзённага жыцця, да свайго часу, да сённяшніх трывог свету?

Агляналіся, аднак, на Ламаносава... Наступае, значыць, на пяткі... Ці ён яшчэ ўсё далёка наперадзе нас? І не аглядвацца, а ўзірацца трэба ў ЯГО:

**Открылась бездна, звезд полна.**<br>
**Звездам числа нет, бездне—дна.**

Вось давайце і мы будзем не аглядвацца, а ўглядвацца.

Кніжка вершаў Г. Булыкі «Сінтэз» складаецца з трох раздзелаў: «Вечная прага ведаў», «Ёсць горад мой...» і «Час надзеі». Цяжка даць нейкую дакладную характарыстыку вершаў з першых двух раздзелаў, якія ў нечым агульным тэматычна родняцца. Можа, спроба паэтычнага зразумення зямных матэрый? Бо ў асноўнай масе сваіх вершаў паэтэса спрабуе даць навукова-паэтычную ацэнку неадухоўленаму рэчаізму. Серабро, золата, бронза, граніт і г. д. А пачынаецца кніжка вершам пра хлеб. Праўда, таксама гліняны... Фінал верша такі:

**Ішло за пакаленнем пакаленне,**<br>
**Хаваў вякі і вейкі часу склеп.**<br>
**Раней, чым узнікала разуменне,**<br>
**Бывала зразумелым слова «ХЛЕБ».**

Дабротна, прафесійна напісаны верш. Але чаму мяне не хвалюе, не пераконвае, сцвер-

версальнага сімвала, знака, «Сінтэз» — кніга, якая аб'ядноўвае творы вельмі розныя і па тэматыцы, і па канкрэтнаму зместу, і па манеры выяўлення. Таму характарыстыку кнігі немагчыма даць праз адзінкавы вобраз, хаця асноўную яе тэндэнцыю і эстэтычную задачу аўтаркі «цудоўнае шкло» змалага адлюстроўвае.

Тэматычна зборнік свядома шматпланавы; не з'яўляецца ён цэльным і стылёва (звязана гэта з пошукамі, эксперыментамі аўтаркі ў галіне зместу і формы): вытрыманы, спакойны стыль гістарычных вершаў суседнічае з эмацыянальным пісьмом у вершах пра каханне, рацыянальна-выбуховы стыль вершаў пра навуку і агніста-цвёрды склад твораў накшталт «Гліны», «Ёду» мяжуе з наўмысна спрошчанай, раскавана-кідкай манерай выкажання вершаў «Алегра», «Фрагмент турысцкай паездкі», «Універмаг», «Чаканне аўтобуса», «Курорт»; надзвычай цікавы стыль вершаў пра мастацтва са спробамі судакранання-стылізацыі паэтычнага твора пад канкрэтную манеру канкрэтнага мастака ў жывапісе... І, канечне, не абышлося без своеасаблівага «прахаднога» стылю (спадзяёмся, ён «пройдзе» незваротна) у некалькіх прахадных вершах («Партовы горад», «Шчодрасць», «Верасень», «Ён пакуль безымены...»).

Такая тэматычна-стылявая разнастайнасць тлумачыцца імкненнем аўтаркі паказаць чалавека і сусвет у іх еднасці і ўзаемапранікненні, паказаць свет чалавека ва ўсёй яго складанасці і супярэчлівасці, ва ўсім яго багацці і ў тэндэнцыі да развіцця. Чалавек прысутнічае ў кожным вершы кнігі, але не толькі чалавек, а і сусвет вакол яго (шкло, золата, малюнак). Паэтычны сусвет — адлюстраванне сусвету рэальнага, і ў гэтых адносінах паэтычны сусвет «Сінтэза» не абмяжоўваецца толькі пачуццямі і эмоцыямі чалавека ды агульналітаратурнымі малюнкамі прыроды. Паэтка ўводзіць у сферу дзеяння, здавалася б, зусім не паэтычныя з'явы і прадметы, асвойвае іх эмацыянальна і эстэтычна. Не канкрэтныя падзеі, даты гісторыі, а гісторыя ўвогуле цікавіць паэтку, таму ў яе вершах амаль няма дакладных дат.

У гісторыі Г. Булыка бачыць перш за ўсё не гісторыю войнаў, дзяржаў, відовішчных бітваў, а гісторыю чалавечай працы, (вершы «Гліняны хлеб...», «Драўляны век», «Шавец», «Камень», «Гарт», «Аднадрэўкі», «Кальчугі»).

Вершы пра горад радуюць сваёй натуральнасцю, арганічнасцю. Аўтарку цікавіць мінулае горада, яго архітэктурнае развіццё, яна мае здольнасць вылучаць характэрныя рэаліі гарадскога жыцця (напрыклад, ва «Успамінах аб парадных пад'ездах»), падмячаць каларытныя дэталі:

**Сціплы маленькі кіёск на рагу**
**Тыдні гартае, як пачатак**
**газетны.**
**(«Прахадны двор»)**

Калісьці Паўлаў сказаў, што прырода спазнае сябе праз чалавека, і ў гэтым сэнс жыцця і сусвету. Менавіта незаспакоенасць, заўсёдную прагу ведаў у чалавека падкрэслівае паэтка ў вершах пра навуку. У «Матэматычным трыпціху» зроблена спроба не толькі паказаць паэзію матэматыкі, але і — спроба насыціць паэзію вобразнасцю матэматычных тэрмінаў (локан Аньезі, стужка Мёбіуса, камбінаторыка). Праўда, вобраз стужкі Мёбіуса, які здаўна прыцягвае да сябе ўвагу філасофскай лірыкі, метафарызаваны ў аднабакова маральным плане, тым самым —звужаны, збеднены, хаця ў межах верша такі падыход магчымы.

Сама назва кнігі — «Сінтэз» — думаецца, лагічная і дакладная з пункту гледжання манеры выяўлення паэткі, яе прынцыпаў стварэння паэтычнага твора; непакоіць толькі магчымасць другаснага ўспрымання чытачом сэнсу назвы: як павеў моды і процістаўленне навукі паэзіі.

Цікавы падзел кнігі на тры часткі з асобнымі назвамі, але само размяшчэнне вершаў не заўсёды адпавядае зместу канкрэтнай часткі.

Вершы пра каханне, за выключэннем асобных твораў («Post scriptum», «Гэта дробязі — раўнасць, злосць...»), адпавядаюць сярэдняму ўзроўню і пакуль што не ўзнімаюцца вышэй яго.

Цэнтральнае месца ў кнізе займаюць такія вершы, як «Горны лён», «Лазурыт», «Бурштын», «Гіпс», «Свінец», «Золата», «Агонь», «Гліна», «Ёд» і інш. Яны вызначаюць аблічча кнігі, найбольш поўна акрэсліваюць тое новае, што вылучае Г. Булыку сярод маладых паэтаў. У кожным вершы паэткі прысутнічае чалавек, не выключэнне і гэтыя «рэчыўныя» вершы, дзе прысутнасць чалавека часам толькі праглядваецца, цьменіцца праз іншы, суседні аб'ект. Вершы такога плана для беларускай паэзіі нязвыклыя, хоць прыкметы іх з'яўлення назіраліся ў творчасці А. Вярцінскага і М. Стральцога:

**Не стала глебай —**
**засталася глінай.**
**Ні кветак не ўзрасціла,**
**ні травы...**
**Пад коўзкай цінай**
**Каля рэчкі плыннай**
**Ляжала цяжкім скарбам**
**нежывым.**

**Ёй не было ні страшна,**
**ні балюча,**
**Калі яна тушыла бляск ляза**
**Рыдлёўкі**
**І агонь прыручвала,**
**А той удзячна твар яе лізаў,**

**Не стала глебай.**
**Засталася глінай.**
**Жыцця ніводнай кветцы**
**не дала...**
**Гліняны глячык з роўнядзі**
**стала**
**Глядзіць у свет**
**Вачамі кветак сініх.**
**(«Гліна»)**

Пра што гэты верш? Пра гліну? Пра мастацтва (карыснае і прыгожае)? Пра чалавека, складанасць яго лёсу? Пра сэнс жыцця? Пэўна, пра ўсё разам, і ўсё ж — пра гліну. Колькі няздзейсненасці, заклятасці, болю: не стала, не ўзрасціла, нежывым, не было, не дала жыцця, зноў не стала! І — як збавенне, дараванне ўсяго — нечаканы эквівалент: глядзець у свет вачамі кветак сініх. Аўтарка тут амаль не выкарыстоўвае прыёму адухаўлення (акрамя слоў «Глядзіць», «твар», «вочы»). Усе дзеянні, працэсы максімальна набліжаны да фізічна магчымых, рэальных для рэчыва і ў той жа час маюць далёкую паралель з рухамі і дзеяннямі чалавека; нечакана і натуральна паказана ўсеагульная еднасць і ўзаемапранікненне матэрыі ў сусвеце: ва ўнутранай сутнасці чалавека ёсць драбок сутнасці гліны, і наадварот, гліна валодае ўласцівасцямі і адпаведна паводзіць сябе пад уздзеяннем знешніх працэсаў, выяўляючы агульныя заканамернасці сусвету (гліна як і вада, і камень валодае магчымасцю захоўваць інфармацыю, своеасаблівай памяццю).

Магчыма, вакол кнігі Г. Булыкі ўзнікнуць і спрэчкі, не ўсе ўспрымуць яе эстэтычныя прынцыпы і перакананні; калі б такія спрэчкі ўзніклі — яны б пайшлі толькі на карысць і паэтцы, і паэзіі.

**Сяргей КАВАЛЕЎ.**

---

джанае канцоўкай верша? Таму, што я ў корані не згодзен з думкай Г. Булыкі, што «раней, чым узнікала разуменне, бывала зразумелым СЛОВА (выдзелена мною.—**Л. Г.**) «ХЛЕБ». Хутчэй за ўсё была зразумелай жыццёвая, фізіялагічная патрэба ў хлебе, а не яго (хлеба) абазначэнне тым ці іншым словам. Такое вось абавязковае жаданне падвесці навуковую аснову да кожнага верша часта ставіць паэтэсу ў позу разгубленасці перад гармоніяй навукі і паэзіі. Праўда, я не бачу ў такім жаданні нічога заганнага. Наадварот. Мы помнім, што яшчэ вялікі Пушкін імкнуўся «алгебрай гармонію праверыць».

Прага ведаў — зайздросная рыса характару. Ды сёння цяжка ці амаль немагчыма сказаць у паэзіі сваё новае, адметнае слова без шырокага кругагляду. У перадз'ездаўскай анкеце часопіса «Маладосць» Л. Дранько-Майсюк пісаў, што паэты сённяшняй новай генерацыі мала праяўляюць зацікаўленасці да культурных і гістарычных праяў. А ў ліку тых, хто падобную цікаўнасць праяўляе, вылучаў і Г. Булыку. І не без падстаў. У паэтэсы сапраўды шырокі і разнастайны дыяпазон бачання свету і нават яго заглыбленых напластаванняў. Але, дарагія мае, толькі ад адной зацікаўленасці «нечым» не нараджаецца яе светласць ПАЭЗІЯ! Для гэтага яшчэ трэба ВЕДАЦЬ тое «нешта» і суперажыць сябе з веданнем. А то, як трапна піша ў вершы «Паскарэнне» сама Г. Булыка, можа атрымацца і так:

**Паскараем хуткасць існавання.**
**Раскладаем атамы на цені.**
**Ценяў паляванне.**
**Адставанне —**
**Не паспець за розумам**
**сумленню!**

Высокай пробы паэзіі, як і нейкіх нечаканых адкрыццяў, у кніжцы, на жаль, малавата. Большасць з тых — а гэта ў добрым выпадку каля двух тысяч чалавек, — хто прачытаў ці прачытае гэтую кніжку вершаў, пэўна ж, маюць не менш як сярэднюю адукацыю. А асноўная большасць, безумоўна, — вышэйшую. Я маю сярэднюю. І чым жа здзіўляе мяне аўтар зборніка? Тым, што «вада і шкло — дзве празрыстасці, два рэчывы — напятае і вагкае»; што «злучэнне паху чаромухі і паху сліў» — гэта працэс хімічнага сінтэзу; што «збан — з полымя (?), гліны і вады»; што ёсць «сыпучасць і цякучасць»; што мы, зямляне, жывём у трох вымярэннях: у часе, адлегласці і прасторы?.. Нічога новага. Усё гэта я ведаў і да прачытання вершаў Г. Булыкі, як і тое, што двойчы два раўняецца чатыром. Сапраўдная паэзія, як і навука, дарэчы, пачынаецца, здавалася б, з неверагоднага — што двойчы два раўняецца, напрыклад, пяці. Відаць, якраз гэтага — дзіцячай наіўнасці, дзівацтва, апантанасці нязбытнай мары — і не хапае многім вершам Г. Булыкі.

Праўда — каюся — ёсць і такое, чаго я не ведаў. І, мабыць, не адзін я. Ці не таму ў зборніку так многа навуковых зносак-расшыфровак, ад якіх стракаціць уваччу? У рэшце рэшт, гэта ж не навуковы трактат... Чытаеш верш, ну, усё ў ім як быццам правільна, лагічна, усё па-майстэрску зроблена — не пабаюся сказаць — высокім прафесійным узроўні — а мне не баліць, а мяне не грэе не халодзіць, карацей кажучы, не хвалюе. Чаму? Можа, якраз ад гэтай залішняй правільнасці, абачлівасці, халоднай логікі?

У фільме Сяргея Герасімава «Ля возера» ёсць такі эпізод: праходзіць чытацкая канферэнцыя па паэзіі. Чытаюцца «Скіфы» А. Блока. Герой фільма (артыст Шукшын) гаворыць, што ў яго пры чытанні мароз па скуры ідзе. А з месца падымаецца малады рабочы, хлопец, які ўпершыню адкрывае для сябе цудоўны свет паэзіі, і гаворыць, што яму не ўсё зразумела і ў яго мароз па скуры не ідзе. І вось, міжволі я задумаўся: а можа, ад неразумення паэзіі — у прыватнасці паэзіі Г. Булыкі — у мяне і «не ідзе мароз па скуры» пры знаёмстве з яе вершамі? У людзей жа, вунь, ад вершаў самога А. Блока «мароз па скуры не ішоў»?!

Але ж я і пішу менавіта аб сваіх уласных адносінах да яе вершаў. Другія няхай вынесуць свае меркаванні. У спрэчках ісціна не губляецца.

Не магу не спыніцца на вершах трэцяга раздзела зборніка, які ва ўсіх аспектах больш канкрэтна адпавядае сваёй назве — «Час надзеі». Мне падалося, што тут паэтэса як бы вызвалілася з палону рэчаізму і стала, нарэшце, сама сабой. Якія жывыя фарбы навакольнага свету! Якое апантанае ўспрыманне яго! Разуменне наканаванасці і залежнасці чалавечага лёсу... Нявіннасць грахоўнасці!

Вось, напрыклад, як раптоўна ажыўляецца калодзежны журавель:

**Тут крылы зарыпелі, загулі,**
**Крык жураўліны рэха**
**адгукнула, —**
**І ў моцнай дзюбе птушка**
**працягнула**
**Вядро жывой вады з жывой**
**зямлі.**

Прастата паэзіі і жыцця выснаўваецца «без мудрагелістасці лішняй», як піша Г. Булыка ў адным з вершаў гэтага раздзела. Тут радкі вершаў дыхаюць непадробленасцю жыцця, сама матэрыя набывае адухоўленасць.

**Пакуль вісела зорка — існавала,**
**Імгненне, калі падала — жыла...**

Адчуваецца добрая зоркавасць і памятлівасць. А яшчэ — і гэта галоўнае — бескарыслівасць любові да ўсяго жывога і сутнага на зямлі. Дадам, што сярод беларускіх паэтэс і не толькі свайго пакалення Г. Булыка змагла мужна і мудра ўзвысіцца над радасцямі і нягодамі жаночай долі. Праўда, такіх лірычных вершаў няшмат, але і тыя, што ёсць, напісаны ў стрыманай даверлівай манеры з адчуваннем сваёй жаночай чалавечай годнасці, з гонарам за сваё жыццёвае прызначэнне. Але чамусьці і ў гэты раздзел трапілі тэматычна не адпаведныя яму вершы, як «Гліна», «Сургуч», «Ёд». «Уражвае» банальнасцю думкі і безгустоўнасцю верш «Курорт». І «Дзяцька Верасень» завітаў сюды зусім нечакана, не раўнуючы як нацянькі са зборніка Алега Мінкіна «Сурма»...

Будзем шчырымі, Г. Булыка недзе толькі на падыходзе да гэтага — да свайго жыццёвага самавыяўлення і выяўлення жыцця народнага.

Адзінока, няўтульна, холадна ў кніжцы герою ў акружэнні лазурыту, бурштыну, свінцу... Няма, ці амаль няма, у кнізе жывых чалавечых характараў, цеплыні чалавечай душы, людскіх радасцей і боляў, як, зразумела, няма і асаблівых канфліктаў і трывог нашых сённяшніх дзён. А чаго вартая паэзія сузіральна-надуманая, без палымянасці, без сцвярджэння надзённых жыццёвых рэалій? Не трэба забываць, што калі чалавечая душа і наталяе смагу з аазісаў паэзіі, то крыніцы гэтых аазісаў б'юць з самых глыбінь жыцця.

І ўсё ж, мне здаецца, што мы маем права спадзявацца на далейшае і больш упэўненае праяўленне таленту гэтай неардынарнай, самавітай паэтэсы, спадзявацца на той час, калі яна скажа сваё слова не на зазададзеную, а на «вольную тэму» душы.

Несумненна, гэтая своеасаблівая кніжка вершаў унесла свежую брую ў далейшае перспектыўнае развіццё маладой беларускай паэзіі. Дала ёй чуйны штуршок для новых пошукаў і знаходак.

Аднак жа пры тым не будзем забываць, што паэзія — першнаперш — стыхія, і «не яна ад нас залежыць, а мы залежым ад яе» (М. Рубцоў).

**Магічны свет — з'яўленне**
**і знікненне...**
**Пішы святлом!**
**Адным святлом пішы,**
**Каб у навечна спыненым**
**Імгненні**
**Застаўся самы светлы цень**
**душы.**

Так піша ў адным са сваіх вершаў паэтэса. Гэтага ж ад шчырага сэрца я і хацеў бы ёй пажадаць у далейшай творчасці!

**Леанід ГАЛУБОВІЧ.**

---

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# БЫЛА Я З ВУЧНЯМІ Ў КУШЛЯНАХ...

**На днях са сваімі выхаванцамі я наведала Кушляны — радзіму паэта дэмакрата Ф. Багушэвіча. Была я тут 22 гады назад яшчэ вучаніцай-сямікласніцай. Дзіцячая памяць уражлівая і моцная, таму зараз усё пазнавалася, тым больш, што змен як быццам ніякіх не адбылося.**

**Не стану апісваць прыгажосць і значнасць таго месца, дзе знаходзіцца дом паэта. Скажу толькі, што маім вучням вельмі цікава было ўбачыць алею, пасаджаную самім Багушэвічам, камень, ля якога выступаў паэт перад сялянамі і хаваў свае вершы ад паліцыі, пахадзіць па тых сцежках, па якіх ступаў паэт, пазнаёміцца з Міхаілам Сямёнавічам Ляпехам, 82-гадовым чалавекам, даўнім вартаўніком сядзібы паэта.**

**Я слухала з дзецьмі расказ Міхаіла Сямёнавіча пра паэта, вершы, якія ён чытаў па памяці, адчувала шчырае добрае сэрца гэтага чалавека і думала: «Вось дзе ўрок патрыятызму, любові да роднага краю, павагі да роднай культуры»... Я бачыла, якое прыемнае ўражанне робіць на маіх дзяцей гэты мудры дзядуля, і сэрца радавалася.**

**Але вось пасыпаліся пытанні, на якія цяжка і нават немагчыма адказаць:**

**— А чаму на шыльдзе напісана: «Тут нарадзіўся Ф. Багушэвіч»? Ён жа нарадзіўся ў Свіранах?**

**— А чаму не створаны тут музей?**

**— А чаму не рэстаўрыруюць дом?**

**Дзесяткі справядлівых «чаму». І сапраўды, чаму так усё тут занядбана?**

**Праўду кажуць у народзе: «Вочы не бачаць — сэрца не баліць». Так было і са мной. Убачыла на свае вочы — і не магла супакоіцца. Сумнае ўражанне робіць кушлянская сядзіба. Тут не толькі нічога няма ад музея, але і сам дом, збудаваны, як вядома, самім паэтам, знаходзіцца ў непрыглядным, па сутнасці, у аварыйным стане: цячэ дах, патрабуе рамонту веранда і г. д. Ці ж даравальна гэта?**

**Хочацца верыць, што падрыхтоўка да 150-годдзя з дня нараджэння Ф. Багушэвіча (яно неўзабаве, у 1990 годзе) будзе праведзена не наспех. Прапаную ўзносы, сабраныя ад членаў добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Смаргонскага і Ашмянскага раёнаў, а мо і ўсёй Гродзеншчыны, накіраваць на рэстаўрацыю сядзібы паэта-земляка з тым, каб адкрыць тут яго мемарыяльна-літаратурны музей. Зробленае ім варта гэтага.**

**Тэрэза КАРПОВІЧ,**
**настаўніца беларускай мовы і літаратуры.**
в. Анжадава,
Ашмянскі раён.

---

# У ГАСЦЯХ — НАСТАЎНІКІ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

**Сталі традыцыйнымі сустрэчы пісьменнікаў Беларусі з выкладчыкамі беларускай мовы і літаратуры з Беласточчыны (ПНР), якія прыязджаюць штогод на курсы ўдасканалення, арганізаваныя для іх пры Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага. На гэты раз на сустрэчу з настаўнікамі прыйшлі сакратары праўлення Саюза пісьменнікаў БССР А. Жук, В. Зуёнак, В. Казько, а таксама А. Асіпенка, літкансультанты СП БССР У. Паўлаў і А. Гардзіцкі.**

**Размова ішла аб выніках работы IX з'езда пісьменнікаў БССР і VIII з'езда пісьменнікаў СССР, аб новых кнігах і творах нашай літаратуры, аб новых яе выданнях у замежных краінах.**

**Л. ЧАРЭШНЯ.**

**ВІНШУЕМ**

# Яўгену Міклашэўскаму — 50



Паэту Яўгену Міклашэўскаму 9 жніўня спаўняецца 50 год. З нагоды юбілею праўленне СП БССР накіравала яму віншавальны адрас.

**«Дарагі Яўген Васільевіч!**

**Шчыра, ад усяго сэрца віншуем Вас з 50-годдзем з дня нараджэння.**

**Яшчэ ў школьныя гады Вас пачало цікавіць і захапляць паэтычнае слова. Гэтаму нямала садзейнічала багатая навакольная прырода, сялянскі побыт Нясвіжчыны, дзе прайшло Ваша дзяцінства.**

**Першыя Вашы выступленні з вершамі ў друку адбыліся ў 1959 годзе. Непрыкметна, але ўпэўнена з году ў год мацнеў Ваш голас, набіраў напружанасці і шчырасці. Неўзабаве Вы сталі аўтарам паэтычнага зборніка «Свежасць», які быў прыхільна сустрэты чытачамі і крытыкай. У гэтай кнізе Вы выявілі сябе тонкім лірыкам, здатным заўважаць самыя непрыкметныя зрухі чалавечай душы.**

**Добрым падарункам чытачам была другая кніга «Ганна з Пухавіч», ужо гумарыстычнага плана, выдадзеная ў 1976 годзе ў бібліятэцы «Вожыка».**

**Аб тым, што Вы не шукаеце лёгкіх, пратаптаных сцежак у літаратуры, імкнецеся да самавыяўлення, да раскрыцця жыцця словам дакладным і простым, сведчаць Вашы нядаўнія зборнікі вершаў «Світальны водбліск», «У спрадвечным руху».**

**Засведчылі Вы сябе і ў жанры прозы, напісаўшы аповесць «Чатыры дарогі».**

**Да свайго юбілею Вы прыйшлі ў росквіце сіл і здольнасцей.**

**Прыемна адзначыць, што Вы прымаеце актыўны ўдзел у грамадскім жыцці пісьменніцкай арганізацыі, шмат клопатаў і ўвагі аддаяце выхаванню маладых літаратурных кадраў.**

**Жадаем Вам, дарагі Яўген Васільевіч, новых творчых здабыткаў, здароўя, шчасця».**

«Літаратура і мастацтва» таксама шчыра віншуе юбіляра.

## Яўген МІКЛАШЭЎСКІ

●

Сусвет бязмежны, і бязмежнасць гэту
Наш розум не бярэцца ахапіць,
Ды ззянне зор — агні і бляск сусвету
Яго не могуць болей асляпіць.
І чалавек, прыдумаўшы ракету,
Ляціць у космас, як хацеў здаўна,
Каб паглядзець на родную планету —
Каму ў міжзор'і зіхаціць яна?
Ён на зямлю вяртаецца, шчаслівы,
З яшчэ адным таемным адкрыццём
І ў жаху бачыць, што вар'ят пыхлівы
Стаіць з ракетай над яго жыццём.

### *Хатынскі звон*

Ранішні дым
не струменіцца тут з каміноў.
Плача Хатынь
перазвонам жалобных званоў.
Без перамен
б'юць трывогу над светам яны.
Колькі жывем —
мы жывем на руінах вайны.
Ноччу і днём
мы аплакваем страты свае.
Вечным агнём
свеціць памяць ахвярам яе.
Скруха званоў —
гэта голас народнай бяды,
Той, што і зноў
пакідае на сэрцы сляды.
Гэта — трывога,
якой не суцішыць нічым,
Перасцярога
загубленых жыццяў — жывым.
Гэта для ўсіх
і вячэрні, і ранішні звон.
І ні на міг
на зямлі не заціхне ўжо ён.
Хто нам пратрубіць:
«Назад! Да вытокаў сваіх...
Там не загубіць
планету зласлівец і псіх».
Дзе ж напамін,
што не пыл на дарогах пячэ —
Прысак руін
і ахвяр, не апошніх яшчэ.
Голас ахвяр
не даходзіў спрадвек да жывых.
Гукі фанфар
не адразу стамляюць наш слых.
Дрэва жыцця,
што развейвала змрок і сутонь,
Шоўкам лісця
не пагасіць нейтронны агонь.
Жахам хімерным
здаецца наступны наш дзень.
Можа, павернем,
калі мы да смерці ідзем?
Можа, прыпынім
і свой навуковы прагрэс?
Горад пакінем
і пойдзем у горы ці ў лес?
Вецер трывожна
штоноч шамаціць у трысці.
Вецер, ці можна
нам нейкае выйсце знайсці?
Хіба па слёзы
мы ў дзень свой наступны ідзем?
Як мы пагрозы
ад роднай зямлі адвядзем?
Спынімся? Збочым?
Счакаем? Ды не, як відаць.
Мы не захочам
усё, што стварылі, аддаць.
Шляхам пакутным
мы будзем ісці, як ішлі.
Дымам атрутным
прагрэс не загубіць зямлі.
Воляй мільёнаў
мы вырвем паходню ў маны.
Вечных праклёнаў
не вытрываць богу вайны.

●

Я забыў пра дзень нараджэння мамы,
А яна віншавання чакала,
Але ні паштоўкі, ні тэлеграмы
Так і не атрымала.
Да ранку не спала і ўсё ўспамінала
Жыццё і бяду, што — адна за другою —
Над самотнай хацінай яе кружляла
Часінай ліхою.
І за доўгую ноч не раз прыгадала,
Відаць, яшчэ і пра тое,
Як мяне — пад кулямі — гадавала...
Хіба забудзеш такое?

І толькі на трэці дзень
я ўспомніў пра гэта —
Пра дзень нараджэння мамы,
Кінуў усё, адпрасіўся на працы
І паехаў дадому — як цень, журботны...

**ПРОЗА**






**Таіса БОНДАР**

*АПАВЯДАННЕ*

АНТОН доўга ўзіраўся ў сябе. Незадаволена моршчыўся і міліметр за міліметрам вывучаў свой шырокі, блізкі да квадрата твар, якому бракавала выразнасці, значнасці: як ні намагаліся бровы зломам, вуглом сваім прыўзняць цяжкі, занадта відочна сплюснуты густым «вожыкам» валасоў лоб, як ні пнуўся сцяцца сярод непрыемна круглых, пульхных шчок вялікі, з добрую бульбіну, нос, як ні сцінаўся таўстагубы рот — усё распаўзалася ад аднаго пільнага позірку. Мо каб засвяціўся, заззяў позірк... Каб хоць у ім з'явілася маштабнасць, значнасць... Жывы нейкі агеньчык, калі не маштабнасць!

Нельга ж на самой справе, каб вядомага жывапісца прынялі за ружавашчокага пекара: і ў трэцім, і ў чацвёртым калене не было ў сялянскім родзе Кондрусяў ніякіх пекараў. Малатабойцы—былі. Дзядзька бацькаў, дзед Яўхім. Ды калі тое было! Галена, сястра, настаўнічае ў Слуцку, Юзік, малодшы, у фізікі падаўся. Да яго, Антонавай, думкі вядомыя прыслухоўваюцца: лічы, тон у жывапісе сучасным задае. Але — калі б значнасці, глыбакадумнасці твару! Як ні круці, твар быў праставаты, задужа праставаты для таго, хто ў свае сорак два і званне ганаровае меў і пасаду, адпаведную званню. Глядзі не глядзі, а нельга не пагадзіцца. Праставаты твар. Адразу відаць, што сялянскага роду. Хоць тое ён і сам нячаста згадваў. Бацькі дажывалі ў вёсцы і дажывалі. Звярталіся — і Антон дапамагаў: адрабілі бо сваё, па праву помачы ад дзяцей чакалі. Але іхні час мінуў. Мінуў і забываецца. Ужо пры жыцці іх пачаўся новы адлік — адлік ад Антона, старэйшага ў сям'і, першага, хто выбіўся ў людзі.

(— Абавязкова выбіцца ў людзі... Што ты, Тоні, маеш на ўвазе? — Павагу заслужыць. Найперш, гэта. — Ты лічыш: бацька твой ні ваеннымі, ні працоўнымі медалямі не заслужыў людской павагі? — Я пра іншае. Разумееш... Пра павагу падсвядомую, адвечную. Непарушную ў адносінах да пэўнай катэгорыі людзей. — І гэткая бывае? — Не будзь наіўнай, Святлана. Твой бацька — вядомы адвакат, і ты ўваходзіла ў жыццё, ідзеш па жыцці зусім інакш, чым любая твая равесніца з так званага народа. З народа — гэта толькі гучыць прыгожа. Прыём жа тых, хто з яго выйшаў, дагэтуль шэранькі і, трэба прызнаць, суровы: разаб'еш ілбом сцяну, праб'ешся — прызнаюць... — Ды хто прызнае, Тоні? Хто? — А хоць бы і ты, Святлана. Хіба ты зірнула б на заслугі майго бацькі, вядомыя толькі яго аднавяскоўцам, і на мяне, яго сына, калі б я не дамогся таго-сяго ў сталіцы? — Не ведаю. — Тое і яно).

Тое і яно. Няпроста, нялёгка — гэта і нядобразычліўцы прызналі б! — давалася ўсё Антону. І інстытуцкі дыплом з адзнакай. І майстэрня. І прызнанне. І пасада загадчыка кафедры жывапісу. І жонка — дачка вядомага адваката Слонімскага... Зямлю, здавалася б, носам з-пад усіх капаў, абы выбіцца, абы прызналі. Прызналі. Да заказнога аўтапартрэта дайшло. Праз год — вялікая персанальная выстаўка. Не ў Маскве, праўда, пакуль што — тут, але і на Маскву сякія-такія каналы Антон прабіваў. І сувязі Слонімскіх спатрэбіліся дарэчы: не дарэмна ён пласкагрудую Святлану ў свой час акруціў. Правільна разлічыў. Усё скрозь правільна разлічваў — кожны крок наперад. Нават (калі патрэбу ў тым чуў) адступіўшы колькі крокаў назад. Часова. Больш для выгляду. Маўляў, не хутаранін жа Антон Кондрусь — інтэлігент, штурхацца не будзе. І не штурхаўся — навошта? Чаго штурхацца, калі абавязкова надыходзіў момант, калі льга было цішком адсунуць, плячом адцясніць усіх — любога! — ад жаданай удачы. Удачы, а не падачкі! Падачкі б ён не прыняў. Гэта ён ведаў цвёрда. А так: дамогся, выбіў, вырваў (дэталі не мелі значэння) — значыцца, ягонае. Па праву. Па праву ўдачлівага.

(— Антон Цітавіч, скрозь толькі і размоў, што пра вашу новую работу. І я... Я ў поўным захапленні. Гэткі размах!—Вы... Вы... Ваша прозвішча... Прабачце, запамятаваў. — Ружава я. Вера Ружава. З вашай групы. На трэцім курсе. — А, да, да помню. Як жа. Усё больш у мроях купаецеся, а не малюеце. — Гэта я ў вашай прысутнасці, Антон Цітавіч. А так... — А так што? — Вы ж самі за апошнюю пастаноўку паставілі мне пяцёрку.— А, да, да. Помню, як жа. Вы штосьці хацелі? — Я пра карціну вашу, Антон Цітавіч... Я з захапленнем... Гэткі размах думкі! За простай падзеяй — народ, веліч народа. — Для народа працуем, Ружава. Народу доўг сплачваем. Хіба інакш вы ўяўляеце прызванне мастака, інтэлігента? — Не, не! — Вось і я веру: вы, савецкая студэнтка, не можаце не разумець, што наша прызванне ў служэнні народу. — Я разумею. Беларускі народ спакон веку... — Для народа працуем, Ружава. Для народа.)

У майстэрні пасвятлела. Відаць, з-за хмар, што шчытна абселі гэты цёплы кастрычніцкі ранак, нарэшце прабілася сонца, і хоць зазірнуць сюды, у паўночнае акно пад самай столлю, не магло ніяк, усё ж святла ў пакоі паболела. І Антон, звыкла разважаючы пра не зусім творчыя клопаты, якіх, тым не менш, да веку не пазбыцца (заўсёды ж ёсць больш высокае званне, больш высокае становішча!), і так і гэтак пакручваў на мальберце падрамнік — адыходзіўся, і зноў набліжаўся, і зноў узіраўся ў свой твар, у свой згаслы бясфарбны позірк. Як ні паглядзі — не было ў позірку жыцця. Ні глыбіні не было, ні лёгкага бяздумнага бляску — мёртвыя якіясьці вочы. Яны, праўда, і ў люстэрку былі гэткімі, але ж аўтапартрэт — не адбітак, перанесены з люстэрка. Гледача (ды і гісторыю, урэшце!) не зацікавіць сумная іх праўда.

Упёршыся рукамі ў бакі, Антон развярнуўся перад люстэркам ва ўсю магутную шырыню плеч, яшчэ вышэй прыўзняў бровы... І пачуў: звоняць. Хтосьці нясмела звоніць у дзверы. Яшчэ раз азірнуўся на люстэрка, са шкадаваннем уздыхнуў і, расслабіўшыся, пасунуўся да дзвярэй.

— Вы да каго? — няўцямна зіркнуў на маладую дзяўчыну за парогам і тут жа пазнаў яе, шаркнуў далонямі па шорсткіх штанінах. — А-а-а! Ружава? Вера? Праходзьце, праходзьце. Я запрацаваўся і забыўся, што меўся госцю страчаць.

— Якая ж я госця? — сумелася тая, аддаючы свой лёгкі плашчык. — Вы казалі, Антон Цітавіч, вам дапамога мая патрэбна.

— А, да, да. Помню, як жа. У вас знойдзецца гадзінка часу? — таропка прыбіраў ён свае пінжак і сарочку з гальштукам з крэсла. — У мяне не атрымліваецца...

— У вас —не атрымліваецца? У вас?!

Антон перастаў мітусіцца і азірнуўся на студэнтку: у лёгкай клетчатай спадніцы і яркай вязанай безрукаўцы з глыбокім выразам, яна здавалася тут, у даволі запушчанай яго майстэрні, задужа юнай. Амаль нерэальнай. І гэта думка нечакана ўразіла: што ён — сапраўды так запрацаваўся, што хмялее ад глытка свежага паветра?

— Вы сядайце... Вера. У крэсла. І трымайцеся як мага свабадней. Не зважайце, што я працую. Я паспрабую ўхапіць настрой, які мне ў маёй рабоце патрэбен. Вам зручна?

Адказу не было. Ці ён не пачуў. Ён ужо стаяў перад мальбертам — так, каб, калі спатрэбіцца, убачыць сябе ў люстэрку,— і адсутным, рабочым позіркам аглядаў дзяўчыну. І разумеў, чаму ў адказ на яе гарачы зіхоткі позірк у інстытуцкім калідоры запрасіў яе ў майстэрню: гэта Ружава была з тых, хто можа распаліць згаслае ўяўленне мастака. Нават такога забранзавелага, як ён, Антон. Нічога залішне вытанчанага ў ёй, нічога падкрэслена мяккага — так, па-антычнаму здаровае хараство, па-антычнаму пявучыя лініі цела — рук, плячэй, шыі. Твар... Твар дзяўчыны Антона не зацікавіў. Ён не адрываў вачэй ад яе аголенай шыі, ад выемкі безрукаўкі, якая так глыбока і так далікатна спускалася ад шыі ўніз, і ўсё спрабаваў адагнаць, прыглушыць раптоўна прыгаданы жончын голас: «Ніякіх гісторый з юнымі сяброўкамі, паклонніцамі і натуршчыцамі! Ты мяне знаеш, Тоні...»

Расчыняю дзверы, заходжу,
А яна з усмешкаю кажа:
— Прыехаў? Я знала, што ты прыедзеш —
Ты сніўся мне запар тры ночы.
Распранайся хутчэй — і за стол адразу:
Я вячэру табе згатавала.

●

Схіліўшыся, стаіць над збажынаю
Пшанічны колас, буйны, залаты.
Падыдзеш і кранеш знарок рукою,
А ён — зусім пусты.

Тады адкуль была ў мяне надзея,
Што колас не з'яўляецца пустым,
Што ён пасля, ад часу, апусцее,
Як пераспее зерне ў ім.

Як потым апусцее гэта поле,
І тлумны свет, і сэрца спакваля.
І мусіць нешта загубіць міжволі
Сваёю шчодрасцю зямля.

●

Чалавека прыцягвала Вечнасць,
І не меней, відаць, чым зямля.
Але смерць на зямлі — недарэчнасць,
І ён выйсце шукаў спакваля.
І ў смузе існавання зямнога
Пра бяссмерце гадаў у журбе.
І нарэшце прыдумаў ён бога.
І паверыў яму, як сабе.

З гэтай верай прыйшло спадзяванне,
Што бяссмерце людскога жыцця
Не ў часовым зямным існаванні,
А ў духоўным — за сферай быцця.
Гэта вера — пачатак мастацтва.
І стварыла яго — прыгажосць.
І лягчэй з белым светам расстацца,
Як надзея — дарэмная — ёсць.

## *Жыццё — як дзень*

Жыццё — як дзень. Спачатку раніца
І ружавее, і туманіцца.
Лес салаўямі заліваецца,
А ў жыта колас завіваецца.
Рассыпаўшы расу сцюдзёную,
Ноч збегла за гару зялёную.
І луг мігціць, нібы вясёлкамі,
Усімі кветкамі і зёлкамі.
І калі звон касы даносіцца,
Паспаць маленства ў ранка просіцца.
Калі ў запасе шмат гадоў жыцця,
Як ранак, і маленства здоўжыцца.
Халоднай хваляй б'е рака яшчэ...
І ўсплёску дня не дачакаешся.
Ён прапахае ўсімі барвамі
І ўсімі промнямі прыпарвае.
І цягне ў засень самавітую,
Дзе з ценем пах стаіць пад ліпаю.
На міг задрэмлеш — прачынаешся,
Але стаіць гарачыня яшчэ.
Праменні — жар, паветра — парнае.
На халадок надзея марная.
А сонца як-ніяк зніжаецца.
Крыху свяжэй? Ды не, на жаль, яшчэ.
Што не абновіцца — адновіцца:
На ногі прыцемак становіцца.
Гадзіны робяцца хвілінамі,
І вечар просіць: «Пахвалі мяне...»
І сонца, нізкае і блізкае,
Пунсовай зрэнкаю паблісквае.
Душу залье лагода ціхая,
І конік, як гадзіннік, цікае.
А цемень-ноч сярпочкам месячка
Махне — не грукне нават веснічка.
І белы дзень растане ў прыцемку —
І ўсё заціхне, як у прысценку.

Жыццё — як дзень. З імглы народзіцца,
А кане ў змрок — і знічкай зробіцца.

---

У люстэрку пагойдваўся насцярожана ўзрушаны твар, на якім паблісквалі пацяплелыя вочы, і Антон адчуў, што момант настаў: у раптоўнай цеплыні вачэй ужо была неабходная таямнічасць, нават глыбіня пэўная — трэба было пачынаць пісаць. «Трэба пісаць!» — і раз і другі паўтарыў ён у думках, хоць рукі ўжо звыкла шчыравалі над палітрай, завіхаліся, і вось ужо самыя першыя, ледзь прыкметныя мазкі ляглі на палатно, пацягнуўшы за сабой новыя, іншыя.

Работа ўцягвала — і разам з тым паступова ахалоджвала: бляск у вачах патухаў, знікаў, і гэтага нельга было дапусціць: яшчэ пяць, дзесяць, пятнаццаць хвілін работы — і Антон даможацца свайго, даможацца таго, чаго хоча!

— Вам зручна? Можа, вам лепей абаперціся на ручку крэсла, нахіліўшыся крыху ўперад, на мяне?

Антон міжволі шукаў новую зачэпку для позірку, нецярпліва пакручваў у пальцах пэндзаль і не зводзіў вачэй з глыбокай выемкі Верынай безрукаўкі.

Яшчэ некалькі лёгкіх рухаў, яшчэ некалькі мазкоў, і не стрымаўся ён — сарваўся з месца, наблізіўся да крэсла і крануўся дзявочага пляча.

— Не, не, Вера! Вы дазволіце? — рука пяшчотна папаўзла па плячы, да адкрытай шыі. — Не згінаючы галавы, нахіліцеся крыху ўперад, на мяне, перанясіце цяжар на руку, сагнутую ў локці. Разумееце? Вось так.

Рука не слухала Антона — не чуючы дзявочага пратэсту, пяшчотна пагладжвала шыю, далей і далей ссоўвала безрукаўку з пляча, агаляючы яго цёплую белізну...

(— Ты не разумееш, Тоні, ты проста не разумееш! Ёсць жывапіс для сябе і сваіх блізкіх: кветачкі, жбанкі, твары і тварыкі... А ёсць жывапіс для музеяў і галерэй: яркія палотны пра жыццё народа, пра пераўтварэнні часу — адным словам, усё тое, што патрабуецца сягоння. — Але ж у музеях, у выставачных галерэях — нямала пейзажаў, нацюрмортаў, партрэтаў, якія прынеслі сваім творцам славу! — Гэта не твая слава. — І я мог бы... — Ды азірніся ты вакол! Каму сёння патрэбны твае Марусі, Федзі, Саўкі? Хто будзе ўзірацца ў іх сцёртыя часам твары? — Ты несправядлівая, Святлана, да мільёнаў людзей несправядлівая. Гэтыя Марусі, Федзі, Саўкі... — Знаю, знаю. Тоні. Не вучы мяне палітграмаце. Паспрабуй зразумець, што і я, і папа, і папіны сябры дабра табе хочам. — Я разумею. — Дык чаму тады так упарцішся? — Жывапіс не можа быць мёртвым. — А хто кажа, што ён павінен быць мёртвым? Няхай на тваіх палотнах кіпіць праца, іграюць мускулы, ззяюць на фоне канструкцый і заводскіх карпусоў шырокія ўсмешкі рабочых: за гэта плацяць. — Але ж трэба пісаць тое... — Трэба пісаць тое, што мае попыт і адпаведна цэніцца. — Раней ты не ўмешвалася ў мае планы, Святлана. — Ды зразумей ты, Тоні: сам жа хацеў выбіцца ў людзі... Вось і выбівайся, пакуль табе ў тым дапамагаюць і час і людзі. Ты павінен быць удзячны... — Глыбока ўдзячны, глыбока ўдзячны! — Не блазнуй. І... ніякіх гісторый з юнымі сяброўкамі, паклонніцамі і натуршчыцамі! Ты мяне знаеш, Тоні...)

— Антон Цітавіч!

— Га? — апрытомнеў той і жахнуўся таго, што зайшоў так далёка: адна рука, перамагаючы нясмелы дзявочы пратэст, пяшчотна смакавала цяпло пругкіх дзявочых грудзей, другая ўтрымвала яе дрогкія плечы.

— Антон Цітавіч! Што гэта вы? Няўжо вы?..

Як апёкшыся, Антон рэзкім рухам адхінуў рукі, абедзве разам, зверавата зіркнуў Веры ў твар: той быў балюча крануты разгубленай усмешкай, а ў вялікіх балотна-зялёных вачах дзяўчыны, злёгку скаламучаных яго, Антонавай, блізкасцю, скакалі радасныя чорцікі, міг, другі — і ўспыхнуць, і спапяляць той толькі што выразна чуты Антонам голас, які папярэджваў...

— Не, не, Ружава! — адступіў ён на крок, быццам спалохаўшыся раптам сваіх думак і таго, што магло адбыцца. — Я прашу прабачэння, калі... калі...

— Але ж я... — паднялася і ступіла да яго Вера.

— Вы ідзіце, Ружава, ідзіце! Дзякуй вам за дапамогу. Я прашу прабачэння, калі... калі пакрыўдзіў вас, — адгарадзіўся рукамі ад яе руху, ад яе позірку Антон.

Дзяўчына ўспыхнула. Адразу густой чырванню да самых карэньчыкаў гладка зачасаных валасоў пакрыўся размякчаны яе твар — чырвань разлівалася, пералівалася на шыю, на аголенае плячо, спаборнічаючы ў яркасці з безрукаўкай, і Антону стала не па сабе. Усяго на момант. Бо ўжо ў наступны момант дзяўчына была ля дзвярэй. З сарваным з вешалкі плашчыкам у руцэ...

Бразнулі дзверы. Збегла ўніз па лесвіцы рэха крокаў. І стала ціха. Так ціха, што Антон чуў, як у яго на скроні ўздрыгвае тонкая жылка. «Як недарэчна ўсё! Як усё недарэчна», — зглынуў ён уздых і пайшоў да мальберта. Зіркнуў з-за мальберта на апусцелае крэсла, пачаў узірацца ў свой твар на палатне, вяла адзначыў, што святла у позірку паболела: яшчэ б дзесяць, пятнаццаць хвілін работы — і ён мог бы скончыць аўтапартрэт.

---

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

# МАСТАЦКІ ПЕРАКЛАД: ВОПЫТ УКРАІНСКІХ КАЛЕГ

Група мастацкага перакладу пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР вядзе работу па даследаванні і прапагандзе перакладчыцкай справы ў рэспубліцы. Члены групы У. Мархель, Г. Тварановіч, Л. Турбіна, А. Яскевіч сістэматычна выступаюць у Саюзе пісьменнікаў Беларусі, на старонках перыядычнага друку з меркаваннямі аб стане мастацкага перакладу ў рэспубліцы, перспектывах яго развіцця, ролі ў сістэме міжлітаратурных узаемасувязей.

У апошнім пасяджэнні групы прыняла ўдзел вядомы ў краіне спецыяліст па мастацкаму перакладу, прафесар, доктар філалагічных навук, загадчыца кафедры Сімферопальскага універсітэта, член рэдкалегіі ўсесаюзнага зборніка «Мастерство перевода» Марына Новікава, якая расказала пра поспехі і праблемы ўкраінскіх перакладчыкаў. Першае, на што звярнула ўвагу М. Новікава, характарызуючы сённяшні ўзровень перакладчыцкага руху на Украіне, — гэта значна пашыраны кантэкст: рэспубліканскі, усесаюзны, сусветны. Істотна пашырыўся выбар перакладных кніг. Перакладчыкі актыўна ўдзельнічаюць у бягучых справах Савета па мастацкім перакладзе СП СССР.

Значным дасягненнем стала нядаўняе выданне зборніка перакладаў з украінскай барочнай паэзіі «Апалонава лютня» і анталогіі «Галасы старажытнай Індыі». У рэспубліцы даўно выходзяць і карыстаюцца папулярнасцю серыйныя выданні (напрыклад, «Перлини свитовой лірики»). Разам з тым М. Новікава адзначыла і некаторыя выдаткі ў практыцы падрыхтоўкі такіх кніг, калі выдавецтвы, абмежаваныя цвёрдымі тэрмінамі, у сваім жаданні «абняць неабдымнае» вымушаны звяртацца да паслуг перакладчыкаў, якія па кваліфікацыі і прафесійным узроўні не заўсёды гатовы выканаць той ці іншы заказ.

У цэлым жа, на думку дакладчыцы, праблема колькаснага і якаснага росту перакладчыцкіх кадраў на Украіне вырашаецца даволі паспяхова. Перакладамі займаюцца шэраг вопытных аўтараў, дзякуючы якім па-ўкраінску гучаць лепшыя творы як пісьменнікаў народаў СССР, так і літаратараў сацыялістычных краін, прагрэсіўных пісьменнікаў капіталістычнага свету. Заслугоўвае ўвагі практыка рускамоўнага ўкраінскага часопіса «Радуга», пры рэдкалегіі якога сфарміраваўся ўласны перакладчыцкі актыў.

Вельмі вялікая, па словах М. Новікавай, у рэспубліцы надаецца ўвага перакладам украінскай літаратуры на рускую мову, бо рускамоўны пераклад — гэта не толькі паўпрэд украінскага твора для ўсесаюзнага чытача, — гэта яшчэ і рэч, якая пры пэўных абставінах можа стаць першатворам для далейшых перакладаў на мовы народаў нашай краіны і свету. «На вялікі жаль, — адзначыла дакладчыца, — часам здараецца, што ўкраінскія паэты ў маскоўскіх выдавецтвах выходзяць у горшых перакладах, чым у сябе ў рэспубліцы. І гэта зразумела, бо перакладчыкі з рэспублікі лепш валодаюць абедзвюма мовамі: украінскай і рускай, прычым пастаянна займаюцца практычнай супастаўляльнай стылістыкай гэтых моў. Ёсць у мясцовых перакладчыкаў і яшчэ адна перавага: асабістыя кантакты з аўтарам, магчымасць штосьці ўдакладніць пры перакладзе, праверыць сваё рашэнне ў непасрэднай гутарцы з пісьменнікам. І, нарэшце, перакладчык з рэспублікі лепш ведае культурную сітуацыю, агульны літаратурны кантэкст і культурны фон, на якім узнік арыгінал».

Асобна спынілася М. Новікава на разглядзе пытання аб перакладчыцкай крытыцы на Украіне. Літаратурна-крытычныя матэрыялы, рэцэнзіі на перакладныя выданні, як правіла, з'яўляюцца вельмі апаратыўна. Пішуцца яны вопытнымі майстрамі сваёй справы. У якасці друкаванай трыбуны ўкраінскія крытыкі мастацкага перакладу выкарыстоўваюць старонкі газетна-часопіснай перыёдыкі, а таксама штогадовае спецыялізаванае выданне «Тэорыя і практыка перакладу».

Варта дадаць, што перакладчыцкая справа на Украіне накіроўваецца і каардынуецца дзейнасцю дзвюх камісій Саюза пісьменнікаў рэспублікі.

**Л. КАЗЫРА.**

# НА СТЭНДАХ ІМЯ ЦЁТКІ

Супрацоўнікамі Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР разам з супрацоўнікамі бібліятэкі СП БССР падрыхтавана выстаўка, прысвечаная Цётцы. На выстаўцы экспануюцца дакументы, якія адлюстроўваюць важныя вехі ў жыцці і творчасці паэтэсы. Біяграфічныя дакументы прадстаўлены на польскай, нямецкай і лацінскай мовах. Гэта копія выпіскі з метрычнай кнігі аб нараджэнні Алаізы Пашкевіч, пасведчанні аб заканчэнні Віленскага прыватнага сямікласнага жаночага вучылішча і Аляксандраўскай жаночай гімназіі, С.-Пецярбургскай Першай гімназіі і Асобага Выпрабавальнага камітэта пры С.-Пецярбургскай вучэбнай акрузе аб здачы курса лацінскай і грэчаскай моў, да якіх прыкладзены фатаграфіі А. Пашкевіч. Экспануюцца дакументы аб вучобе А. Пашкевіч на філасофскім аддзяленні Львоўскага універсітэта, і сведчаннем таму з'яўляецца заліковая кніжка з яе фатаграфіяй.

Цікавым з'яўляецца дакумент: выпіска з кнігі Віленскага касцёла Усіх Святых аб шлюбе Стэфана Кейрыса з Алаізай Пашкевіч 7 лютага 1911 г.

Літаратурную дзейнасць Алаіза Пашкевіч пачала ў 1902 годзе. Акрамя агульнавядомага псеўданіма — Цётка, яна падпісвала свае творы і іншымі: Мацей Крапіўка, Гаўрыла, Гаўрыла з Полацка і інш. Гэтымі псеўданімамі падпісаны тыя нешматлікія творы паэтэсы, якія экспануюцца на выстаўцы. У перыяд рэвалюцыйнага руху 1905—1907 гадоў шмат твораў Цёткі былі надрукаваны падпольнай друкарняй Літоўскай сацыял - дэмакратычнай партыі як палітычныя лістоўкі. Такі твор мы бачым на выстаўцы — верш-лістоўка «Хрэст на свабоду». Вось яшчэ адзін верш Цёткі — «Арлы брацця — дайце скрыдлы...» (1914), падпісаны псеўданімам Мацей Крапіўка і перапісаны рукой Янкі Купалы. Экспануецца літаратурна-навуковы часопіс «Лучынка» (кніга чацвёртая), у якім надрукавана апавяданне «Зваротлівы» (1914). І яшчэ адзін цікавы штрых да творчасці Цёткі: даведка прафесара В. Брухнальскага аб тым, што А. Пашкевіч прымала ўдзел у семінары старажытнай польскай літаратуры і працавала над тэмай «Батлейка на Беларусі». Да даведкі прыкладзена Праграма для збірання матэрыялаў аб батлейках на Беларусі (1911).

На выстаўцы прадстаўлены артыкулы і кнігі С. Александровіча, Л. Арабей, Р. Бярозкіна, Р. Няхая, В. Рагойшы, Т. Чабан, прысвечаныя жыццю і творчасці Цёткі.

Экспануюцца ноты песень Д. Лукаса, Р. Пукста, А. Туранкова на словы Цёткі; запрашальны білет і плакат, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння паэтэсы. На стэндзе размешчаны выбраныя творы Цёткі, выдадзеныя ў 1949—1976 гадах.

**Н. САКАЛОЎСКАЯ, малодшы навуковы супрацоўнік аддзела інфармацыі, публікацыі і навуковага выкарыстання дакументаў ЦДАМЛМ БССР.**

Аляксандр Фадзееў, Максім Рыльскі, Аляксандр Пракоф'еў, Канстанцін Сіманаў, Аляксей Суркоў, Мікалай Грыбачоў, Анатоль Сафронаў, Сяргей Міхалкоў, Алесь Ганчар, Мікалай Браўн, Марыя Камісарава, Тэрэнь Масэнка, Мікола Нагнібеда, Іван Сакалоў-Мікітаў, Міхаіл Ісакоўскі, Емяльян Букаў, Сцяпан Алейнік, пісьменнікі з Літвы, Узбекістана, Грузіі, Арменіі, Казахстана, Латвіі, Эстоніі, іншых рэспублік.

Частым госцем быў яго сябра і перакладчык на рускую мову Сяргей Мітрафанавіч Гарадзецкі, вядомы рускі савецкі паэт. Чалавек бывалы, звязаны са слынным літаратурным асяроддзем Пецярбурга і Масквы, ён добра разбіраўся ў мастацтве і музыцы, вельмі многае ведаў. Выдатна ўмеў расказваць. Коласа з Гарадзецкім звязвала шматгадовае сяброўства, якое пачалося са знаёмства ў 1933 г. Пазней Гарадзецкі перадаў у беларускі архіў літаратуры і мастацтва 177 пісем Якуба Коласа. Многія з іх былі напісаны бацькам на гэтай сядзібе.

Помніцца і Пётр Андрэевіч Сямынін — рускі савецкі паэт і перакладчык. Улетку 1948 г. ён жыў у нас каля двух месяцаў, перакладаў «Новую зямлю» на рускую мову. Гэта быў вельмі сціплы, сімпатычны чалавек, няўрымслівы працаўнік. Бацька і ўсе мы вельмі паважалі Сямыніна, стараліся стварыць яму найлепшыя ўмовы для работы. А працаваў ён апантана і нястомна — па 15 гадзін у суткі. Пра яго добрасумленнасць і працавітасць бацька з павагай пісаў многім сваім сябрам.

Частым госцем, а правільней кажучы—сваім чалавекам у нашым доме быў Янка Маўр, даўні сябра бацькі яшчэ па часах першага настаўніцкага з'езда ў Мікалаеўшчыне ў 1906 г. Воляю лёсу ён стаў сватам бацькі (малодшая дачка Маўра выйшла замуж за малодшага сына Коласа). Іван Міхайлавіч уражваў сваёю няўтольнай цягай да ўсяго новага. Нягледзячы на паважны ўзрост, ён жыва цікавіўся літаральна ўсім. З Маўрам можна было бясконца гаварыць на любыя тэмы, нават, здавалася б, далёкія ад яго спецыяльнасці. Многае з хіміі, фізікі, тэхнікі, прыродазнаўства, іншых галін ведаў цікавіла яго. Ён такім застаўся да канца сваіх дзён.

У апошнія дзесяць гадоў жыцця стан здароўя бацькі рэзка пагоршыўся. Ён вельмі часта хварэў на запаленне лёгкіх. Абавязкаў жа было шмат. Апрача напружанай літаратурнай работы час адымалі пасады — віцэ-прэзідэнт АН БССР, дэпутат Вярхоўных Саветаў СССР і БССР, аблсавета і гарсавета, член праўлення Саюза пісьменнікаў СССР і БССР, член Камітэтаў (па Дзяржаўных прэміях і Усеславянскага), старшыня Рэспубліканскага камітэта абароны міру, пазней член ЦК КПБ і намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР, член многіх часовых камітэтаў і камісій — усяго і не пералічыш. Нагрузка была велізарная, а сіл не ставала.

Таму недзе ў 1947 г. яму пачаў памагаць Максім Лужанін. Ён стаў надзейным дарадчыкам і памочнікам Коласа па пытаннях шматграннай дзейнасці паэта. Колас пасябраваў з Максімам Лужаніным, вельмі любіў, цаніў і шанаваў яго, давяраў яму ва ўсім. З 1948 г. Лужанін амаль штодзённа бываў у доме і на сядзібе. Усе мы, члены сям'і Коласа, блізка сышліся з ім — таленавітым пісьменнікам, незвычайна дасведчаным у літаратуры і культуры, добрым таварышам. Талент, назіральнасць, мудрасць Лужаніна далі яму магчымасць стварыць пазней выдатную кнігу пра жыццё і творчасць Якуба Коласа аповесць-эсэ «Колас расказвае пра сябе», сапраўдны літаратурны шэдэўр.

Вясною 1949 года Коласа наведала група маладых пісьменнікаў і паэтаў. Завіталі сюды ў вясновы, сонечны, ласкавы дзень Мікола Аўрамчык, Антон Бялевіч, Янка Брыль, Іван Грамовіч, Анатоль Вялюгін, Кастусь Кірэенка, Іван Мележ, Аляксей Русецкі, Іван Шамякін. Разам з Коласам гасцей прымалі Максім Лужанін і я. Завязалася задушэўная гаворка. Мелі што сказаць пісьменнікі, якія нядаўна прайшлі пекла страшэннай вайны. Яны ўжо зрабілі першыя, але ўпэўненыя крокі ў сваёй творчасці. Было што ім паслухаць і ад Коласа. Хутка праляцеў час цікавай сустрэчы. Але і дасюль з цеплынёй і пашанай прыгадваюць гэту падзею нашы цяпер ужо вядомыя і славутыя майстры пяра.

Апошні вялікі прыём адбыўся ў Коласа 26 мая 1956 г., незадоўга да яго смерці. У Мінску тады знаходзіліся журналісты, работнікі прэсы і радыё сацыялістычных краін — Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Кітая і Чэхаславакіі. Яны гасцінна былі прыняты гаспадарамі дома. Прысутнічалі таксама Максім Лужанін, Пятро Глебка, Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Ільля Гурскі, Павел Кавалёў, Тарас Хадкевіч, Янка Шарахоўскі, беларускія журналісты, работнікі Міністэрства замежных спраў БССР на чале з міністрам К. В. Кісялёвым.

На Коласавай сядзібе, у яго гасцінным доме з цеплынёю прымаліся і нашы выдатныя вучоныя — акадэмікі К. Гораў, А. Жэбрак, М. Мацапура, Б. Ерафееў, маладыя тады навукоўцы, якія пазней стануць акадэмікамі, — Ф. Фёдараў, А. Ахрэм, М. Міцкевіч, многія іншыя вучоныя.

Гасцямі Коласа былі многія партыйныя і дзяржаўныя дзеячы рэспублікі. Такім чынам, яшчэ пры жыцці дом і сядзіба песняра былі вядомымі і таму, натуральна, што менавіта тут створаны і дзейнічае Літаратурны музей Якуба Коласа. Ужо 30 гадоў прайшло з дня смерці народнага песняра. Многія сотні тысяч людзей з нашай вялікай Радзімы і з-за мяжы наведалі гэтае дарагое для ўсіх беларусаў месца.

**Даніла МІЦКЕВІЧ,**
**заслужаны работнік культуры БССР, старшы навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Якуба Коласа.**



Калектыў Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа з сынам песняра Данілам Канстанцінавічам МІЦКЕВІЧАМ (у цэнтры) у двары музея. 1983 г.

---

часць беларускіх драматургаў 20—30-х гадоў, даследуе вытокі рамантычнай настроенасці герояў, іх здольнасць ахвяраваць сабой у імя перамогі дабра і справядлівасці.

Выйдзе з друку калектыўная праца «Ідэйна-тэарэтычныя пытанні сучаснага літаратурнага працэсу». Істотнае месца ўдзяляюць аўтары ленінскім прынцыпам партыйнасці і народнасці ў беларускай літаратуры, яе маральна-эстэтычным ідэалам, грамадзянскай пазіцыі пісьменніка, жанрава-стылявым пошукам. Вядзецца доказная палеміка з зарубежнымі фальсіфікатарамі сучаснага літаратурна-мастацкага працэсу ў рэспубліцы.

У кнізе «Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў» упершыню сабраны і пракаменціраваны дакументы, прысвечаныя выдатнаму дзеячу славянскай культуры. Яны падаюцца ў арыгіналах, а затым у перакладах на беларускую і рускую мовы.

Перавыдаецца праца А. Адамовіча «Нічога важней. Сучасныя праблемы ваеннай прозы», у якой аўтар настойліва падкрэслівае, што літаратура абавязана да канца ўсвядоміць рэальнасць пагрозы ядзернай катастрофы і зрабіць усё магчымае для таго, каб выратаваць чалавецтва ад гібелі.

А. Фядосік напісаў даследаванне «Беларуская савецкая фалькларыстыка». Ён упершыню паказвае дасягненні вучоных рэспублікі ў вывучэнні фальклору і сучасных працэсаў у народнай паэзіі. Характарызуюцца фальклорныя публікацыі і тэарэтычныя даследаванні 20—30-х гадоў, народная творчасць перыяду Вялікай Айчыннай вайны, пасляваенныя фальклорныя зборнікі і працы. Паказваецца роля марксісцка-ленінскага вучэння аб народнай творчасці ў развіцці беларускай фалькларыстыкі.

Выйдзе таксама кніга Г. Пятроўскай «Не згасла зорка...», у якой вядзецца размова пра жыццё, навуковую і грамадскую дзейнасць вядомага беларускага і рускага фалькларыста, этнографа, літаратура- і мастацтвазнаўцы М. Янчука.

Будзе выдадзены шэраг даследаванняў у галіне мовазнаўства: Л. Антанюк — «Беларуская навуковая тэрміналогія», М. Абабурка — «Развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры», калектыўная манаграфія «Мова беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стагоддзяў».

Падрыхтаваны восьмы выпуск Гістарычнага слоўніка беларускай мовы (лексіка на літару Д) і пяты том Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы (лексіка на літару К). У плане выдання апошні, пяты том падпіснога «Тураўскага слоўніка», у які ўключана лексіка на літары С — Я. Будзе працягвацца выпуск штогодніка «Беларуская лінгвістыка».

Значнае месца ў выдавецкім плане адводзіцца кнігам мастацтвазнаўчага профілю. Працягваецца праца над «Гісторыяй беларускага мастацтва». У плане — трэці том, у якім змешчаны матэрыялы па выяўленчым мастацтве і архітэктуры канца XVIII — пачатку XX ст. Паказваецца працэс станаўлення і развіцця рэалізму ў беларускім мастацтве, значная ўвага ўдзяляецца развіццю розных стылістычных напрамкаў. Кіназнаўца А. Красінскі ў манаграфіі «Кіно. Ігравое плюс дакументальнае» акцэнтуе ўвагу на дакументальным стылі ігравых кінакарцін і новых спосабах драматургічнай арганізацыі жыццёвага матэрыялу ў дакументальных фільмах. Г. Куляшова ў манаграфіі «Беларуская кантата і араторыя» выяўляе асноўныя шляхі развіцця агульных жанравых заканамернасцей вакальна-сімфанічнай музыкі, робіць аналіз найбольш значных твораў.

Я. Сахута і В. Говар падрыхтавалі манаграфію «Мастацкія рамёствы і промыслы Беларусі». У ёй робіцца спроба выявіць і класіфікаваць вялікі матэрыял па рамёствах і промыслах, а таксама па традыцыйнаму народнаму мастацтву Беларусі — мастацкай апрацоўцы дрэва і металу, кераміцы, роспісу, ткацтву, пляценню.

Р. Смольскі манаграфію «Стварэнне лёсу» прысвяціў гісторыка-рэвалюцыйнай тэме ў тэатрах Беларусі 70—80-х гадоў. І. Лісneўскі ў запісках «Дарогамі тэатраў. З успамінаў старога акцёра» расказвае пра шляхі развіцця Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага. В. Нячай навукова-папулярны нарыс «Экран выкрывае» прысвячае найбольш значным фільмам сучасных майстроў прагрэсіўнага зарубежнага кіно.

**Георгій ЮРЧАНКА,**
**загадчык рэдакцыі філалогіі выдавецтва.**

---

З ПОШТЫ «ЛіМА»

# ДЗЯКУЙ, ПЕСНЯ!

Канцэртныя праграмы, якія мы рэгулярна глядзім па тэлебачанні, як бы пашыраюць сферу нашых духоўных кантактаў, знаёмяць з адметнымі спевакамі і кампазітарамі з братніх рэспублік. Нас прывабіў паказаны па Цэнтральным тэлебачанні аўтарскі вечар І. Лучанка. Праграма «І пакуль на свеце існуе любоў» уключала цудоўныя песні, створаныя беларускім кампазітарам у розны час. У іх мы пачулі прызнанне ў любві да Радзімы, да сваёй Беларусі, выяўленне адданасці свайму народу, захапленне яго гераічным мінулым і працавітасцю.

З вялікай асалодай слухалі мы ў коле нашых сяброў цудоўныя песні таленавітага беларускага кампазітара ў выкананні Л. Лешчанкі, Я. Еўдакімава, І. Кабзона, В. Кучынскага, Г. Галенды, У. Кудрына, С. Тарасавай, ансамбля «Песняры», эстраднага аркестра пад кіраўніцтвам М. Фінберга, Вялікага дзіцячага хору пад кіраўніцтвам В. Папова. Галасы спевакоў гучалі мякка, празрыста і цёпла. Выканаўцы парадавалі сваёй шчырасцю і музычнасцю. Прыемнае ўражанне зрабіла вядучая вечара, дыктар Беларускага тэлебачання З. Бандарэнка.

Гэты вечар яшчэ раз паказаў, што І. Лучанок—кампазітар яркай, арыгінальнай індывідуальнасці, які ідзе ў песенным мастацтве сваім, непракладзеным шляхам. Яго музыка радуе нас чалавечнасцю, аптымізмам, дабрынёй. Патрэбнасць выказаць душэўнае хваляванне ў песні і зрабіць гэта шчыра, проста і даверальна,—вось уласцівасці таленту І. Лучанка. Яго музычная дзейнасць, мудрая настойлівасць і мэтанакіраванасць — узор выдатны, прыклад для пачынаючых кампазітараў не толькі ў вас у рэспубліцы.

**Л. КАРАДЖОВА,**
**В. КАРАДЖОЎ.**
г. Ціраспаль.

# АБ МЕСЦЫ ЧАЛАВЕКА Ў СВЕЦЕ

**«Раб божы» ці стваральнік?», «Жыццёвая пазіцыя і маральныя вартасці чалавека», «Дэградуе ці ўзвышаецца чалавек?», «Месца чалавека ў свеце»— назвы асобных раздзелаў кнігі Д. Мацяса «Рэлігія і атэізм аб маральных вартасцях чалавека», выпушчанай выдавецтвам «Беларусь», але і з іх ужо відаць, наколькі публіцыстычна завострана вядзе аўтар гаворку аб пытаннях, якія хвалююць чалавецтва ўжо не адну сотню гадоў. І сапраўды, у розныя перыяды развіцця грамадства ў само паняцце маральныя вартасці чалавека ўкладваўся розны сэнс. Асабліва ваяўнічай была і ёсць царква, якая баіцца самасцвярджэння чалавека як асобы, усімі спосабамі імкнецца адцягнуць яго ўвагу ад паўсядзённых праблем жыцця.**

**Д. Мацяс, крытычна ставячыся да біблейскіх тэкстаў, звяртаючыся да выказванняў вядомых хрысціянскіх дзеячаў, развенчвае спробы «боскіх слугак» прыпаднесці рэлігію, як адзіную сістэму поглядаў, якая, маўляў, па-сапраўднаму садзейнічае самасцвярджэнню чалавека як асобы.**

**В. ЦЯРЭШКА.**

**ПРАБЛЕМЫ МЕРКАВАННІ**

*Абмяркоўваем рэформу вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы*

# ШЛЯХІ ПЕРАБУДОВЫ

УЗРАСТАННЕ ўплывовай ролі музычнага мастацтва на светапогляд моладзі. Рэзкі спад цікавасці да музычнай класікі. Перспектывы савецкай эстрады. Арганізацыя філарманічнай справы ў краіне. Стан масавага музычнага выхавання ў агульнаадукацыйнай школе. Падрыхтоўка музычна-выканаўчых і музычна-педагагічных кадраў вышэйшай кваліфікацыі. Матэрыяльная база музычнай культуры... Усё гэта — надзённыя пытанні. Паспяховае вырашэнне іх шмат у чым залежыць ад стану і эфектыўнасці работы вышэйшай музычнай школы, кансерваторыі. Значыць, надзвычай важна разабрацца, чым абумоўлены недахопы і цяжкасці ў сферы падрыхтоўкі музычных кадраў, а таксама асэнсаваць тыя магчымасці кансерваторыі, якія намячаюцца ў сувязі з перабудовай вышэйшай школы.

У праекце ЦК КПСС «Асноўныя напрамкі перабудовы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі ў краіне» адзначаецца, што перавага экстэнсіўных шляхоў развіцця праявілася і ў сферы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Пры гэтым колькасны рост выпуску спецыялістаў не суправаджаўся належным павышэннем якасці іх падрыхтоўкі. Вынікі можна коратка ахарактарызаваць так: калі падрыхтоўка спецыялістаў масавых прафесій вядзецца здавальняюча, дык выхаванне музыкантаў вышэйшага класа, якіх патрабуецца для Беларусі дзесяткі, а то і адзінкі, наладжана дрэнна. У чым прычына?

Думаецца, да сур'ёзных выдаткаў у падрыхтоўцы спецыялістаў у кансерваторыі вядзе ўкаранёная паўсюдна імператыўнасць навучання (азначэнне вядомага савецкага педагога Ш. Аманашвілі). Сутнасць такога падыходу да навучальнага працэсу ў тым, што студэнт слухае, назірае, выконвае, адказвае і г. д., а выкладчык тлумачыць, расказвае, паказвае, даказвае, дыктуе, патрабуе, правярае, ацэньвае. Іншымі словамі, у аснове навучання — прымусовы характар арганізацыі навучальнай дзейнасці студэнтаў. Зразумела, наколькі бесперспектыўны такі падыход да навучання ў творчай ВНУ, якой з'яўляецца кансерваторыя. Імператыўнасць нівеліруе галоўнае, што павінна прысутнічаць у прафесійным музычным навучанні: індывідуальны падыход да фарміравання асобы музыканта.

Як гэта ні парадаксальна, у кансерваторыі, дзе значная частка навучальнага плана рэалізуецца ў форме індывідуальных заняткаў, праблема індывідуальнага падыходу да навучання студэнтаў адчуваецца досыць востра. Цудоўныя традыцыі, назапашаныя тут музычнай педагогікай, у значнай ступені страчваюцца. У выніку зніжэнне творчага ўзроўню навучання студэнтаў кансерваторыі, для большасці якіх змест вучэбнага працэсу абмяжоўваецца абавязковым мінімумам плана: да такога дня вывучыць і здаць гэтыя музычныя творы, гэты тэарэтычны матэрыял па прадмеце і г. д. Таму вельмі актуальна для нашай ВНУ палажэнне праекта ЦК КПСС, скіраванае на неабходнасць рашучага павароту ад масавага, валавага навучання да ўзмацнення індывідуальнага падыходу, развіцця творчых здольнасцей будучых спецыялістаў. Значыць, у кансерваторыі навучальна-выхаваўчы працэс мае быць арганізаваны як творчая дзейнасць студэнтаў. Значыць, семестр павінен праходзіць пад дэвізам: не штудзіраванне чарговай праграмы да экзамена, а фарміраванне канцэртнага рэпертуару; не здача абавязковага акадэмічнага канцэрта, а выканаўчая дзейнасць; не завучванне тэарэтычнага матэрыялу да семінара, а вывучэнне асноў навук і г. д.

ПРЫЧЫНЫ, якімі абумоўлена неабходнасць перабудовы вышэйшай музычнай школы, маюць, на наш погляд, і гістарычныя карані. На міжнароднай нарадзе, не так даўно праведзенай у Веймары Еўрапейскай асацыяцыяй кансерваторый, акадэмій музыкі і вышэйшых музычных ВНУ, было падкрэслена, што ўся сістэма музычнай адукацыі (і яе арганізацыйныя асновы, і падзел на прадметы, і сам змест навучання) сфарміравалася ва ўмовах гамагеннай, аднароднай культуры, арыентаванай пераважна на музыку XIX стагоддзя. А сёння музычная культура непараўнальна багацейшая і больш разнастайная. У ёй разам загучала музыка самых розных стыляў і часоў. У палітру сучаснай музычнай культуры неад'емнай фарбай увайшла багатая і шматстайная спадчына. Сама сучасная музыка — з'ява надзвычай складаная і супярэчлівая. Так што сёння працэс развіцця музычнай культуры значна ўскладніўся: шматлікія музычныя плыні непазбежна ўзаемадзейнічаюць, часам пераплятаюцца і спараджаюць новыя формы і накірункі, вызначыць эстэтычную сутнасць якіх вельмі не проста. Нельга сказаць, што сістэма музычнай адукацыі падрыхтавана да вырашэння сучасных, надзённых для развіцця музычнай культуры і мастацтва задач, сярод якіх ключавая задача — выхаванне спецыялістаў шырокага профілю.

Вымагае ўдасканалення спецыялізацыя студэнтаў. На сённяшні дзень выпускнікі БДК, дастаткова адукаваныя людзі, як правіла, узброены «звужанымі», часам абмежаванымі прафесійнымі навыкамі. Так, прадстаўнікі большасці інструментальных спецыяльнасцей не атрымліваюць амаль ніякай падрыхтоўкі ў галіне кампазіцыі, аркестроўкі і аранжыроўкі. Пры наяўным вострым для нашай рэспублікі дэфіцыце аркестравых дырыжораў студэнты такіх аркестравых (!) спецыяльнасцей, як струнныя смычковыя інструменты, фактычна пазбаўлены магчымасці авалодаць азамі дырыжыравання. Ёсць і такая праблема: вядома, што побач з сучасным класічным выканаўчым стылем усё большую актуальнасць набываюць навыкі ігры на старадаўніх інструментах і адпаведна — інтэрпрэтацыя старадаўняй музыкі. Гэта з аднаго боку. З другога — усё больш маладых музыкантаў імкнуцца авалодаць выканаўчай манерай эстраднага і джазавага накірунку. Вострая праблема адраджэння мастацтва інструментальнай імправізацыі, якім выпускнікі БДК (за малым выключэннем) не валодаюць, але якому можна вучыць і навучыцца. Неадкладна трэба вырашаць пытанне падрыхтоўкі прафесійных выканаўцаў музычнага фальклору, як інструментальнага, так і харавога.

Як вядома, выпускнікам кансерваторыі, адпаведна вучэбным планам, надаецца некалькі кваліфікацый. Думаецца, у гэтай справе нямала фармалізму. Узнікаюць пытанні. Ці ўсе дыпломнікі, якія здалі дзяржаўны экзамен па спецыяльнасці на «выдатна», маюць права на прысваенне кваліфікацыі «канцэртны выканаўца»? Чаму кваліфікацыю «саліст камернага ансамбля» прысвойвае дзяржаўная камісія па спецыяльнасці, у той час як экзамен па гэтай дысцыпліне прымае, як правіла, іншы склад экзаменатараў? Чаму паводле адных вучэбных планаў дзяржаўная камісія можа прысвоіць не ўсе ўказаныя кваліфікацыі, а паводле іншых — толькі ўвесь «набор» без выключэння? А прысваенне кваліфікацыі выкладчыка — чысты парадокс: гэтую найадказную кваліфікацыю атрымліваюць абсалютна ўсе выпускнікі кансерваторыі без здачы дзяржаўнага экзамена! Відавочна, што пытанне аб прысваенні той або іншай кваліфікацыі павінна вырашацца дзяржаўнай камісіяй толькі пасля здачы адпаведнага дзяржаўнага экзамена, які мае быць вынікам спецыялізацыі студэнта.

Істотная перашкода ў развіцці спецыялізацыі як аднаго з канкрэтных шляхоў рэалізацыі індывідуальнага падыходу да фарміравання творчай асобы маладога музыканта — перагрузка студэнтаў абавязковымі аўдыторнымі заняткамі, у асноўным паточнымі і групавымі. Нават без спецыяльных даследаванняў бюджэту часу студэнтаў кансерваторыі зразумела, што 36-гадзінны вучэбны тыдзень (а на практыцы — гэта ўсе сорак і больш гадзін) не пакідае студэнтам амаль ніякай магчымасці для паўнацэннай самастойнай работы з інструментам, з кнігай, з партытурай. Найбольш мэтанакіраваныя і настойлівыя студэнты (недысцыплінаваных прагульшчыкаў у разлік не бяром, хоць іх колькасць таксама ў нейкай меры вынік дрэнна арганізаванага вучэбна-выхаваўчага працэсу) вымушаны «лавіраваць», вызначаючы для сябе «важныя» і «не важныя» прадметы. Гэта прыводзіць ужо да выдаткаў маральных. А галоўнае, перагрузка аўдыторнымі заняткамі замінае фарміраванню ў маладых музыкантаў патрэбнасці і навыкаў самаадукацыі. Не выпадкова (сістэма перападрыхтоўкі кадраў сведчыць пра гэта) для большасці маладых спецыялістаў працэс творчага развіцця на аснове самаадукацыі заканчваецца пасля атрымання дыплома аб вышэйшай адукацыі. Вось чаму варта прынцыповай падтрымкі змешчанае ў праекце ЦК КПСС патрабаванне «зменшыць загрузку студэнтаў абавязковымі аўдыторнымі заняткамі».

АСОБНА трэба гаварыць пра падрыхтоўку музычна-педагагічных кадраў. Улічваючы, што ў музычных ВНУ, як правіла, адсутнічаюць спецыяльныя музычна-педагагічныя факультэты, функцыі падрыхтоўкі педагагічных кадраў для прафесійных музычных навучальных устаноў выконваюць выканаўчыя аддзяленні кансерваторый. Пры гэтым кожнаму выпускніку прысвойваецца кваліфікацыя педагога, а значная частка з іх атрымлівае накіраванне на педагагічную работу. Разам з тым на ўступных экзаменах у кансерваторыі правяраецца толькі выканаўчая падрыхтоўка абітурыентаў. Педагагічныя здольнасці, як правіла, не ўлічваюцца і не вывучаюцца, навучанне вядзецца без уліку характару будучай прафесійнай педагагічнай дзейнасці маладога спецыяліста... Словам, музычныя ВНУ сёння нацэлены выключна на падрыхтоўку музыкантаў-выканаўцаў, якія пры неабходнасці займаліся б педагагічнай дзейнасцю; сучасныя ж патрабаванні да сістэмы прафесійнай музычнай адукацыі маюць на ўвазе выхаванне ўласна педагогаў-музыкантаў, псіхалагічна падрыхтаваных да работы ў музычнай навучальнай установе адразу пасля заканчэння ВНУ.

ЯШЧЭ АДЗІН важны фактар вызначае сучасныя задачы музычнай адукацыі. Усё больш выразна праяўляецца тэндэнцыя да ўзмацнення ролі музычнага мастацтва ў ідэалагічным выхаванні людзей. Раней чым у іншых сферах гуманітарнай адукацыі (хоць таксама з вялікім спазненнем) гэта было заўважана ў сістэме масавага музычнага выхавання. Значным вынікам развіцця масавага музычнага выхавання ў нашай краіне за апошнія гады можна лічыць тое, што прадмет «музыка» ў агульнаадукацыйнай школе вылучаецца ў лік ідэалагічных дысцыплін. Істотнага ўзмацнення вымагае работа па фарміраванні камуністычнага светапогляду студэнтаў БДК. Хіба нармальна, што найскладаныя задачы светапогляднай падрыхтоўкі спецыялістаў у сценах кансерваторыі вырашаюцца кафедрамі грамадскіх навук адасоблена, без удзелу педагогаў па спецыяльнасці? Нельга лічыць нармальным і тое, што выхаваўчая работа ў класе па спецыяльнасці абмяжоўваецца часам агульнымі размовамі пра фарміраванне асобы маладога музыканта. Фарміраванне светапогляду спецыяліста — гэта вучэбна-выхаваўчая работа, якая мае канкрэтны змест і мэту. Прадуманая ў такім плане работа педагога спецыяльнага класа ўзнімае ўрокі на ўзровень ідэйна-палітычнага выхавання. Інакш педагог вышэйшай школы, выхавацель творчай моладзі, ператвараецца ў настаўніка ігры на тым або іншым музычным інструменце.

У БДК неабходна таксама ўзняць ролю методыкі як навукі. Методыка і як сродак арганізацыі навучальнага працэсу ў ВНУ, і як вучэбная дысцыпліна мае дзве іпастасі: развіццё ігравых навыкаў (фарміраванне выканаўчай тэхнікі) і станаўленне асобы музыканта. Увага да пытанняў фарміравання тэхнікі, як правіла, пераважае. Асноўная прычына гэтага, мяркую, у тым, што фарміраванне ігравых навыкаў — зусім канкрэтная работа са студэнтам, пэўны вынік якой выяўляецца ў бліжэйшым будучым. А работа па фарміраванні асобы маладога музыканта вымагае ад педагога пачуцця часавай перспектывы, умення прадбачыць і прагназіраваць і да т. п. Так што не выпадкова методыка адпрацоўкі выканаўчага прыёму, штрыха, навыка распрацавана значна глыбей і шматбакова, чым методыка фарміравання эстэтычных запатрабаванняў і музычных інтарэсаў. Відаць, менавіта недасканалая збалансаванасць асноўных раздзелаў методыкі вядзе да таго, што часта маладыя музыканты не падрыхтаваны да выхаваўчай работы ў навучальнай установе.

НЕМАЛУЮ ТРЫВОГУ музыкантаў і педагогаў выклікае і праблема падрыхтоўкі абітурыентаў для кансерваторыі, бо сённяшнія ўпушчэнні ў рабоце музычнай школы заўтра абернуцца сур'ёзнымі цяжкасцямі пры падрыхтоўцы кадраў у вучылішчах і кансерваторыі. Так, праблема пераемнасці навучання важная і актуальная. У прафесійнай музычнай педагогіцы роля пераемнасці асаблівая, бо падрыхтоўка будучага спецыяліста ажыццяўляецца ў рамках замкнёнай сістэмы музычнай адукацыі, у адрозненне ад большасці прафесій, якімі можна авалодаць на базе агульнай адукацыі. Іншымі словамі, пасля заканчэння агульнаадукацыйнай школы можна падаць заяву ў любую ВНУ. Дзверы ж кансерваторыі адчынены толькі перад уладальнікамі дыплома аб сярэдняй спецыяльнай музычнай адукацыі.

Гэтая замкнёнасць сістэмы падрыхтоўкі музычных кадраў, яе строгая прафесійная накіраванасць, з аднаго боку, стварае унікальныя ўмовы для прафесійнай арыентацыі і выхавання таленту. З другога — спараджае часам ілжывую ўпэўненасць у тым, што мы маем справу выключна з маладымі людзьмі, чые прафесійныя інтарэсы цалкам аформіліся. Прымаючы ў кансерваторыю абітурыента, які набраў неабходную колькасць балаў, мы «апрыоры» ўпэўнены, што ён ужо мае эстэтычныя погляды, музычныя інтарэсы і запатрабаванні. А неабходна ж нам паклапаціцца пра фарміраванне гэтых якасцей, як і пра вырашэнне іншых спецыяльных задач выхавання — на ўсіх этапах станаўлення музыканта.

**В. ЯКАНЮК,**
**кандыдат педагагічных навук, дацэнт, прарэктар па вучэбнай рабоце Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.**

**З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА**

**Ніна РАДЗІВОНЧЫК**



## Паляшучка

I

Ці паляшучка я,
ці паляшучка?
Але навек душа сама мая
Да Прыпяці-ракі прыпята,
Ляціць, нібыта ўспуджаная
птушка,
Туды,
дзе думкамі і снамі я.

У край мой мілы сіняе смугі —
Дзе па вясне, калі сплывуць
снягі,
На багнішчах былых
ускаласіцца жыта,
Зазеляняюць, зацвітуць лугі...

Як журавы, пасталі нафтавышкі,
А жылы-правады святлом
гудуць,
І толькі рэчкі-дочкі,
не змяніўшы звычкі,
Дарункі Маці-Прыпяці
з паклонамі нясуць.

II

А мне ўсё сняцца выспы на
балотах,
Крыжы —
як хрэст на лёс, на
спраўджванне надзей,
Буслы — самотныя —
мо ад бяды людзей,
А потым —
на палосках сярод слоты
Двары зымшэлыя заснулі,
Чарнее на граніцах-межах
кмен,
І вочы сінія маёй бабулі,
Што так чакала перамен.

III

Чакала перамен мая бабуля...
Губляючы па кропельках красу,
Як і дзявочую па валаску касу,
Калі траву цягнула на грудок
У рудзе балотнай
з галавы да ног.
Калі на дол яна ў знямозе
ўпала,
Яе, радзімую, яна не
праклінала,
Зямлю бабуля шанавала —
І моц яе сама спазнала,
Бо крыху зёлкі-чары знала
І шчасце сэрцам прадчувала.

IV

Бабуля перамен мая чакала...
Калі з сярпом з цямна і да
цямна
Чужому кланялася полю,
Усё ж не зямлю кляла,
а долю,
Чакала перамен яна,
прасіла...

На наймітку нядобра пазіралі
І грэшніцай у вочы называлі.
Яна ж,
губляючы красу сваю і сілу,
Памалу сходзіла ў магілу.

V

Дні тыя, што навала,
прамінулі,
У калысцы спадчыннай
Палесся,
Як на руках у маці немаўля,
Расце, люляецца палешукоў
сям'я.

Чакала перамен мая бабуля...
А перамен тых дачакала я,
Трывогаю шчыміць цяпер
душа мая —
Як здзейсню, чым аддзячу я;
Ці паляшучка я,
ці бабіна я ўнучка?
Ці паляшучка я,
ці паляшучка я?!

**МУЗЫКА**

# АД ШАСЦІ ДА ШАСНАЦЦАЦІ

Іх «імя» — джаз-аркестр навучэнцаў дзіцячых музычных школ Мінска. Самым старэйшым з юных артыстаў, якіх вы бачыце на фота, споўнілася 16. А салісту Максіму Канавалаву толькі 6 гадоў. Ён — на першым плане здымка. Справа ў цэнтры кіраўнік дзіцячага калектыву, выкладчык эстраднага аддзялення Мінскага музычнага вучылішча І. Райхлін. Побач — вядомы кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР Ю. Саульскі, намеснік старшыні аргкамітэта сёлетняга Х Маскоўскага фестывалю эстраднай інструментальнай і джазавай музыкі. Пад час гэтага фестывалю, як можна здагадацца, і быў зроблены здымак.



Джаз-аркестр навучэнцаў дзіцячай музычнай школы г. Мінска пад кіраўніцтвам І. РАЙХЛІНА. У цэнтры — Ю. САУЛЬСКІ.
Фота У. ЛУЧЫНА.

Так, юны калектыў з Мінска ўдзельнічаў у прадстаўнічым «дарослым» музычным форуме, які праходзіў пад дэвізам «Гучыце, музы, у імя міру». Выступленне дзяцей было адзначана дыпломам і заахвочвальным прызам часопіса «Музыкальная жизнь».

Дэбют? Не, дэбют калектыву адбыўся ў лютым у Мінску, у зале ДМШ № 1, на канцэрце, прысвечаным XXVII з'езду КПСС. Затым аркестр уключылі ў канцэртную праграму для ўдзельнікаў урачыстага пасяджэння, прысвечанага Міжнароднаму жаночаму дню 8 Сакавіка. Пазней — выступленне на фестывалі дзіцячых і юнацкіх калектываў джазавай музыкі, які праходзіў у Туле пад дэвізам «Мы ў адказе за мір на планеце»: мінчане былі адзначаны там двума дыпломамі і ганаровай граматай.

Яны ўдзельнічалі ў закрыцці Тыдня музыкі для дзяцей і юнацтва ў Мінску, выступалі ў мінскім клубе аматараў джаза, наладжвалі канцэрт эстраднай музыкі ў рамках гарадской дзіцячай філармоніі. Тыдню прафтэхадукацыі Мінска было прысвечана тэатралізаванае свята ў Палацы спорту, дзе таксама выступіў дзіцячы джаз-аркестр. А яшчэ — у зале БДУ, у парку імя М. Горкага (на гарадскім свяце «Мінск-86»), у ДМШ № 1...

Дарэчы, на базе гэтай школы аркестр і арганізаваўся. Чатыры разы на тыдзень па 3 гадзіны І. Райхлін праводзіць рэпетыцыі. У праграме заняткаў — і праслухоўванне запісаў джазавай класікі, і знаёмства з асновамі музычнай імправізацыі, і папулярныя гутаркі пра гісторыю музычных стыляў. А найпершае — авалодванне на практыцы навыкамі калектыўнага эстраднага музіцыравання. Рэпертуар? «Адаптіраваныя» на юных выканаўцаў інструментальныя п'есы і песні Я. Глебава, Ю. Саульскага, Ю. Маркіна, іншых савецкіх кампазітараў, класічныя джазавыя творы.

Апошнім часам нямала гаворыцца пра актуальнасць увядзення эстраднай спецыялізацыі ў музычных навучальных установах рэспублікі. У гэтай справе можа спатрэбіцца і вопыт першага на Беларусі дзіцячага джазавага аркестра — вопыт адбору яго ўдзельнікаў, навучання і канцэртнай практыкі, выхавання музычнага густу і культуры калектыўнай ігры, вопыт прафарыентацыі.

Прамінуць канікулы — і зноў за работу. Мінская ДМШ № 1 адзначае сёлета сваё 60-годдзе —трэба рыхтавацца да юбілейнага канцэрта. І адначасова да новай паездкі: мінчан запрашаюць арганізатары традыцыйнага музычнага фестывалю ў Растове-на-Доне...

**С. ВЕТКА.**

**ВЫСТАЎКІ**

**У Полацку ў межах фестывалю мастацтваў «Полацкія зоры», які праходзіў у маі гэтага года, працавала абласная мастацкая выстаўка, прысвечаная 800-годдзю «Слова пра паход Ігаравы». Выстаўка была арганізавана Упраўленнем культуры Віцебскага аблвыканкома, абласным навукова-метадычным цэнтрам народнай творчасці, Саюзам мастакоў БССР і абласным аддзяленнем Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.**

# АЖЫВАЕ Ў КОЛЕРАХ «СЛОВА...»

...У карціннай галерэі гучыць музыка. Прэлюдыя і фуга Баха змяняецца лёгкімі празрыстымі вальсамі Шапэна, музыкай А. Багатырова і Я. Глебава ў выкананні лаўрэата міжнароднага конкурсу Ігара Алоўнікава. А на нас глядзіць сівая даўніна. Здаецца, быццам водар стэпавага ветру, які наскрозь працінае старажытнае «Слова...», праз стагоддзі даляцеў і да гэтай залы. Музыка нібы высвятліла палотны, надала ім яшчэ большую экспрэсію...

Так, не многія гарады могуць пахваліцца сваім дачыненнем да вялікага літаратурнага помніка, а тым больш гісторыяй, якая знайшла ў ім сваё адлюстраванне. Полацк мае на гэта права. Ці не таму такую цікавасць сярод гараджан і выклікаў вернісаж.

Значную частку экспазіцыі выстаўкі склалі творы непрафесійных мастакоў, а таксама ўзоры народнага мастацтва.

Але пачаць хацелася б з дзіцячых малюнкаў, якія нібыта агортвалі ўнутраную прастору галерэі. Гэта творы выхаванцаў віцебскіх, полацкіх і наваполацкіх мастацкіх школ, станцый юных тэхнікаў, студый выяўленчага мастацтва. Адной з іх — полацкай, якой кіруе В. Васільеў, — у лютым гэтага года прысвоена званне народнай. Гэтая — трэцяя ў рэспубліцы народная студыя выяўленчага мастацтва — на выстаўку прадставіла работы дзяцей ад шасці да дванаццаці год.

Для дзяцей характэрны перш за ўсё падзел герояў літаратурнага твора на станоўчых і адмоўных. У каларыстычным плане — гэта спалучэнне чыстых, не змешаных фарбаў — як на палітры, так і на карціне. Асабліва цікавыя прыклады эксперыменту з колерам, экспрэсіі выяўлення двух галоўных супярэчлівых пачаткаў «Слова...» — у юных мастакоў Віцебска. Амаль ва ўсіх работах пераважалі два колеры: чырвоны і чорны. Яны яшчэ з паганскіх часоў асэнсоўваліся з дзвюма асноўнымі праявамі навакольнага свету — жыццём і смерцю, дабром і злом, што, дарэчы, так характэрна і для самой паэмы.

Свет паганскай сімволікі «Слова пра паход Ігаравы» знайшоў сваё адлюстраванне і ў творах сталых мастакоў. Побач з чалавекам у іх творах арганічна існуюць, а часам і з'яўляюцца галоўнымі героямі-сімваламі жывёлы і птушкі, напрыклад, каршун, сокал, голуб, лебедзь. Гэта дазваляе больш поўна і маляўніча раскрыць перад гледачом свет «Слова...». Асабліва хацелася б адзначыць графічныя работы Н. Шчаснай («Паход Ігараў» (трыпціх), «Плач Яраслаўны»).

Значнае месца сярод жывапісных работ займалі архітэктурныя матывы і прырода роднага краю. Гэта творы як прафесійных мастакоў (У. Вальноў, А. Мацецкая), так і аматараў (І. Званкоў, М. Гвоздзікаў, А. Гарачаў). Але, на жаль, мастацкіх знаходак было небагата. Большасць твораў ілюстрацыйнага характару, а таму яны не мелі таго ўздзеяння на пачуцці чалавека, не рабілі такога ўражання, як, напрыклад, жывапісныя творы мастака В. Шчаснага («Памяць зямлі» (трыпціх), «Легенда»).

У раздзеле дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, дзе экспанаваліся разьба па дрэве, скульптура, ткацтва, прыцягвалі ўвагу творы самадзейнага скульптара Ф. Максімава. На выстаўцы было прадстаўлена больш за дзесяць яго работ. Гэты мастак валодае не толькі такім «лёгкім» у апрацоўцы матэрыялам, як дрэва, але і больш складаным — мармурам.

Найбольш удалым выкарыстаннем прыроднага матэрыялу — пластыкі перапляценняў каранёў дрэва, увасабленнем яго ў творы мастацтва — можна лічыць работы кіраўніка гуртка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва полацкай станцыі юных тэхнікаў Ю. Халаднова («Усяслаў Чарадзей», «Балада пра «Слова...»). Добрым мастацкім густам вылучалася разьба па дрэве і выканаўцаў Наваполацкай станцыі юных тэхнікаў (кіраўнік А. Шышанкоў)...

І ўсё ж пажадана было б, каб у такіх выстаўках больш шырокі ўдзел прымалі прафесійныя мастакі, бо ў творах, прадстаўленых на выстаўцы, не хапала індывідуальнага аўтарскага падыходу, глыбіні асэнсавання «Слова пра паход Ігаравы» праз традыцыі сусветнай культуры і спецыфічны творчы вопыт мастака-прафесіянала.



Ю. ХАЛАДНОЎ. Балада пра «Слова...».



Дзіма АСТРОЎСКІ. Летапісец. Гурток разьбы па дрэве Наваполацкай станцыі юных тэхнікаў.

Арганічна ўспрынялася канферэнцыя, прысвечаная «Слову...», якая адбылася пад канец работы выстаўкі. У ёй прынялі ўдзел вучоныя, мастакі, літаратары, — тыя, хто цікавіцца роднай гісторыяй і мастацтвам.

**Сяргей ТАРАСАЎ.**

**Рэдакцыя «ЛіМа» атрымала трывожнае пісьмо сваёй маладой чытачкі А. Крапіўнай, у якім закранаюцца, на нашу думку, вельмі важныя, надзённыя праблемы жыцця і адпачынку моладзі. Мы папрасілі пракаменціраваць гэтую карэспандэнцыю пісьменніка Валянціна Тараса.**

# «ФРАЕРЫ» З «РЭЙХА», «ГЕРЛІЦЫ» З «ПАМЫЙНІЦЫ»

Дзед мой распісаўся на сцяне рэйхстага. У маі сорак пятага...

Добра, што дзядуля нічога пра гэта не даведаецца, не пачуе ніколі. А тут неаднойчы, асабліва бліжэй да выхадных, чуеш: «Куды пойдзеш?» — На «Рэйх», бо на «Памыйніцы» абрыдла. «Што за «Рэйх»?—пытаюся. Глядзяць са здзіўленнем. Потым пагардліва ўхмыляюцца. Не адразу даведалася, што «Рэйх», аказваецца, у цэнтры Мінска. Інакш не называюць «кампаніі на пастаянцы» танцзалу «Мінск» у парку Чалюскінцаў. Яна з чырвонай цэглы. З гэтай прычыны, пэўна, дзікае параўнанне. Але інакш не называюць. А ёсць яшчэ «Памыйніца» (рэстаран «Нёман»), «Павуцінка» (кавярня «Рэчанька»); «Аўтаз» (Палац культуры і тэхнікі аўтазавода) і дыскатэка «Вільнюс» пакуль яшчэ не перайменаваны.

Што ж, лепш адзін раз пабачыць, чым сто разоў пачуць...

Гарадскія дыскатэкі па выхадных робяцца месцам, куды з розных куточкаў горада сцякаецца моладзь. Прыходзяць сюды кампаніямі, цэлымі «раёнамі», паасобку і парамі, каб паспаборнічаць раён з раёнам за самы натапыраны «вожык» (мужчынская прычоска), перацягнуць колькасцю лейб на «палавіках», набытых з вялікай цяжкасцю ў «фарцы» — наогул сябе паказаць, іншых паглядзець. А здзіўляцца тут чужому чалавеку сапраўды ёсць чаму.

Чым жа так прываблiваюць маіх равеснікаў дыскатэкі, што прымушае іх гадзінамі прастойваць у чарзе па білеты, які духоўны пажытак яны набываюць на гэтых культурных мерапрыемствах? Цяжка паверыць, што запатрабаванні маладога чалавека могуць быць задаволены толькі штодзённымі наведваннямі ўсялякага роду забаўлівых устаноў. Але «залатая» моладзь (менавіта так называюць сябе пастаяльцы «Павуцінак» і «Памыйніц») ахінута арэолам таемнасці і недаступнасці.

Асаблівай папулярнасцю карыстаецца дыскатэка «Аўтаза» білеты раскупляюцца імгненна. Няўдачнікам застаецца бавіць час ля параднага пад'езда, і ў чаканні лішніх білетаў пагутарыць, абмеркаваць апошнія навіны. Менавіта гэтым былі заняты дзяўчаты побач са мною, якія спрытна распраўляліся з пачкам «Космасу».

— Там у нас сёння Малышка будзе разбірацца з Алёнкай. Цікава паглядзець, як падсапсуюць макіяж на яе мілым тварыку. Ну, пасварылася з продкамі, змылася з дому, прыладзілася на хаце — жыві, ды не рабіся нахабнай, даражэнькая! А яна поўную бутэльку «Магіі», дэзадарант Францыя-Сірыя, світэрок з кітайскай воўны... Калі пазычыла ўжо на вечнае карыстанне, дык схавай, фарцані, вычакай. А яна ў абноўцы на другі дзень выплыла на агледзіны. Сёння ёй растлумачаць, што яна «памыляецца»...

Падкаціла таксі. Юны пасажыр, які адразу ацаніў становішча, скамандаваў наперад. Да «Памыйніцы», да «Павуцінкі» — хто ведае...

Кампанія хлапцоў, якія галасна абмяркоўвалі нейкі план, пералічвала фінансы. Ім, відавочна, на штосьці не хапала.

— Чуеш, фраер, накінь паўрубля,— ветліва папрасіў адзін з іх юнака ў ружовых «бананах», што стаяў непадалёк.

— Няма ў мяне нічога!

— Што робіцца! — падзяліўся вымагальнік са сваім калегам.

— «Крестов» ад сваіх ужо не адрозніш.

(Для недасведчаных: «кресты» перакладаюцца як «крестьяне», другі гатунак).

— Макар, растлумач парнішу, што мы выбіраем яго верхаводам банды. Хай гоніць першы ўзнос,— пажартаваў нехта.

Пагляд паблажлівых вымагальнікаў упаў на маю суседку:

— Нішто сабе козачка. Між іншым, магла б і дапамагчы тапельцам. Табе б мы таксама пакінулі.

— Правальвай адсюль, пакуль цэлы. Зараз «рэйхаўцы» прыйдуць. Яны табе ўжо пакінуць. На памяць.

— Зразумеў. Так бы адразу і сказала.

Непрыступная вахцёрша прапускала спозненых шчаслівчыкаў. Унутры дыскатэкі пагасла святло, уключылі святламузыку, урубілі «хвалю».

(Для недасведчаных: «хваля» — апошні накірунак у дыскамузыцы).

Цяжка паддаецца апісанню тое, што я ўбачыла ў зале. Кожны стараўся з усіх сіл, тайком браў урокі ў агульнапрызнаных каралёў «дансінга». Так культурна адпачывала адна частка моладзі. Другая, большая, была занята велікасвецкай размовай у курыльні.

Туалеты ўяўлялі сабой своеасаблівы салон. Тут можна было пачуць апошнія навіны, якія напаміналі слупкі свецкай хронікі і апавядалі пра жыццё каралёў і каралеў гарадскіх дыскатэк, стаць відавочцам паядынку запальчывых спрэчак, што нярэдка даходзілі да бойкі, папоўніць слоўнікавы запас каларытнымі выказваннямі. А калі ёсць жаданне, можна тут жа атаварыцца — былі б фінансы.

Маркота ў чарзе па білеты ў якую-небудзь дыскатэку, кафэ, дзе можна патанцаваць, бавенне часу з цыгарэтай у туалетах, пагоня за модай, якая так хутка мяняецца, і, адпаведна, клопаты аб набыцці хоць якіх-небудзь фірменных рэчаў — гэта ўжо распарадак жыцця. Але ён не задавальняе ў поўнай меры тых, хто жыве па ім. І не таму, што яны бачаць яго амаральнасць, а таму, што яны адчуваюць яго аднастайнасць. З дня ў дзень адны і тыя ж гаворкі, праблемы, адны і тыя ж твары навокал. А дзяўчаты ж, якія дымяць у курыльнях дыскатэк, некалі і дапусціць не маглі, што будуць жыць іменна па такім распарадку «залатога» жыцця. Прыцягнулі іх у гэты свет знешні бляск і ўяўнае шчасце. Але ў салодкім жыцці юныя шукальніцы прыгод з часам убачылі і адваротны бок. Заўсёднае саперніцтва, высвятленне адносін, дзяльба паклоннікаў, неабходнасць пастаянна знаходзіцца на «грэбені хвалі» — тут ужо цэлая барацьба за «выжыванне». Няўмольна дзейнічае закон джунгляў: перамагае мацнейшы. Так, паступова, мілыя, пяшчотныя дзяўчаты ператвараюцца ў грубых, цынічных «герліц».

(Для недасведчаных: «герла», «герліца» — раней называлася «чувіхай», а яшчэ раней — «девушкой»).

Балота так званага салодкага прыгожага жыцця засмоктвае. І выбрацца з яго без старонняй дапамогі — ой, як цяжка...

Перапынак. Усе рынуліся ў кіназалу. Патухла святло. На экране — вобразы нашага часу: раскоша і галеча, ваенная пагроза, гінучая прырода, націск урбанізацыі, падзеі на Блізкім Усходзе, мітынгі і рознае такое, што як быццам бы павінна прымусіць задумацца. Але як жа думаць, калі галава яшчэ не астыла ад «хвалі»? Дзеўка з капой ускудлачаных валасоў лянотна адбіваецца ад двух сябрукоў. Яны вырашылі, што зараз самы час даведацца: баіцца яна козыту ці не. Вясёлая кампанія расселася ў першым радзе. Іх рухавыя сілуэты выразна адбіліся на экране, засланіўшы сабой нейкія новыя ядзерныя базы і чыесьці хваляванні за лёс міру. Зала рэагавала менавіта на гэтыя жарты ў першым радзе...

Пасля разгарачанага танца ў хлопцаў дужа ўнушальных габарытаў застаўся запас нерастрачанай энергіі. Ім не сядзелася, не кажучы аб тым, што «не глядзелася». З крыкамі, кваканнем, бляяннем уся кампанія прадэфіліравала да выхаду, вельмі пераканаўча пераймаючы статак кароў: «Му-у-у!»

Сёй-той спрабуе засяродзіцца. На экране апошнія кадры: моладзь у барацьбе за мір, дэманстрацыі, збор подпісаў, антываенныя лозунгі. Ды дзе там... Пасля фільма скакалі пад «Бэд бойз блю».

(Для недасведчаных: «Бэд бойз блю» ў перакладзе «сапсаваныя блакітныя хлопчыкі»).

Да поўнай знямогі, сёй-той да адключкі. Знаёмы ў ружовых штанах выпадкова ўплішчыўся ў круг млявых «герліц». Бедны «крест» выйшаў на свежае паветра ў поўнай адключцы з сярэднім фінгалам пад правым вокам...

Лепш адзін раз убачыць?.. Не, мала. Можа, у другіх месцах цікавей? Была яшчэ у чатырох. Тое ж самае. Тая ж музыка. Тыя ж абставіны. Тая ж праграма. Здаецца, нават, «пастаяльцы» адны і тыя ж. Усе на адзін твар. І перакананы ў тым, што за аддадзены «рэ» іх

# ПУСТАЗЕЛЛЕ ЗАНЯДБАНАГА ПОЛЯ

Пісьмо нядаўняй школьніцы Насці Крапіўнай, якое рэдакцыя «ЛіМа» папрасіла мяне пракаменціраваць, уласна кажучы, асаблівых каментарыяў не патрабуе. У ім усё ясна, яно гаворыць само за сябе. І трэба, відаць, не каменціраваць яго, а паспрабаваць адказаць на пытанне: адкуль яны ўзяліся, усе гэтыя «фраеры» і «герліцы», адкуль, з чаго паходзяць іх схільнасці, густы, іх мараль?

Прасцей за ўсё было б адказаць, што чужыя вятры занеслі. І быў час, не надта яшчэ і далёкі, калі так і адказвалі, калі амаль усе язвы нашага жыцця, асабліва жыцця моладзі, тлумачыліся подыхам чужых вятроў, інфільтрацыяй бацыл заходняй антыкультуры, уплывам варожых ідэй. Ды, аднак, усё не так проста, не так адназначна.

Вядома, чужыя вятры нас не мінаюць, ідэалогія буржуазнага «спажывецкага грамадства» сапраўды, дзякуючы сродкам масавай інфармацыі, прарываецца праз мяжу, якая ляжыць паміж двума светамі, і глухой сцяны на гэтай мяжы не паставіш — у бітве ідэй лінія абароны ўзводзіцца не з жалезабетону, а з перакананняў, прынцыпаў, з нашай гістарычнай праваты. Праўда, правата не можа адгароджвацца глухой сцяной ад таго, што робіцца ў суседзяў, існаваць у нейкай замкнёнай прасторы, гісторыя наканавала нам жыць побач з нашымі заходнімі суседзямі, і старацца жыць мірна, суіснаваць, бо інакш усіх нас, таксама як і іх, знішчыць пачвара ядзернай вайны. Так, у двары нашых суседзяў гніе куча старога ладу, на якой плодзяцца чэрві бязмозглага спажывецтва і брыдкія мухі антыкультуры, і, вядома, уся гэта брыдота імкнецца распаўзціся і разляцецца па ўсім свеце. Таму мы павінны пільна сачыць за тым, каб на нашым двары было чыста, каб не было ў ім ніводнага куточка, дзе маглі б прыжыцца суседскія чэрві і тыя ж мухі. На чыстым дворышчы мухі не раяцца, на добра дагледжаным полі не расце пустазелле. І нават калі чужы вецер занясе на такое поле злаякаснае насенне, яму не ўкараніцца, дужыя, здаровыя расліны яго задушаць. Вось і давайце глядзець праўдзе ў вочы, давайце не будзем спіхваць усё на чужы вецер, давайце паглядзім на свой двор, на сваё поле: ці не занядбалі мы нейкі яго ўчастак, ці няма на нашым дворышчы свайго, не запазычанага, бруду, смецця, якое самі нацерушылі?..

Бясспрэчна відаць, што тыя застойныя з'явы ў нашым грамадскім і гаспадарчым жыцці, той разлад паміж словам і справай, паміж прапіснай мараллю і рэальным учынкам, пра якія з такой шчырасцю і мужнасцю гаварылася на XXVII з'ездзе КПСС, якраз і з'явіліся той глебай, што нарадзіла не толькі хабарнікаў, балбатуноў усіх рангаў, злодзеяў буйнога маштабу і дробных драпежнікаў— «несуноў», не толькі злачынных паказушнікаў, накшталт дырэктара Чарнобыльскай АЭС, толькі што выключанага з радоў партыі, але і «фраераў», і «герліц», увесь гэты нікчэмны свет духоўнага жабрацтва, дзе найвялікшая каштоўнасць — дэзадарант з замежнай наклейкай, а вяршыня мастацтва — дыск з чарговым, супермодным танцам святога Віта...

Адзін з вялікіх філосафаў сказаў: «Юнацтва — гэта адплата». Ні ў якім разе, вядома, нельга гаварыць, што «фраеры» і «герліцы»—гэта і ёсць усё наша юнацтва, што яны вызначаюць яго аблічча, але тое, што яны — адплата, наўрад ці можна аспрэчваць. Адплата за ману і крывадушша, адплата за фармалізм і палітычную траскатню, за бюракратызм, за ганебную для камуністаў пыху чынуш, за парушэнні сацыяльнай справядлівасці. Бо юнакі і дзяўчаты ўсё гэта бачылі. Бачылі і рабілі свае вывады. Няправільныя вывады, памылковыя вывады, але ў гэтым іх бяда, а не віна. Віна на тых, хто быў і жыве не па сумленні, віна на бюракратах і фармалістах, на настаўніках і камсамольскіх работніках, віна — на ўсіх нас. Бо ўсе гэтыя з'явы, аб якіх тут сказана, прыводзілі, не маглі не прыводзіць да інфляцыі ў вачах нявопытнай, зялёнай моладзі нашых высокіх паняццяў, нашай ідэалогіі, якая стараннямі казённых душ, стараннямі прыстасаванцаў на ўсіх паверхах нашага грамадства, стараннямі халтуршчыкаў ад літаратуры, кіно, журналістыкі ператваралася ў ф р а з е а л о г і ю. І я ўпэўнены, што выкладчык ці лектар, які раўнадушнай, казённай, суконнай мовай, па канспектах трыццацігадовай даўніны так-сяк падноўленых вытрымкамі з новых пастаноў і цытатамі з новых дакладаў, выкладае марксісцка-ленінскую навуку, што такі выкладчык ці лектар наносіць гэтай навуцы не меншую шкоду, чым паклёпнік з радыё «Свабода». А можа, нават і большую. І бяздарны раман на «актуальную тэму» таксама працуе на інфляцыю нашых ідэй, і бязглуздая кінакамедыя, і саладжавы вершык, кашчунскі пабудаваны на бядзе Чарнобыля, які прагучаў не так даўно па Цэнтральным тэлебачанні, — таксама. І фармалістычны, паказушны «ахоп» падлеткаў па камсамольскай лініі, каб усіх разам, чохам прыняць у камсамол. І старанна «заарганізаваныя» камсамольскія сходы... Як чорт ад ладану, уцякаюць зялёныя юнакі ад усёй гэтай фармалістыкі, ад саладжавай маны, ад зануднай балбатні, ад пустога маралізавання. Уцякаюць куды? У вакуум? Не! У абдымкі псеўдафіласофіі, псеўдаідэалогіі, псеўдакультуры, якія пры ўсёй сваёй ілжывасці ўмеюць прыстасоўвацца да моладзі, чула і імгненна рэагуюць на нашы пралікі, памылкі, скажэнні, на тое, што мы часта баімся праўды, падзяляем яе на «патрэбную» і «непатрэбную», на «малую» і «вялікую», на «акопную» і «стратэгічную». Але праўда непадзельная, і тыя пустоты, якія ўтвараюцца ў нашым жыцці за кошт «выключнай» праўды, запаўняе хітрая мана нашых ворагаў. І нельга не здзіўляцца, як боязь праўды прыкрываецца высокімі, «прыгожымі» словамі. Памятаю, напрыклад, як адзін з рэдактараў выдавецтва «Юнацтва», патрабуючы ад мяне, каб я зняў са сваёй аповесці размову пра тое, што герой аповесці паступіў ва універсітэт дзякуючы хабару, які далі аднаму з выкладчыкаў бацькі юнака, сказаў, што, маўляў, у яго сэрца баліць за нашу краіну, за наш лад, калі ён чытае такое, што яму вельмі крыўдна. А таму, казаў ён, момант з хабарам трэба зняць! Логіка, вядома, цудоўная... І ці не многім і многім аповесцям, дзе ўсё гладка і міла, дзе не існуе ні хабару, ні блату, ні прыстасаванства, але затое ёсць выдуманае, спісанае з

абавязаны весяліць, займаць, забаўляць, а яны маюць права прымаць ці не прымаць тое, што прапануюць. «Хваля», «сапсаваныя блакітныя», «Мо-дэн токінг», не кажучы ўжо пра Брэйк-дансінг — гэта сіла, а вартыя жалю спробы штатнага культработніка разнастаіць праграму выклікаюць адно асуджэнне і насмешку. Таму што сумна, навязліва, нецікава, а часам і проста недарэчна. На розных мовах дыялог не атрымліваецца. А патрэбен гэты дыялог, бо гэтыя «фраеры», з «Рэйха», «чувіхі» з «Павуцінкі», «герліцы» з «Памыйніцы» часта дома — уважлівыя дзеці, у школе — неблагія вучні. Якімі ж яны стануць людзьмі? Хто перацягне на гэтых невідочных вагах: сапраўдная духоўнасць жыцця і мастацтва ці «сапсаваныя блакітныя»? У гэтых хлопцаў і дзяўчат ужо свой распарадак тыдня. Калі хочаце, лад жыцця. Яны аб'ядналіся ў свае групкі ў чаканні наступнай дыскатэкі. Яны адгарадзіліся ад допуску ў сваю атмасферу «чужародных» целаў.

На «Рэйху» (нават агідна пісаць гэтае слова, даруй мне, дзядуля) яўная прысутнасць прыгнятаючай разнастайнасці гэтай аднастайнасці. Нідзе, бадай, не ўбачыш столькі фірменных лейб, маек з нумарам «зэка», рознакаляровымі акрываўленымі драконамі, кідкімі надпісамі — «камікадзе»... Танцуюць тут па строгім рэгіянальным падзеле: справа — Сляпянка, злева — Зялёны Луг, у самым цёмным куце — гаспадары-«рэйхаўцы». У другіх кутах — пасланцы «Павуцінкі», «Аўтаза», камвольнага... Ёсць у іх ва ўсіх адна мара: дарасці як-небудзь да «Планеты», «Юбілейкі». Гэта няпроста. Патрэбны больш модныя лейбы, а галоўнае, надзейныя сувязі з «вышэйшым светам». (Для недасведчаных: лейбы — фірменны ярлык).

У афіцыйных справаздачах тых, хто адказвае за адпачынак моладзі, ні «Рэйхаў», ні «Павуцінак», ні «Памыйніц» не значыцца.

**Насця КРАПІЎНАЯ,**
**выпускніца СШ № 6**
**г. Мінска.**

---

**плакацікаў «Як сябе паводзіць?» жыццё, — ці не такім аповесцям мы павінны «падзякаваць», што наш юны чытач уцякае ад нашых кніжак у «Рэйх», дзе круцяць новую «хвалю»? Бо ён бачыць, што жыццё не такое, што яно ідзе «не па пісанаму», а па зусім іншай дарозе. Як гаворыцца ў рускай прымаўцы: «Гладко было на бумаге, да забыли про овраги, а по ним ходить»!**

**Спытаюць: а што ж рабіць? Як змагацца з «фраерамі» і «герліцамі»? Думаю, што не змагацца з імі трэба, а перабудоўваць належным чынам наша жыццё, яго маральны клімат. Каб не было ніякага бруду, ніякай маны, каб мы заўсёды глядзелі праўдзе ў вочы і называлі ўсе рэчы сваімі імёнамі, каб ніхто з нас не гуляў у «паддаўкі» ні з кім і ні з чым — ні з акалічнасцямі, ні з «сильными мира сего». Адным словам, каб кожны з нас біўся за тыя прынцыпы, якія з такой сілай і верай у незлічоныя стваральныя сілы народа яшчэ раз падкрэсліў XXVII з'езд партыі. І тады знікне глеба, на якой вырастаюць «герліцы» і «фраеры». Давайце заўсёды помніць, што юнацтва — гэта адплата. І толькі наш уласны прыклад — прыклад сумлення і мужнасці — робіць яго не адплатай, а зменай. А змена ўсё ж ёсць. І доказ гэтаму — само пісьмо Насці Крапіўнай, равесніцы «герліц» і «фраераў». Доказ — тысячы і тысячы разумных, шчырых юнакоў і дзяўчат, якія глядзяць на нас з надзеяй, што мы — іх бацькі — будзем іх аднадумцамі ў непрыняцці фальшывасці, крывадушша і маны.**

**Валянцін ТАРАС.**

# Памяці Яна Гушчы

НЯДОБРАЯ, сумная вестка прыйшла з Лодзі — на 69 годзе жыцця пасля працяглай і цяжкай хваробы памёр вядомы польскі пісьменнік, даўні і шчыры сябра беларускай літаратуры, адзін з самых нястомных і натхнёных яе прапагандыстаў і перакладчыкаў Ян Гушча.

Біяграфія Яна Гушчы даволі сціплая і нічым асаблівым не вылучаецца. Нарадзіўся ён у фальварку Загасцінне на Дзісеншчыне ў самым канцы 1917 года, скончыў Віленскі універсітэт, настаўнічаў у заходнебеларускіх вёсках, супрацоўнічаў у прагрэсіўных газетах «Poprostu» («Папросту») і «Karta» («Карта»). Апынуўшыся ў гады змагання з фашызмам ў Маскве, ён з галавой уключаецца ў работу Саюза польскіх патрыётаў, шмат сіл і ўвагі аддае працы ў рэдакцыі часопіса «Nowe Widnokręgi» («Новыя далягляды»). У 1945 годзе пераязджае на сталае жыццё ў Польшчу.

Першая кніга паэзіі Яна Гушчы «Балада пра падарожных» выйшла ў 1938 годзе ў Вільні. У Лодзі, дзе пасяляецца і потым жыве да канца дзён сваіх, пісьменнік піша і выдае адна за адной кнігі «Мястэчка пад Альшанкай» (1948 г.), «З далёкіх дарог» (1957 г.), «Між крыку чаек» (1959 г.), «Новыя вершы» (1963 г.), «Кругі» (1964 г.), «Вершы і байкі» (1969 г.) і іншыя, іншыя. Усяго ў Яна Гушчы выйшла з друку больш за 30 кніг. Сярод іх — кнігі паэзіі, прозы, сатыры і гумару, нарысаў і эсэ...

Сталая і непарыўная была ў Яна Гушчы сувязь з Беларуссю. Без роднага краю ён не ўяўляў свайго жыцця. І таму, каб акрыяць душою, набрацца сіл і ўражанняў, ён так часта прыязджаў у Беларусь, падарожнічаў па нашых гарадах і вёсках. У прадмове да сваіх выбраных апавяданняў «Пан Грацыян і іншыя», што выйшлі асобнаю кнігаю ў Мінску ў перакладзе на беларускую мову ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1976 годзе, ён пісаў: «Паходжу я з аколіц мястэчка Дзісна над Дзвіною, мяркую, што мовы польскую і беларускую пачуў аднačасова. Мае дзяды і бацькі на тых землях нямала папетаваліся, бо з далёкае даўніны выводзіцца іх паходжанне, і тыя нівы многа ўсмакталі і іхняга поту.

Не буду гаварыць пра гэта больш, бо шмат сказаў у нарысе-ўспаміне «Лямпа».

Як паэт і празаік я часта вяртаўся да сваіх родных мясцін. Іменна ў вершах і апавяданнях. Не раз таксама вяртаўся я туды і яшчэ ўсё вяртаюся, калі з прыхільнасцю перакладаю на маю родную мову беларускія вершы і апавяданні...

Найбольшы — я адчуваю так і дагэтуль — польскі паэт, Адам Міцкевіч напісаў у эпілогу да «Пана Тадэвуша»:

Маленства край! Ты з намі да скanання —
Чысты, святы, як першае каханне.

Прызнаннем пачынае Якуб Колас, аўтар найлепшай — як на маё ўспрыманне — беларускай паэмы «Новая зямля»:

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!»

Менавіта яму, роднаму краю, краю маленства, прысвяціў Ян Гушча многія лепшыя старонкі «Аповесці ў чорных рамках», вершы «Вязынка», «Да сябра-беларуса» і іншыя свае творы.

Ян Гушча быў складальнікам і перакладчыкам многіх твораў анталогій беларускай паэзіі, якія выйшлі ў Польшчы,—«Беларускія вершы» (1971 г.) і «Анталогіі беларускай паэзіі» (1978 г.), Ён пераклаў на польскую мову творы М. Багдановіча («Выбраныя вершы», 1971 г.), зборнік апавяданняў «Мае мядзведзі» і іншыя беларускія апавяданні» (1975 г.), кнігі У. Караткевіча «Блакіт і золата дня» (1976 г.), Я. Брыля «Ніжнія Байдуны» (1979 г.). Выдатна прагучалі яго пераклады і вершаў Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, У. Дубоўкі, М. Танка ды і многіх, многіх іншых.

Няўрымслівы, абаяльны быў Ян Гушча і як чалавек. Сустрэцца з ім — гэта значыла ўзбагаціцца. Прыгожы, рослы, быццам трохі буркатлівы, а то і калючы, з'едлівы, ён раскрываўся не адразу ва ўсёй сваёй непаўторнасці і дабрыні. Не ўсё яму падабалася, бо быў ён надзіва праніклівы і бачыў многае далёка наперад. Ані не цярпеў няшчырасці, маны, асабліва, калі хто падкрэсліваў сваю выключнасць, вышэйшасць. Будучы ў мінулым годзе ў Лодзі, я пачуў, як у той дом, дзе жыў Ян Гушча, пасяліўся генерал. І першае, што зрабіў, гэта на дзвярах сваёй кватэры прыбіў адпаведную шыльдачку: «Генерал...» (далей ішло імя і прозвішча генерала). Ян Гушча, чалавек з прынцыпамі і з гумарам, не вытрымаў, і на дзвярах сваёй кватэры прыбіў таксама шыльдачку — «Радавы Ян Гушча». Генерал, відаць, зразумеў сваю памылку і зняў шыльдачку. А Ян Гушча сваю не зняў, і ўсе, хто прыходзіў на кватэру ў госці да генерала, бачылі, што ён жыве побач з радавым... Генеральскі гонар быў закрануты, і генералу нічога не аставалася, як з'ехаць з кватэры. Толькі тады Ян Гушча зняў шыльдачку са сваіх дзвярэй...

Непахісны, цвёрды Ян Гушча быў ва ўсім, асабліва ў сваіх поглядах. Уплываць на яго, а тым больш пераканаць у нечым было амаль немагчыма. Складаючы памянёную ўжо кнігу выбраных яго апавяданняў для выдавецтва «Мастацкая літаратура», я паслаў некалькі лістоў, каб упрасіць яго напісаць прадмову ці пасляслоўе. Нарэшце я атрымаў ад яго адказ, які пачынаўся так: «Мяне прасілі напісаць прадмову або пасляслоўе да кнігі маіх выбраных апавяданняў, якая выдаецца па-беларуску.

Я абараняўся, як мог, бо лічу, што сур'ёзныя прадмовы і даклады на розных урачыстых пасяджэннях нельга лічыць спецыяльнасцю пісьменнікаў. Нават тады, калі прадмовы тыя ці даклады бываюць даволі кароткімі...

...Не ведаю я дакладна, што ўяўляюць сабою апавяданні, выбраныя з майго — не пра колькасць кажучы — сціплага літаратурнага набытку, але хацелася б, каб выбар гэты зацікавіў беларускага чытача.

Калі ж яно збудзецца, хоць бы як найсціплейшым чынам, гэта будзе яшчэ адным маім вяртаннем у родныя мясціны— «край маленства»...

Ну вось, калі ласка, — з таго, што я напісаў, атрымалася штосьці накштальт прадмовы або пасляслоўя. Што ж, думка пра яшчэ адно вяртанне, да таго ж у выглядзе кнігі, чагосьці асабліва важнага для пісьменніка, вельмі хвалюе мяне.

Прашу прабачэння!»

...«Прашу прабачэння!..» Гэтымі словамі ён пачынаў амаль кожную размову, гэтымі словамі часта і канчаў яе. Маўляў, што зробіш, такі я чалавек, інакшым не магу ды, шчыра кажучы, і не хачу быць. Прымайце мяне такім, які я ёсць...

Многія з нас, беларускіх пісьменнікаў, ведалі Яна Гушчу, любілі яго такога, якім ён быў. І з глыбокім смуткам успрынялі вестку пра смерць яшчэ аднаго ўсім нам блізкага чалавека, выдатнага мастака, шчырага сябра беларускай літаратуры.

Бывай, дарагі дружа Яне! Няхай лёгкай будзе табе лодзінская зямля!

**Барыс САЧАНКА.**

**ПОШУКІ ЗНАХОДКІ**

# НА БЕЛАРУСКІМ ТРАКЦЕ...

Гэта своеасаблівая карта створана навуковымі супрацоўнікамі Усесаюзнага музея А. С. Пушкіна. Дзесяткі старадаўніх паштовых станцый пазначаны на ёй, упрыгожваюць яе мініяцюрныя малюнкі з выявай верставых слупоў, коннікаў і фельд'егерскіх троек. А ў правым верхнім куце ліста, у картушы з буйнымі мудрагелістымі завіткамі, стылізаванымі пад арнаментыку мінулага стагоддзя, значыцца: «Карта падарожжаў А. С. Пушкіна». З поўначы на поўдзень працягнуўся старадаўні Беларускі паштовы тракт, па ім праз Полацк, Віцебск, Магілёў і Чачэрск пралягалі маршруты паэта.

1820 год — пачатак пушкінскіх падарожжаў. За вольналюбівыя вершы і эпіграмы Пушкін, ледзь пазбегнуўшы ссылкі ў Сібір, быў па загадзе цара высланы з Пецярбурга — пад выглядам камандзіроўкі яго адправілі на поўдзень краіны. Па Беларускім тракце паэт дабраўся да месца свайго прызначэння — у горад Екацярынаслаў. Менавіта з Беларускім паштовым трактам была звязана задума неажыццёўленага твора Пушкіна «Запіскі маладога чалавека». У рукапісах паэта захаваўся ўрывак гэтай задуманай ім аповесці пра дзекабрыста.

— Мяркуючы па задуме, — расказвае навуковы супрацоўнік музея Ніна Іванаўна Граноўская, — герой аповесці, малады прапаршчык, едзе ў маі 1825 года ў Чарнігаўскі полк. (Успомнім, што там у снежні таго ж года адбылося паўстанне, арганізаванае членамі Паўднёвага таварыства дзекабрыстаў). Ва ўрыўку апісана адна са станцый Беларускага паштовага тракту...

Да нашых дзён захавалася падарожная Пушкіна, якую прад'яўляў ён станцыйным наглядчыкам на паштовых станцыях Беларускага тракту. Карыстацца паслугамі пошты можна было толькі пры наяўнасці падарожнай — дакумента, які пацвярджаў асобу падарожніка і мэту паездкі. Атрымаць жа падарожную ў беларускіх павятовых і губернскіх гарадах можна было ад гараднічых і начальнікаў губерній, як значыцца ў «Правілах для праязджаючых на поштах».

«Карта падарожжаў А. С. Пушкіна» прадстаўлена сёння ў экспазіцыі філіяла Усесаюзнага музея А. С. Пушкіна «Домік станцыйнага наглядчыка», які знаходзіцца ў вёсцы Выра пад Ленінградам. Гэтаму адзінаму ў нашай краіне музею дарожнага быту пачатку XIX стагоддзя прысвечаны новы альбом, нядаўна выпушчаны Ленвыдам. На першай старонцы альбома рэпрадуцыравана карта пушкінскіх падарожжаў з нанесенымі на яе паштовымі станцыямі Беларускага тракту.

**З. АФАНАСЬЕВА,**
**мастацтвазнаўца.**

# З КНІГАЙ—ДА ЖЫВЁЛАВОДАЎ

**Загадчыца Мешыцкай сельскай бібліятэкі Стаўбцоўскага раёна Б. Ліпніцкая — жаданы госць жывёлаводаў мясцовай гаспадаркі. Гэта па яе ініцыятыве ў калгасе праводзяцца ўшанаванні працоўных дынастый.**

**Цікава прайшоў, напрыклад, вечар, прысвечаны сям'і Гудвіловічаў, усе члены якой звязалі свой лёс з сельскай гаспадаркай. Павел Лявонцьевіч 18 гадоў працуе ў жывёлагадоўлі. На Дошцы гонару калгаса — партрэт яго жонкі — лепшай даяркі, дэпутата сельскага Савета Ядвігі Зянонаўны.**

**Актывізавалі работу на фермах і культработнікі Валожыншчыны. Душкаўская сельская бібліятэка арганізавала і правяла дзень культуры на ферме на тэму: «Навукова-тэхнічны прагрэс у сельскай гаспадарцы». Работнікі Лоскай і Суднікоўскай сельскіх бібліятэк перад жывёлаводамі выступілі з аглядамі літаратуры, прысвечанымі развіццю брыгадных форм працы.**

**Шмат цікавага па культурным абслугоўванні жывёлаводаў набыта і ў іншых раёнах. Удасканаленню такой работы садзейнічае Мінскі абласны агляд-конкурс «Жывёлагадоўчым фермам і комплексам — клопаты і ўвагу бібліятэк», які праводзіцца з мэтай больш эфектыўнай прапаганды сельскагаспадарчай кнігі ў вёсцы, укаранення ў вытворчасці дасягненняў навукі, стварэння новых бібліятэк-перасовак, клубаў па інтарэсах.**

**Агляд-конкурс працягнецца да лютага 1987 года. У ім прымуць удзел усе бібліятэкі Мінскай вобласці. Пераможцы будуць адзначаны ганаровымі граматамі і дыпломамі ўпраўлення культуры аблвыканкома.**

**К. ВАЛЮШЭНКАЎ.**

## ФОТАВЕРНІСАЖ «ЛІМа»

# ПОЧЫРК ВІКТАРА БУТРЫ

У аматарскай фатаграфіі найбольш распаўсюджанымі жанрамі з'яўляюцца пейзаж і партрэт. Гэта зусім зразумела — іх спецыфіка дае магчымасць здымаць не спяшаючыся, выбраць зручны момант і як след падрыхтавацца.

Рэпартажныя здымкі, што «спыняюць» адзінае і непаўторнае імгненне, сустракаюцца радзей. Не таму, што жанр гэты менш цікавіць фотааматараў. Проста такая фатаграфія патрабуе пастаяннай гатоўнасці, аператыўнасці, імгненнай рэакцыі на «патрэбны кадр», дасканалага валодання фотакамерай, што дасягаецца доўгай практыкай і таму больш уласціва рэпарцёрам-прафесіяналам.

А між тым цікавасць да аматарскай рэпартажнай фатаграфіі — асаблівая. Бо фотааматар, як правіла, здымае «для сябе», ён не «заціснуты» ў рамкі рэдакцыйнага задання. Калі карэспандэнт-прафесіянал здымае перш за ўсё падзею і адносіны да гэтай падзеі яе ўдзельнікаў, то аматара цікавіць іншае — стан удзельнікаў падзеі і ўласнае стаўленне да яе. І таму падзеяй, вартай здымкі, для аматара можа стаць звычайны на першы погляд факт — сямейны канфлікт ці вулічны эпізод, настрой удзельнікаў якога адпавядае ўнутранаму настрою аўтара. Гэта робіць рэпартажныя фатаграфіі аматараў глыбока асабовымі і індывідуальнымі.

Гэтыя якасці ўласцівы творчаму почырку Віктара Бутры, члена народнага фотаклуба «Мінск». Яму 42 гады, больш за палавіну з іх ён здымае, і часцей за ўсё — у жанры рэпартажу.

Фатаграфіі Бутры — вынік шчаслівага спалучэння пастаяннай гатоўнасці да здымкі з «гатоўнасцю душы» — да назірання, здзіўлення, спачування. Большасць ягоных сюжэтаў не прыдуманы або штучна пабудаваны — яны ўбачаны, па-свойму асэнсаваны і па-майстэрску ўвасоблены. Дакладнасць выбару моманту здымкі здзіўляе настолькі, што паасобку фатаграфіі Бутры здаюцца выпадковымі ўдачамі. Калекцыя ж работ сведчыць, што гэта — вынік імгненнай рэакцыі аўтара. Ён умее прадбачыць далейшае развіццё ўбачанай сітуацыі і апынуцца «ў патрэбны момант у патрэбным месцы» ўжо гатовым да здымкі. Не менш здзіўляе і іншае — на здымках, зробленых сярод мноства людзей, у самай гушчыні падзей, нельга знайсці ніводнага чалавека, які глядзеў бы ў аб'ектыў, — аўтар умее здымаць непрыкметна, не прыцягваючы да сябе ўвагі і не парушаючы сваёй прысутнасцю натуральнасці жыццёвых сітуацый.

В. Бутра адмыслова валодае фотакамерай — здымка не гледзячы ў візір, «усляпую», дае магчымасць фатаграфаваць хутка і непрыкметна, а здольнасць здымаць «з рук» пры доўгіх вытрымках дазваляе рабіць здымкі нават пры вельмі неспрыяльных умовах асвятлення.

Але ўсё гэта — толькі дапаможныя сродкі, «тэхніка». Фатаграфіі Бутры нараджаюцца з неабыякавасці да ўсяго, што адбываецца навокал, надзвычайнай вастрыні «душэўнага зроку», спагадлівасці. Фатаграфіі Бутры драматычныя, часам трагічныя і заўсёды неадназначныя. Тыя з іх, у якіх адметнасць аўтарскага светаўспрымання выявілася найбольш поўна, — непакояць, хвалююць, узрушаюць гледача.

Канфліктнасць, кантраснасць адчувальныя нават у камічных сюжэтах, а іх у аўтара нямала (В. Бутра — удзельнік міжнароднай выстаўкі «Фотасмех-81» у Габраве, ягоная работа «Натхненне дантыста» адзначана дыпломам гэтай прэстыжнай выстаўкі).

Ёсць у Віктара і работы іншага плану, — у якіх жорсткі, энергічны стыль ягоных рэпартажных здымкаў змяняецца далікатнасцю, тонкім лірызмам.

...На штоквартальных конкурсах у клубе «Мінск» новыя фатаграфіі звычайна прадстаўляюць ананімна — каб аўтарытэт удзельнікаў не ўплываў на рашэнне грамадскага журы. Але фатаграфічная «мова» Бутры такая своеасаблівая, што каля планшэтаў са здымкамі часта можна пачуць: «Гэта, несумненна, Бутра».

Юрый БУЙНІЧ.










11 жніўня, 20.15

**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ САМАДЗЕЙНАЙ МАСТАЦКАЙ ТВОРЧАСЦІ.**

Канцэрт вакальнага ансамбля Тураўскага Дома культуры.

12 жніўня, 20.20

**КАНЦЭРТ СІМФАНІЧНАГА АРКЕСТРА БЕЛАРУСКАГА ТЭЛЕБАЧАННЯ І РАДЫЁ.**

Прагучаць Пяць фантастычных танцаў Я. Глебава і арыя з «Бахіяны» бразільскага кампазітара Віла Лобаса.

13 жніўня, 20.10

**«БЕЛАРУСКІЯ КАРЦІНКІ».**

Музычная праграма з удзелам лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, народнага ансамбля песні і танца «Маладосць» ДК упраўлення бытавога абслугоўвання горада Віцебска.

14 жніўня, 18.10

**«МАСТАК І КНІГА».**

Аб культуры кніжнага афармлення.

15 жніўня, 19.50

**«РАДЗІМІЧЫ».**

Літаратурна-мастацкі часопіс.

16 жніўня, 9.40

**«РАМПА ДРУЖБЫ-86».**

Фестываль народных тэатраў Прыбалтыйскіх рэспублік і Беларусі.

16 жніўня, 12.40

**«ПАЭЗІЯ ПЕЙЗАЖА».**

Гаворка пойдзе пра творы мастака І. В. Карасёва, майстра лірычнага пейзажа.

16 жніўня, 17.05

**«МОЙ РОДНЫ КУТ».**

Расказ пра рэвалюцыйныя, баявыя і працоўныя традыцыі Касцюковіцкага раёна.

16 жніўня, 17.40

**Я. СКРЫГАН. «У СТАРЫМ ДОМЕ».**

Інсцэніраванае апавяданне. У ролях — Г. Кухальская і А. Жук.

16 жніўня, 22.55

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ».**

Адбудзецца сустрэча з ансамблем «Інтэграл».

17 жніўня, 13.05

**«ПРЫЕЗДЖЫЯ».**

Спектакль Севастопальскага рускага драматычнага тэатра імя А. В. Луначарскага па творах В. Шукшына.

17 жніўня, 18.20

**«СЯБАР — КНІГА».**

Передача прысвечана праблемам кніжнага гандлю.

17 жніўня, 19.50

**«МАЗАІКА».**

Перадача пазнаёміць з лаўрэатамі і дыпламантамі І Усесаюзнага конкурсу маладых выканаўцаў савецкай песні ў Юрмале.

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

БЕЛАРУСКАЯ БАЙКА. Зборнік. Мн., «Мастацкая літаратура», 1986. — 1 р. 60 к.

Г. ПАПОЎ. На тым, на волжскім беразе. Апавяданні і аповесць. На рускай мове. Мн., «Мастацкая літаратура», 1986. — 1 р. 40 к.

М. СТРАЛЬЦОЎ. Падарожжа за горад. Апавяданні, аповесць. Мн., «Юнацтва», 1986. — 70 к.

М. ЧЫРСКІ. Купалаўскі запаведнік Вязынка. На беларускай і рускай мовах. Мн., «Полымя», 1986. — 30 к.

У. ЮРЭВІЧ. Нястрашны страх. Апавяданні. Мн., «Юнацтва», 1986. — 25 к.



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 21223

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела тэатра і выяўленчага мастацтва — 33-21-53, аддзела музыкі і кіно — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і машынапіснага бюро — 33-44-04, фоталабараторыі — 33-24-62, выдавецтва — 23-52-85, бухгалтэрыі — 23-77-65, карэктарскай — 32-20-64.

Рэдакцыя прымае і разглядае апавяданні, нарысы, артыкулы — да 12 старонак, рэцэнзіі, інтэрв'ю, карэспандэнцыі, нататкі — да 6 старонак, вершаваныя творы — не больш як 150 радкоў. Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы ў двух экземплярах.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.